Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК
Цэнтральнага Бюро Краязнаўства
ПРЫ
ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 10 Кастрычнік 1927

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1927

У. Ігнатоўскі.

# Вывучэньне Кастрычнікавай Рэволюцыі.

Набліжаецца 10-я гадавіна Кастрычнікавай рэволюцыі. Ува ўсіх галінах жыцьця мы падводзім падагульненьні і падлічаем вынікі нашай працы. Ня ўсе поўныя 10 год удалося нам на Беларусі весьці мірную працу, бо 3 гады прышлося змагацца з зброяю ў руках за канчатковую перамогу Кастрычніка на нашай тэрыторыі. Тры разы заходні імпэрыялізм пасылаў на Беларусь сваіх найміт аў; тры разы тэрыторыя Беларусі залівалася крывёю рабочых і сялян, абараняўшых заваёвы Кастрычніка. Зразумела, што ў гэтыя тры гады, калі грымелі пяруны вайны, цяжка, нават немагчыма, было аддаваць шмат часу мірнай працы. І компартыя, і ўсе рабочыя, сяляне і працаўнікі пролетарскай культуры павінны былі прыймаць удзел у збройнай барацьбе.

Але сем год ужо нашы. За гэтыя сем год шпарка разьвінулася праца ў розных галінах творчасьці і вынікі яе відаць на кожным кроку. Нам трэба прасачыць, што зроблена намі па вывучэньні Кастрычнікавай рэволюцыі за гэтыя часы.

Яшчэ ня зусім скончылася збройная барацьба, а ўжо на Беларусі зьявілася першая кніжачка па вывучэньні Кастрычніка. Напісаў яе адзін з віднейшых барацьбітоў Кастрычніка. Я разумею кніжачку В. Кнорына пад назваю: „Революция и контрреволюция в Белоруссии“, якая вышла з друку ў 1920 годзе ў Смаленску. Кніжка ахапляе час з лютага 1917 г. да лютага 1918 г. Аўтар дае яскравы малюнак паступовага разьвіцьця барацьбы за Кастрычнік на Беларусі, асабліва ў Менску; апісвае і дае лічбы паступовага і хуткага росту партыі бальшавікоў, якая бурна расла ў канцы кастрычніка. Асабліва падрабязна апісаны падзеі, пачынаючы з 25 кастрычніка да 7 лістапада, вызначана роля Менскага Гарадзкога Савету ў гэтыя часы і зроблена марксыцкае асьвятленьне падзей.

У гэтым-жа годзе (1920) вышла з друку і яшчэ адна кніжачка ў польскай мове: „Z. Angarietis. Walka o ziemie w okupacji polskiej“. Брошура ахапляе падзеі з канца 18 году да пачатку 1920 году і дае малюнак барацьбы за зямлю ў часы польскай окупацыі на Літве Беларусі.

У 1921 годзе вышлі з друку дзьве кніжкі, якія даюць нам матар‘ялы для вывучэньня Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі. Першая з іх—журнал Народнага Камісарыяту Асьветы Беларусі. „Школа и культура Советской Белоруссии“ № 1—2. Адзін артыкул журналу (гл. стар. 66) дае нам малюнак дрэннага становішча школы ў часы белапольскай окупацыі і рэволюцыянізацыі настаўніцтва, якое скончыла забастоўкаю. Другі артыкул З. Жылуновіча „К новаму жыцьцю“ (стар. 1 беларускага аддзелу) дае кароткі нарыс гісторыі Беларусі да Кастрычнікавай рэволюцыі, пералічае ўсё тое, што даў Беларусі Ка-

стрычнік, і вызначае напрамак далейшай працы. Перад 3-м Зьездам Саветаў Беларусі, як перадзьездаўскі матар'ял, вышла кніга пад назваю „Советская Белоруссия". Паміж іншымі матар'яламі тут зьмешчаны „Манифест Временного Революционного Рабоче-Крестьянского Советского Правительства" (стар. 7) і „Декларация о провозглашении независимости Советской Социалистической Республики Белоруссии" (стар. 8).

Значна больш па вывучэньні Кастрычнікавай рэволюцыі было зроблена ў 1922 годзе. У штомесячніку Цэнтр. Бюро КПБ „Вперед" № 1 па аддзелу „Истпарт" зьмешчан артыкул К. Ландэра „Отрывки из воспоминаний". Успаміны ахапляюць пэрыод з лета 1917 г. да пачатку нямецкай окупацыі (люты 1918 г.). Успаміны яскрава малююць барацьбу рэволюцыі з контррэволюцыйнымі сіламі на Беларусі. Ніякіх вывадаў і ацэнак падзей аўтар ня робіць, ён проста ўспамінае тыя моманты барацьбы, якія лічыць цікавымі і маючымі важны зьмест.

Летам гэтага-ж году ў пятую гадавіну аднаўленьня організацыі бальшавікоў у Менску Гістпарт КПБ выдаў кніжку В. Кнорына пад назваю „Пять лет", дзе даецца кароткі конспэкт гісторыі компартыі па Беларусі з 17 (4) чэрвеня 1917 году да чэрвеня 1922 году.

У пачатку восені 1922 году вышла з друку асобнай кніжкай поэма М. Чарота „Босыя на вогнішчы", якая зьяўляецца мастацкім апісаньнем трохгадовай барацьбы на Беларусі „працы з багацьцем", праўды з „няпраўдай". Да поэмы дададзены „Крытычны нарыс" У. Ігнатоўскага і артыкул В. Кнорына „На пути к белорусской пролетарской поэзии". Абодвы артыкулы зьяўляюцца крытычным разглядам як поэмы, так і падзей, апісаных у ёй.

У кастрычніку 1922 году вышаў № 4 вышэйпамянёнага штомесячніка „Вперед". У часопісу ў аддзеле Гістпарту зьмешчан артыкул Р. Пінкэля пад назваю „Канун Великого Октября", скончаны ўжо ў № 5 часопісу. Артыкул зьяўляецца ўспамінамі аўтара, які быў адным з відных членаў аднаўленай бальшавіцкай організацыі ў Менску. Артыкул дае многа месца апісаньню барацьбы комфракцыі ў Гарадзкім Менскім Савеце са згодніцкімі партыямі, вынікнавеньня ў Менску бальшавіцкай „Ваеннай організацыі" і заснаваньня партыйнай газэты „Звезды", якая пасьля павінна была прыняць назву „Буревестник".

З сьнежня 1922 году пачаў выдавацца добра вядомы нам часопіс „Полымя". У першым-жа яго нумары (стар. 41) быў зьмешчан артыкул З. Ж., дзе даецца аналіз падзей і фактаў, зьвязаных з заснаваньнем Беларускай Савецкай рэспублікі 1-га студзеня 1919 году.

У 1923 годзе зьявіліся ў друку два артыкулы З. Жылуновіча. „Першы з іх пад назваю „Два бакі беларускага руху" зьмешчан у часопісе „Полымя" за 1923 г. № 3—4, стар. 69—74. Артыкул дае характарыстыку двух напрамкаў беларускага руху з сярэдзіны 1917 г. Адзін напрамак сконцэнтраваўся ў Менску і будаваўся на грунце адзінага нацыянальнага фронту; другі апіраўся на рабочыя масы Ленінграда і стаяў на грунце адзінага пролетарскага рэволюцыйнага фронту. Другі артыкул пад назваю—„Уступамі да Акцябра" зьмешчан у №№ 5—6 і 7—8 часопісу „Полымя". Перад намі вельмі каштоўны артыкул, у якім малюецца барацьба за Кастрычнік і за Савецкую Беларусь ленінградзкага напрамку з напрамкам менскім. Артыкул, апроч асьвятленьня падзей, дае шмат каштоўных архіўных матар'ялаў.

У двух першых нумарох часопісу „Полымя" за 1924 год зьмешчаны артыкулы Ж. Х. З., у якіх распрацоўваюцца далей пытаньні,

закранутыя ў 1923 годзе. Другі артыкул (№ 2, стар. 163) пад назваю „Організацыя сіл“ апісвае працу Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту ў Маскве і яго ідэолёгічную барацьбу з менскімі беларускімі незалежнікамі. Дадзены вельмі цікавыя матар‘ялы па гісторыі бежанскага зьезду ў Маскве ў ліпні 1918 году. Першы артыкул (№ 1, стар. 163) пад назваю „Ад кастрычніка 1917 г. да лютага 1918 г.“ дае гісторыю барацьбы за Савецкую Беларусь у гэты пэрыод. У артыкуле ёсьць шмат матар‘ялу да гісторыі так званага Ўсебеларускага Конгрэсу ў Менску.

У № 2—3 часопісу „Маладняк“ за гэты год мы знаходзім два артыкулы: адзін У. Ігнатоўскага, пад назваю „У кіпцюрох белага арла“ (стар. 30—38) і другі—Я. Каліны пад назваю—„У дні белапанскага панаваньня“ (стар. 39—44). Абодвы артыкулы ахапляюць пэрыод польскай окупацыі з сярэдзіны 1919 да сярэдзіны 1920 году.

У сярэдзіне 1924 году вышаў з друку зборнік пад назваю „Комсомол Белоруссии. Пять лет на аванпостах“. Зборнік выдадзен у сувязі з пяцігодзьдзем КСМ Беларусі. У прадмове рэдакцыя зборніка вызначае: „В нашем сборнике собрана история нашего союза, есть у нас свои предшественники—это те падростки, юноши, которые в годы до революции были участниками стачек, демонстраций; это те подростки, юноши, которые составляли первые юношеские организации в нашем крае“. Як відаць з вышэйпаданага, зборнік ахапляе часы рэволюцыі з 1905 году, але найбольш матар‘ялаў датычыць Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі, асабліва эпохі польскай окупацыі. Зборнік дае вельмі цікавыя ўспаміны шэрагавых барацьбітоў за Кастрычнік.

У гэтым-жа годзе вышаў з друку вельмі каштоўны зборнік „Беларусь“, які зьмяшчае ў сабе нарысы гісторыі, экономікі, культурнага і рэволюцыйнага руху на Беларусі. Зборнік дае цэлы шэраг артыкулаў па гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі да Кастрычнікавай рэволюцыі. Што датыча падзей і асьвятленьня Кастрычніка, дык тут мы першы раз бачым вельмі шырокую пастаноўку пытаньня. Гэтаму пытаньню тут прысьвечана шмат артыкулаў, якія асьвятляюць яго з усіх бакоў. У зборніку зьмешчаны ніжэйпаданыя артыкулы: З. Жылуновіч. „Люты-Кастрычнік на Беларусі“, У. Ігнатоўскі. „Вялікі Кастрычнік на Беларусі“ (X 1917 г.—11, VII, 1920 г.), В. Кнорын. „Комуністычная партыя на Беларусі“, М. Гуткоўскі. „Утварэньне Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі Беларусі і формы фактычнай сувязі яе з РСФСР“. У. Ігнатоўскі. „Комуністычная партыя Беларусі і беларускае пытаньне“, А. Славінскі. „Зямельнае пытаньне“. Усе артыкулы апрацованы па крыніцах, часам вельмі рэдкіх. На жаль, зборнік „Беларусь“ у свой час быў надрукаваны ў малым ліку паасобнікаў (2000), і цяпер яго даволі цяжка знайсьці.

У 1925 годзе Гістпарт ЦК КПБ (аддзелам па вывучэньні Кастрычнікавай рэволюцыі) выдаў зборнік пад назваю „Памятник борцам, погибшим за освобождение Белоруссии“. Рэдакцыйная колегія зборніка ў прадмове вызначае тыя крыніцы, якімі яна карысталася пры складаньні кнігі і так гаворыць аб значэньні зборніка: „Сборник имеет большое значение, так как в большей части биографий погибших товарищей очень ярко отражаются все наиболее важныя моменты истории гражданской войны в Белоруссии. Особенно большое значение сборник имеет для нашей молодежи, которая на примерах павших научится бороться и доведет начатое ими дело до окончательной победы“. З такою ацэнкаю зборніка бязумоўна трэба згадзіцца.

Тым-жа самым аддзелам Гістпарту КПБ па вывучэньні Кастрычнікавай рэволюцыі ў гэтым-жа годзе была выдадзена кніжка В. Кнорына пад назваю: „1917 год в Белоруссии и на Западном фронте“. Гэтая кніжка зьяўляецца перапрацоўкаю першай кніжкі па вывучэньні Беларусі, напісанай аўтарам яшчэ ў 1920 годзе, аб якой мы гаварылі вышэй („Революция и контрреволюция в Белоруссии“). Выданьне гэтай кніжкі з перапрацоўкай і дадаткамі мае вялікае значэньне, бо першае яе выданьне даўно ўжо разышлося. Асноўную думку кніжкі аўтар у прадмове вельмі правільна і яскрава вызначае так: „Основателем и создателем коммунистической организации в Белоруссии была старая большевистская гвардия, заброшенная в Белоруссию войной из Ленинграда, Москвы, Иванова и т. д. и нашедшая здесь широкое поле для партийной работы в рабочей и солдатской массе и среди белорусского крестьянства. Местные-ж белорусские и еврейские (бундовские) революционные организации и их старые лидеры еще долгое время продолжали оставаться под влиянием мелкой буржуазии. В тяжелых испытаниях гражданской войны им пришлось выбирать между буржуазной демократией и диктатурой пролетариата—и они пошли за победившим пролетариатом“. Книжка выдадзена вельмі акуратна і мае добра зробленыя ілюстрацыі.

У некаторых кніжках, якія вышлі ў 1925 годзе таксама ёсьць артыкулы, прысьвечаныя Кастрычніку на Беларусі. Адпаведныя аддзелы ёсьць у кніжцы У. Ігнатоўскага—„Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецьця“, у кніжцы Я. Пятровіча „Адноўленая Беларусь“ і часопісе „Маладняк“ № 8 (артыкул І. Барашкі).

У 1926 годзе зьявілася кніжка раней у яўрэйскай, пасьля ў расійскай мове С. Агурскага пад назваю: „Еврейский рабочий в коммунистическом движении“ (1917—1921). Кніжка мае каштоўнасьць як наогул, так асабліва таму, што яна папоўніла той прабел, які быў дагэтуль па вывучэньні Кастрычніка на Беларусі. Яна дала цікавыя матар'ялы аб удзеле яўрэйскай рабочай масы ў соцыяльнай рэволюцыі ня толькі на Беларусі, але і на Украіне. Апроч таго, кніжка высьветліла „вынікнавеньне і разьвіцьцё комуністычных ідэй сярод яўрэйскіх рабочых і барацьбу, якую прыходзілася весьці комуністычнай партыі проці яўрэйскіх дробна-буржуазных і нацыяналістычных організацый, як Бунд, Поалей Цыон і інш.“ (гл. прадмову). Кніга мае шмат фотографічных здымкаў з гістарычных докумэнтаў і шмат ілюстрацый наогул.

Асабліва многа было зроблена па вывучэньні Кастрычніка на Беларусі ў бягучым 1927 годзе.

У пачатку году быў выдадзены Саветам Народных Камісараў Беларусі вялікі, каштоўны зборнік пад назваю „Белорусская Советская Социалистическая Республика“ ў расійскай і беларускай мове. Апроч апісаньня тэрыторыі, насельніцтва, экономікі і культуры сучаснай Беларусі, тут ёсьць „Гістарычны нарыс“ Беларусі, напісаны А. Цьвікевічам у гэтым нарысе вылучана адпаведнае месца і Кастрычнікавай рэволюцыі.

Орган ЦК КПБ „Бальшавік Беларусі“ зьвярнуў вялікую ўвагу на высьвятленьне Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі. Амаль што ў кожным яго нумары мы знаходзім артыкулы прысьвечаныя разгляду гэтага пытаньня. У аддзелах часопісу Гістпарт мы знаходзім

ніжэйпаданыя артыкулы: 1) А. Мясьнікоў. „Кастрычнік і яго вынікі“ (№ 1—2, стар. 34), 2) Калмановіч. „Кастрычнікавая рэволюцыя і рэволюцыйны камітэт Заходняй Вобласьці і фронту“ (№ 1—2, стар. 38), 3) А. Мясников. „Падготовка Октября. Воспоминия“. (№ 3, стар. 31), 4) В. Кнорин. „Звезда і Минский Совет“ (№ 3, стар. 37), 5) М. Хатаевіч. „Гомельская бальшавіцкая організацыя. З успамінаў“ (№ 4, стар. 15), 6) Г. Лелевіч (Л. Магілеўскі) „Кастрычнікавыя дні ў Магілеве. Адрывак з успамінаў“ (№ 4, стар. 26), 7) Агурскі. „Роля дробнабуржуазных партый на Беларусі ў Кастрычнікавай рэволюцыі“ (№ 5, стар. 69) Артыкулы зьяўляюцца найчасьцей успамінамі ўдзельнікаў рэволюцыі і даюць шмат новых каштоўных матар‘ялаў.

Цэнтральная камісія па правядзеньні 10 гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі разам з ЦК КСМБ выпусьціла вельмі цікавую кнігу двух маладых аўтараў Б. Олікера і Л. Розэнблюма пад назваю: „Нарысы па гісторыі Комсамолу Беларусі“. Кніга дзеліцца на тры разьдзелы. Першы разьдзел дае малюнак юнацкага руху на Беларусі да рэволюцыі 1917 году. Гэты разьдзел дае гістарычныя перадпасылкі да Кастрычнікавай рэволюцыі. Два другія аддзелы: а) „на шляхох да Комсамолу“ і б) „першыя крокі Комсамолу Беларусі“, апроч непасрэднага заданьня, даюць нам яскравы малюнак удзелу моладзі Беларусі ў Кастрычнікавай рэволюцыі. У прадмове да кніжкі т. В. Кнорын піша: „Рэкомэндуючы гэту кнігу самым шырокім гушчам моладзі Беларусі, мы спадзяемся, што яна падыме новыя пласты да актыўнай творчай комсамольскай працы, што яна будзе адчуваць рэволюцыйны энтузыязм новых пластоў моладзі,—а гэта ёсьць адна з умоў пераможнага социялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне“.

Тая-ж камісія разам з Гістпартам выдала вельмі каштоўную і цікавую кніжку А. Чарвякова пад назваю „За Савецкую Беларусь“. Аўтар у прадмове піша так: „Кніжка „За Савецкую Беларусь“ ёсьць спроба даць кароткі, конспэктыўны агляд галоўных этапаў барацьбы за Савецкую Беларусь, а разам растлумачыць найбольш зразумела, чаму толькі шлях Савецкай улады, шлях дыктатуры пролетарыяту пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі зьяўляецца адзіна правільным і адзіна адпавядаючым інтарэсам рабочых і сялян Беларусі ў іх барацьбе за лепшую будучыну, за соцыялістычны парадак жыцьця“. Мы павінны зазначыць, што гэтая спроба вельмі ўдалася аўтару. Глыбокі аналіз фактаў, цэлы шэраг новых нявыкарыстаных дагэтуль матар‘ялаў, устанаўленьне правільнага падыходу да цэлага шэрагу фактаў, стройнасьць і пасьлядоўнасьць у разьмеркаваньні матар‘ялу і ўрэшце прастата і популярнасьць кніжкі—усё гэта робіць гэты твор вельмі карысным і неабходным. Асаблівую вартасьць для гісторыка Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі маюць артыкулы—I. На перагібе гісторыі, II. Беларусь перад Кастрычнікавай рэволюцыяй, III. Кастрычнік на Беларусі і VII. Беларускае пытаньне па-за межамі Савецкіх Рэспублік. Апошні артыкул цікавы яшчэ таму, што аўтар дае дэтальны агляд эканомічнага і палітычнага становішча заходняй часткі этнографічнай Беларусі (у Польшчы, Літве і Латвіі) і сама сабою перад чытачом паўстае проблема гістарычнай неабходнасьці Кастрычніка для Заходняй Беларусі.

Нядаўна вышла з друку пад рэдакцыяй С. Агурскага цікавая кніга-зборнік пад назваю: „Кастрычнік на Беларусі“. Кніга выдадзена Камісіяй ЦВК па правядзеньні 10 гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі і Гістпартам ЦК КПБ. У прадмаве вызначана літара-

тура па вывучэньні Кастрычніка на Беларусі дагэтуль, якая была выдадзена ў Віцебску і Гомелі. У кніжцы сабраны ўспаміны ўдзельнікаў Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі, якія абхапляюць 1917, 1918 і 1919 гады. Больш 170 старонак дадзена на друк гістарычных докумэнтаў таго часу, яны вельмі ўзбагацілі лічбу крыніц па вывучэньні пытаньня. Кніга багата аздоблена ілюстрацыямі (67 малюнкаў).

Зараз рыхтуюцца юбілейныя нумары—часопісаў—„Бальшавік Беларусі“ „Полымя“, „Маладняк“, „Узвышша“, „Наш Край“, „Работніца і сялянка“, „Асьвета“ і інш. Усё гэта значна яшчэ ўзбагаціць літаратуру па вывучэньні Кастрычніка на Беларусі, якая ўжо і на сягоньня складае каля 120 друкаваных аркушаў.

---



А. Казак.

# Краязнаўства ў БССР к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавай Рэволюцыі.

### I. Задачы краязнаўства і рост краязнаўчага руху.

Краязнаўчая справа на Беларусі к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавай Рэволюцыі разгарнулася ў агромністы грамадзкі рух, організацыі якога ахапляюць сабой больш 9000 членаў розных катэгорый працаўнікоў і дасягаюць самых глухіх куткоў Рэспублікі. Гэтым выконваецца галоўнейшая задача, высунутая Кастрычнікавай Рэволюцыяй перад працоўнымі масамі Савецкага Саюзу, якая заключаецца ў вырашэньні пастаўленага ёю пытаньня аб соцыялістычным будаўніцтве. Вядома, што пры ўсякім будаўніцтве патрэбна веданьне ўсіх умоў і абставін, у якіх яно адбываецца, тым больш гэта патрэбна пры соцыялістычным будаўніцтве.

Апошняе-ж, як аб гэтым не аднойчы гаварыў нам вялікі правадыр У. І. Ленін, магчыма пры магутным удзеле шырокіх працоўных мас і працоўнай інтэлігенцыі.

Кастрычнікавая Рэволюцыя, якая абудзіла шырокія працоўныя масы, якая дала ім магчымасьць будаваць сваё політычнае, экономічнае і культурнае жыцьцё адпаведна сваім запатрабаваньням, выклікала агульную і ў поўнай меры зразумелую зацікаўленасьць да вывучэньня жыцьця мас і ўмоў іх працы.

Краязнаўчыя організацыі, якія ставяць сваёй мэтай усебаковае вывучэньне краю сіламі мясцовых працаўнікоў, якія яднаюць у сваіх шэрагах гэтыя сілы, якраз і прыходзяць на дапамогу Савецкай уладзе ў вырашэньні гэтага пытаньня.

Усебаковае вывучэньне мясцовага краю мае значэньне як з боку тэорэтычнага, гэтак і практычнага. Вывучэньне мясцовага краю выявіць тыя багацьці, якія ёсьць у краі і пакажа, як трэба да іх адносіцца і як іх скарыстоўваць.

Важнасьць гэтага пытаньня асабліва павялічваецца ў такіх краінах, як наша Рэспубліка, дзе вучоных спэцыялістых вельмі мала, а сродкі на дасьледваньне абмежаваны. У такіх краінах неабходна на мясцох знайсьці адпаведную колькасьць сьвядомых і зацікаўленых гэтай справай людзей, якія-б заняліся вывучэньнем мясцовага краю.

Краязнаўства зьяўляецца адначасова справай навуковай і грамадз-

кай. Яно ахапляе сабой усіх тых, якія цікавяцца вывучэньнем сваёй мясцовасьці незалежна ад заняткаў і ведаў: ужо ня кажучы аб навуковых працаўнікох, у гэтай справе можа быць карысным і вясковы інтэлігент і рабочы, і селянін, і моладзь. Неабходна толькі адна ўмова—зацікаўленасьць справай.

Адгэтуль вынікае тая розьніца, якая назіраецца паміж сучасным грамадзкім краязнаўствам і дарэволюцыйным. Вось як аб гэтым гаворыць кразянаўца Н. А. Дорогутін[1]) „Если центр тяжести в дореволюционную эпоху в научных краеведных учреждениях лежал в изучении исторического прошлого страны, если после революции доминировало в работе краеведных учреждений изучение природы края, то сейчас мы видим, что современное краеведение окрасилось в „экономические тона".

Другі краязнаўца С. Д. Яхантаў гэтую думку даводзіць яшчэ ясьней: „Современность повелительно подсказывает исследователю местной жизни, на чем останавливать свое внимание. На работах местных обществ краеведения не может не отражаться новая жизнь".

„Краязнаўства і сучаснасьць", вось асноўная адзнака і кірунак працы краязнаўчых організацый пасьлярэволюцыйнага часу. „Сучаснае краязнаўства цікавіцца ня чыста гістарычнымі, этнографічнымі або прыродазнаўчымі пытаньнямі; яно орыентуецца на будаўніцтва ўва ўсіх яго праявах, грунтуецца на сучаснасьці і выкарыстоўвае мінулае, як матар'ял для будучыны"[2]).

Краязнаўчы рух у БССР пад ідэёвым кіраўніцтвам Комуністычнай партыі і разьвіваецца ў адзначаным кірунку: к сучаснаму моманту ён пранік да нізавых адміністрацыйных адзінак, як сельсаветы, утварыў для іх вывучэньня сельсавецкія гурткі і ўцягнуў у свае шэрагі шырокія масы працоўных. Усяго па БССР, згодна апошняга падліку ўсіх краязнаўчых організацый налічваецца 240. З гэтага агульнага ліку—акруговых таварystваў краязнаўства—8, раённых—101 і нізавых гурткоў краязнаўства—66. Апрача гэтага ў навучальных установах налічваецца: 2 таварыства краязнаўства вышэйшай школы і 63 школьныя і тэхнікумаўскія краязнаўчыя гурткі.

Усе гэтыя організацыі ахапляюць 9.389 членаў, з якіх асьветнікаў каля 70%, рабочых і сялян каля 5%, вучняў каля 23% і іншых каля 2%. Гэтыя лічбы сцьвярджаюць выказаную раней думку аб шырокім удзеле мас у краязнаўчай справе.

### II. Этапы разьвіцьця краязнаўчага руху за апошні час.

Шырокае разьвіцьцё грамадзкага краязнаўства ў БССР пачынаецца з 1920 г. пасьля вызваленьня краіны ад нямецкай і польскай окупацый. У першыя гады пасьля Кастрычніка краязнаўства на Беларусі не магло разгарнуцца, бо ўсе лепшыя сілы прымалі актыўны ўдзел у барацьбе за палітычнае, соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. І толькі ў восень 1920 г. па вызваленьні краіны ад окупацыі паноў пачалі ўзьнікаць краязнаўчыя організацыі—гурткі, а потым і таварыствы. Раней усяго організавалася Слуцкае Павятовае Таварыства Краязнаўства (у 1923 г.), а потым Віцебскае Губ. Бюро Краязнаўства (1923 г.), рэорганізаванае ў 1924 г. у Віцебскае Таварыства Краязнаўства. Таксама ў 1924 г. організаваліся—Магілеўскае, Аршанскае і б. Барысаўскае акруговыя тава-

[1]) Н. А. Дорогутин. Краеведение, его современное значение и роль любителей в деле изучения страны. „Первые шаги краеведа", стар. 15.

[2]) Ад рэдакцыі час. „Наш край" № 1 за 1925 г., стар. 3.

рыствы краязнаўства. Усе астатнія акруговыя таварыствы краязнаўства—Менскае, Бабруйскае, Мазырскае, Полацкае і б. Калінінскае, а таксама большая частка раённых краязнаўчых таварystваў арганізавалася ў 1925 г.

Наогул трэба адзначыць, што 1925 і 26 г. г. былі гадамі найвялікшага ўздыму і арганізацыі працоўных мас з мэтай дапамогі вялікаму соцыялістычнаму будаўніцтву. Так нарастала зьнізу стыхійна новая грамадзкая плынь—разьвіцьцё краязнаўчага руху.

Неабходна было аўладаць гэтым рухам, укласьці яго ў пэўныя формы і даць яму належны кірунак. У гэтых мэтах Інстытут Беларускае Культуры ў сьнежні 1923 г. вылучыў камісію з трох сяброў для арганізацыі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, якое і было зацьверджана 1 студзеня 1924 г.

На арганізацыйным сходзе Цэнтральнага Бюро Краязнаўства было пастаноўлена перакласьці на беларускую мову Статут расійскіх краязнаўчых арганізацый, укласьці неабходныя інструкцыі і зьвязацца з мясцовымі краязнаўчымі арганізацыямі.

З гэтага часу краязнаўчы рух на Беларусі прымае больш-менш арганізаваны характар. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства зарэгістравала ўсе краязнаўчыя арганізацыі і зьвязалася з краязнаўчымі ўстановамі Саюзных Рэспублік.

У сакавіку 1924 г. ім была склікана І Менская Краязнаўчая Конфэрэнцыя, а ў лістападзе гэтага-ж году І Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя.

Ня глядзячы на буйны рост, краязнаўства ў гэтыя гады ня вылілася ў пэўныя формы: яно іх вывучала і адшуквала. І толькі І Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд, які адбыўся 7—11 лютага 1926 і II Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд у лютым 1927 г., канчаткова замацавалі формы краязнаўчага руху.

Такімі вывучанымі і праверанымі ў процэсе практыкі формамі аказаліся гурток у сельсавеце ці пры якой-небудзь асьветнай установе, раённае таварыства краязнаўства і акруговае. У падставу пры арганізацыі краязнаўчага аб‘яднаньня пакладзены тэрыторыяльны прынцып.

Апрача гэтага пры навучальных установах (школах-сямігодках, тэхнікумах) організуюцца школьныя краязнаўчыя гурткі, а пры вышэйшых школах—таварыствы. Для ўнясеньня яснасьці ўва ўзаемаадносіны паміж краязнаўчымі арганізацыямі, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства склала на падставе праверанага вопыту статуты для ўсіх форм краязнаўчых арганізацый, як агульных, гэтак і тых, што знаходзяцца ў навучальных установах. У статутах паказаны мэты і задачы кожнага віду аб‘яднаньня, яго арганізацыйная структура і ўзаемасувязь з вышэйстаячай тэрыторыяльнай арганізацыяй.

Вывучэньне форм і мэтодаў краязнаўчай працы, накіраваньне, организацыю і падлік яе вядзе Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.

Да апошняга часу ЦБК вяло гэтую працу, ня маючы свайго статуту. Зараз гэты статут апрацаваны і павінен быць у хуткім часе зацьверджаны. З прыняцьцем яго закончыцца арганізацыйнае афармленьне краязнаўчай сеткі БССР.

Такім чынам к дзесяцігодзьдзю Кастрычніка краязнаўства вылілася ў пэўныя арганізацыйныя формы; задачай бліжэйшага пэрыоду павінна стаць больш глыбокая праца па вывучэньні і дасьледваньні кожнай арганізацыяй сваёй мясцовасьці.

## III. Конкрэтныя дасягненьні ў працы краязнаўчых організацый.

У навуковай галіне галоўным заданьнем краязнаўчых організацый на мясцох, паводле пастаноў I і II Ўсебеларускіх Краязнаўчых Зьездаў, павінна быць вывучэньне і дасьледваньне раёнаў.

Дзеля таго каб даць магчымасьць краязнаўчым організацыям на мясцох азнаёміцца з мэтодамі і формамі працы, Цэнтральнае Бюро Краязнаўства стала ў 1925 г. на шлях выданьня свайго спэцыяльнага часопісу „Наш Край“, у якім друкуюцца ўвесь час інструкцыйныя і мэтодычныя ўказаньні спэцыялістых па дасьледваньні і вывучэньні таго ці іншага пытаньня, а таксама зьмяшчаюцца практычныя працы краязнаўцаў. Усяго за два гады выдрукавана 72 экз. інструкцый, анкет і програм, з якіх па прыродна-географічнай галіне—32, грамадзка-экономічнай—15 і 12 па культурна-гістарычнай галіне*).

Як можна бачыць, у гэтым напрамку было зроблена шмат; адчуваецца толькі недастача кіраўнічага матар'ялу ў галіне грамадзка-экономічнай. У гэты бок у апошні час накіравана належная ўвага.

Каб паказаць прыклад, як рабіць вывучэньне раёну, ЦБК выдзеліла адзін раён Бабруйскай акругі, Асіпавіцкі, як ударны і зьвярнула на вывучэньне яго асаблівую ўвагу. Вынікам гэтага павінна быць усебаковае апісаньне гэтага раёну, першая частка якога падрыхтавана да друку і апісаньне двох сельсаветаў— Замоскага і Зборскага—старшынёй раённага краязнаўчага таварыства т. Немцавым. Апісаньне раёну будзе мець больш навуковы характар, апісаньне адзначаных вышэй сельсаветаў зьяўляецца працай краязнаўчай організацыі і павінна паслужыць узорам у працы па апісаньні іншым краязнаўчым аб'яднаньням.

Акруговыя таварыствы краязнаўства таксама праводзяць вывучэньне выдзеленых імі раёнаў.

Апрача гэтага ўсе краязнаўчыя організацыі забясьпечаны краязнаўчай літаратурай популярнага зьместу па ўсіх галінах краязнаўчай справы, што дае магчымасьць мясцовым краязнаўцам добра орыентавацца ў справе вывучэньня краю.

Трэба адзначыць, што, дзякуючы гэтым мерапремствам, а таксама належнаму кіраўніцтву з боку некаторых акруговых краязнаўчых таварыстваў, сярод раённых таварыстваў краязнаўства вызначыліся такія, якія маюць пэўныя дасягненьні ў галіне вытворчай дзейнасьці: зроблена вывучэньне і апісаньне тых ці іншых вёсак, сельсаветаў, мясцовай прамысловасьці, вядзецца апісаньне прыродных зьяў, вывучэньне багацьцяў і г. д. Апісаньні гэтыя часткова друкаваліся ў часопісу „Наш край“, а іншыя —у выданьнях акруговых краязнаўчых таварыстваў. Амаль у кожнай акрузе вызначылася па адным-два раёны, якія распачалі навукова-дасьледчую краязнаўчую працу.

Конкрэтным вынікам гэтай працы зьяўляецца організацыя некаторымі раённымі краязнаўчымі таварыствамі краязнаўчых музэяў, аб чым ужо, як дадатны бок, адзначалася ў працах II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду. Справа па організацыі мясцовых краязнаўчых музэяў асабліва павінна шырака разгарнуцца ў сувязі з сьвятам дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі.

Каштоўнейшыя экспонаты мясцовых выставак (дыяграмы, картограмы, плякаты, даклады і інш.), якія адбіваюць дасягненьні нашай гаспадаркі, прамысловасьці і культуры к 10 гадавіне Кастрычніка, павінны быць абавязкова захаваны і стаць падвалінай у заснаваньні мясцовага

*) Пералік інструкцый у аддзеле „Бібліографія“ ў гэтым № „Н. К.“

музэю. Гэта неадкладная задача ўсёй нашай грамадзкасьці на мясцох. У гэтым кірунку Ц. Кам. БССР па правядзеньні 10 гадавіны Кастрычнікавай рэволюцыі і Ц. Б. Краязнаўства мясцам дадзены належныя ўказаньні. Краязнаўчым організацыям супольна з мясцовымі камісіямі па правядзеньні сьвяткаваньня неабходна зрабіць усё дзеля ажыцьцяўленьня гэтага заданьня. Яшчэ больш значную працу робяць мясцовыя краязнаўчыя організацыі ў справе дапамогі навуковым установам БССР, якія вядуць дасьледваньне ці вывучэньне краіны. У гэтым напрамку, апрача непасрэднага выконваньня краязнаўчымі організацыямі заданьняў Інстытуту Беларускае Культуры, з якім яны сьцісла зьвязаны, апошнія дасылаюць матар'ялы Н. Д. Інстытуту імя Леніна, Горацкай Сельска-Гасп. Акадэміі і ЦБК РСФСР.

За апошнія два гады краязнаўчымі організацыямі дасланы Інбелкульту наступныя матар'ялы: Слоўнікавай камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой мовы 156.658 картак-слоў, апрача 42.000 картак-слоў дасланых акруговым таварыствам, Фольклёрнай камісіі 11.804 экзэмпляраў вуснай народнай творчасьці (песень, казак, загадак, прыказак і інш.), зарысовак і ўзораў тканін 197, іншых розных рэчаў 757.

Апрача гэтага праводзілася анкетнае вывучэньне па заданьнях сэкцый ці камісій ІБК тых ці іншых пытаньняў. За гэты час праводзілася вывучэньне бюджэту часу селяніна, хатніх рамёстваў, коопэрацыйнага апарату, звычаёвага права, монографічнае апісаньне паселішч. Усяго па гэтых пытаньнях даслана кразнаўчымі організацыямі 490 запоўненых анкет. Некаторыя з гэтых анкет камісіямі апрацаваны і на падставе іх зроблены вывады, а астатнія апрацоўваюцца.

Зараз праводзіцца выпраўленьне націскаў у мясцовых назвах паселішч і самых назваў для географічнай карты прамысловасьці па заданьнях Картографічнага Бюро ВСНГ, вывучэньне і дасьледваньне асаблівасьцяй народных гутарак паводле програм проф. Бузука і С. Некрашэвіча, укладаньне архэолёгічнай карты кожнай акругі, вывучэньне санітарна-бытавога дасьледваньня вёскі і інш.

На працягу двох год вядуцца шмат якімі раённымі краязнаўчымі організацыямі сталыя мэтэоролёгічныя назіраньні, каторыя, як сьведчыць Заг. Мэтстанцый НКЗ, вядуцца здавальняюча і значна дапамагаюць справе вывучэньня клімату краіны.

Увесь гэты пэрыод вядуцца і фэнолёгічныя назіраньні, але апошнія, з прычыны адсутнасьці да гэтага часу пэўнага цэнтру, не насілі (апрача Мазырскай акругі) плянавага і сталага характару. Зараз прыняты меры да ўрэгуляваньня і наладжаньня гэтай справы, пры ЦБК організавана сталая Фэнолёгічная камісія, якая будзе весьці апрацоўку матар'ялаў; прыняты таксама належныя крокі да заснаваньня на мясцох у кожным раёне ня менш аднаго сталага фэнпункту. Наладжаньне гэтай справы павінна мець вялікае значэньне, як з боку навуковага гэтак і практычнага.

У сувязі з рэорганізацыяй Інбелкульту, а таксама адчыненьнем Навукова-Дасьледчага Інстытуту мясцовыя краязнаучыя організацыі, як дапаможныя інстытуцыі ў дасьледваньні тых ці іншых пытаньняў, набываюць яшчэ большае значэньне.

Зараз ёсьць магчымасьць папоўніць той прабел у выданьні інструкцыйна-мэтодычнага матар'ялу па экономічнай галіне, які назіраўся да апошняга часу. Аддзел Прыроды і Гаспадаркі Інбелкульту і Нав. Д. І. павінны прыйсьці на дапамогу краязнаўчым організацыям у гэтай галіне.

### IV. Школьнае краязнаўства.

У апошні год была зьвернута асаблівая ўвага на працу школьных краязнаўчых гурткоў і, наогул, на наладжаньне справы краязнаўчых організацый, якія зьмяшчаюцца ў навучальных установах. Дзеля вывучэньня гэтай галіны краязнаўства пры ЦБК былі ўтвораны Студэнцкая камісія, якая вывучала пастаноўку краязнаўчай справы ў Вузах і Школьна-Краязнаўчая, якая вывучала краязнаўства ў школах-сямігодках і тэхнікумах. Пры ўдзеле членаў камісіі былі апрацаваны статуты для ўсіх відаў школьна-краязнаўчых гурткоў, у якіх паказана іх узаемасувязь з мясцовай краязнаўчай організацыяй і школьнымі саветамі.

Школьна-краязнаўчыя гурткі разглядаюцца як організацыі, якія падрыхтоўваюць будучых краязнаўцаў і якія дапамагаюць мясцовым краязнаўчым організацыям у справе вывучэньня і дасьледваньня мясцовага краю.

Вялікую ролю ў гэтым кірунку павінны адыграць нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы, якія павінны ў процэсе сваёй працы выхоўваць краязнаўцаў. БДУ на працягу апошняга году стаў на гэты шлях і шмат зрабіў у гэтым кірунку. Асабліва вялікім дасягненьнем можна лічыць наладжаньне краязнаўчым таварыствам БДУ навукова-краязнаўчай студэнцкай экспэдыцыі ў Мазырскую акругу з мэтай вывучэньня і дасьледваньня Тураўскага раёну. Хоць вывады яшчэ ня зроблены, але ўжо самы факт наладжаньня экспэдыцыі гаворыць за сябе. Краязнаўчым організацыям іншых навучальных устаноў як вышэйшых, гэтак і тэхнікумаўскіх, трэба ўвесьці гэты вопыт у сваёй практыцы. Гэта будзе самым лепшым мэтодам выхаваньня моладзі на мясцовым матар'яле.

З іншых школьна-краязнаўчых гурткоў найбольш выявілі сабе ў працы: гурток Менскага Белпэдтэхнікуму, Дукорскай школы 7-кі, Чырвона-Бярэскага агропэдтэхнікуму, Асіпавіцкай, Хоцімскай і Расьнянскай 7-дак, Магілеўскага Пэдтэхнікуму і Саўпартшколы, Слуцкіх агульна-адукацыйных курсаў і інш.

Але-ж, ня гледзячы на тое, што ў некаторых школах ёсьць дасягненьні ў гэтым кірунку, трэба адзначыць, што гэтага нельга сказаць пра ўсе нашы школы: ёсьць шмат школ, у якіх мала зварочваецца ўвагі на краязнаўчую справу.

Неабходна ў будучым усім школам заняцца гэтай справай з тым, каб выхаваць добрых краязнаўцаў будучыны.

### V. Краязнаўства і нацменшасьці.

Ц. Б. Краязнаўства і акруговымі таварыствамі за апошнія гады зьвернута ўвага на краязнаўчую справу сярод нацменшасьцяй. Дзеля гэтага організаваны яўрэйская і польская сэкцыі пры ЦБК і акруговых таварыствах. Але ў гэтым кірунку зроблена вельмі мала: яшчэ толькі намячаюцца шляхі гэтай справы. Галоўная ўвага гэтых сэкцый накіравана на этнографічнае і мовазнаўчае вывучэньне, а яўрэйскай, апрача таго, і на вывучэньне мястэчка, як характэрнай формы паселішча краю. Але падрабязьней аб гэтым будзе асобна.

### VI. Заключэньне.

Перад краязнаўчымі організацыямі на бліжэйшы пэрыод вызначаюцца наступныя задачы:

а) больш глыбокае азнаямленьне з краязнаўчай справай шырокіх працоўных мас;

б) пераход усёй краязнаўчай сеткі да сталага паступова-плянавага вывучэньня сваёй мясцовасьці;

в) організацыя і наладжаньне раённых краязнаўчых музэяў паводле пляну надрукаванага ў працах II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду;

г) дапамога навукова-дасьледчым інстытуцыям у справе вывучэньня і дасьледваньня паасобных пытаньняў;

д) пашырэньне і ўзмацненьне краязнаўчай справы ў навучальных установах.

Задачы гэтыя больш падрабязна і дакладна вызначаны ў рэзолюцыях II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду. У кірунку ажыцьцяўленьня гэтых задач і павінна вясьціся краязнаўчымі організацыямі праца ў далейшым.



# НАШЫ АКАДЭМІЧНЫЯ ЎСТАНОВЫ І ВЫШЭЙШЫЯ ШКОЛЫ Ў СПРАВЕ ВЫВУЧЭНЬНЯ КРАЮ.

І. Каранеўскі.

## Інстытут Беларускае Культуры (Інбелкульт).

Вышэйшай Навукова-Дасьледчай установай, якая аб'ядная ўсю навукова-дасьледчую працу ў БССР, зьяўляецца Інстытут Беларускае Культуры.

Да Кастрычнікавай рэволюцыі на Беларусі не існавала ні вышэйшых навучальных установаў, ні навукова-дасьледчых інстытутаў. Інстытут Беларускае Культуры зьяўляецца дзіцём Пролетарскай рэволюцыі на Беларусі. Адначасна з пытаньнем аб заснаваньні ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту было пастаўлена пытаньне і аб заснаваньні Інстытуту Беларускае Культуры. Яшчэ ў лютым м-цы 1921 году гэта пытаньне абмяркоўвалася працоўнымі Беларусі на 2-ой Сэсіі ЦВК Беларусі. У стэнограме дакладу Наркамасьветы на гэтай сэсіі гаворыцца: „Ідучы насустрэчу разьвіцьцю культур мясцовых моваў, мы пры Беларускім Унівэрсытэце адчыняем два інстытуты—беларускай і яўрэйскай культуры". У той час меліся абодвы інстытуты адчыніць пры Унівэрсытэце. Але адсутнасьць высока-кваліфікаваных працаўнікоў, якія маглі-б весьці навуковую працу па дасьледваньні Беларусі, перашкаджала гэтаму. Ня было для навукова-дасьледчай працы і неабходнага абсталяваньня. З прычыны гэтага Савецкая ўлада часова адмовілася ад думкі стварэньня Інстытуту Беларускае Культуры. Ня гледзячы на гэта, настойная патрэба, у сувязі з пачатай беларусізацыяй культурна-асьветных установаў, у беларускай тэрмінолёгіі, беларускіх падручніках, політычна-літаратурных і інш. часопісах рашуча высунула пытаньне аб стварэньні пры Наркамасьвеце хоць-бы першапачатковага ядра навукова-дасьледчай установы, з якога пасьля павінен разьвіцца Інстытут Беларускае Культуры. Такім зародкам Інстытуту Беларускае Культуры зьявілася організаваная ў 1921 г. пры Акадэмічным Цэнтры Наркамасьветы Навукова-Тэрмінолёгічная Камісія ў складзе 3 сэкцый: Гуманітарнай, Прыродазнаўчай і Матэматычнай. Асноўным заданьнем Навукова-Тэрмінолёгічнай Камісіі было апрацаваць і выдаць у сьпешным парадку навуковую тэрмінолёгію на першы час хоць-бы для карыстаньня ёю ў пачатковых і сярэдніх беларускіх навучальных установах, а таксама скласьці і выдаць шэраг беларускіх падручнікаў, пачынаючы ад беларускага лемантра. З гэтым заданьнем Навукова-Тэрмінолёгічная Камісія справілася добра. К 1922 г. былі надрукаваны беларускія тэрмінолёгічныя зборнікі па галінах: гуманітарнай, прыродазнаўчай і матэ-

матычнай і былі складзены і надрукаваны (у Нямеччыне) падручнікі для беларускіх школ.

К гэтаму часу дзейнасьць Навукова-Тэрмінолёгічнай Камісіі так разгарнулася, што прышлося азначаную камісію рэорганізаваць у 1922 г. у „Інстытут Беларускае Культуры“ з 2 сэкцыямі:—гуманітарнай і прыродазнаўчай, якія складаліся з шэрагу спэцыяльных навукова-дасьледчых камісій (літаратурная, слоўнікавая, тэрмінолёгічная і інш.). Інстытутам Беларускае Культуры было організавана і праведзена некалькі навуковых экспэдыцый па вывучэньні Беларусі ў галіне этнографіі і археолёгіі.

Адраджэньне і разьвіцьцё культуры працоўных мас Беларусі не павінна быць справай толькі вузкага кола спэцыялістых. Комуністычная партыя і Савецкая ўлада высунулі пытаньне аб шырокім уцягваньні працоўных мас у справу вывучэньня свайго краю. У выніку спэцыяльнай адозвы Інстытуту Беларускае Культуры да працоўных мас і інтэлігенцыі з просьбай прыняць пасільны ўдзел у выяўленьні асаблівасьцяй зусім да гэтага часу незачэпленай дасьледчай працы Беларусі хутка расьце густая сетка краязнаўчых організацый, у якія ўвайшлі шмат рабочых, сялян і пераважна вясковая інтэлігенцыя (настаўнікі, агрономы, дактары, судзьдзі і вучнёўская моладзь). Пры самым-жа Інстытуце Беларускае Культуры організуецца Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое дае мясцовым організацыям кіраўнічыя мэтодычныя заўвагі ў галіне краязнаўчай працы праз спэцыяльны часопіс „Наш Край“. У сучасны момант у краязнаўчыя організацыі Беларусі ўваходзяць да 9.000 сяброў. Увесь матар‘ял па дасьледваньні Беларусі, што сабралі краязнаўчыя організацыі, аддаецца спэцыялістым у Інстытут Беларускае Культуры для навуковай яго апрацоўкі. Пасьля гэтага Інстытут Беларускае Культуры друкуе яго ў сваіх навуковых выданьнях.

Навукова-дасьледчая дзейнасьць Інстытуту Беларускае Культуры шырака разгарнулася ва ўсіх галінах жыцьця Савецкай Беларусі асабліва з 1924 г. У яго працу ўцягнуты сотні старых і маладых вучоных, партыйных і савецкіх адказных працаўнікоў. Праз Цэнтральнае Бюро Краязнаўства заснавана самая шчыльная сувязь з працоўнымі масамі Беларусі.

У 1924 годзе Савет Народных Камісараў Беларусі зацьвердзіў спэцыяльны статут для Інстытуту Беларускае Культуры. Згодна гэтага статуту ў задачу Інстытуту Беларускае Культуры ўваходзіць: „плянавае дасьледваньне Беларусі з боку яе мовы, літаратуры, этнографіі, гісторыі, прыроды, экономікі, соцыяльна-рэволюцыйнага руху“ і інш., а таксама „аб‘яднаньне ў гэтых галінах усяе працы, якая вядзецца як установамі, так і аддзельнымі асобамі“ (§ 2 Статуту Інбелкульту). У сувязі з тым, што ў 1926 г. навукова-дасьледчая і выдавецкая праца ўзмацнілася яшчэ больш, ЦВК і СНК Беларусі пастанавіў: „Адзначаючы важнасьць працы Інбелкульту і прыймаючы пад увагу ўсё большы і большы размах яго дзейнасьці і ўплыў на шырокія масы насельніцтва, вылучыць Інстытут Беларускае Культуры са складу Народнага Камісарыяту Асьветы і рэорганізаваць яго ў самастойную ўстанову, якая знаходзіцца непасрэдна пры Савеце Народных Камісараў“.

У склад Інстытуту Беларускае Культуры ў 1926-27 акадэмічным годзе ўваходзіла 7 навуковых сэкцый і 8 сталых камісій, якія аб‘яднаны ў сучасны момант у два буйных аддзелы: гуманітарны і аддзел прыроды.

### Гуманітарны аддзел.

1. Слоўнікавая Камісія сабрала пры дапамозе краязнаўчых організацый і аддзельных асоб звыш 300.000 слоў жывой беларускай мовы і з твораў беларускіх пісьменьнікаў, падрыхтоўвае да выданьня вялікі акадэмічны слоўнік беларускай мовы, выпусьціла ў сьвет краёвы беларускі слоўнік Віцебшчыны, падрыхтавала да друку такі самы слоўнік Калініншчыны і Чэрвеншчыны.

2. Галоўная Тэрмінолёгічная Камісія надрукавала навуковыя беларускія тэрмінолёгічная зборнікі па наступных дысцыплінах: матэматыцы, географіі, космографіі, мінэралёгіі, геолёгіі, батаніцы, заолёгіі, хіміі, анатоміі чалавека, лёгіцы, псыхолёгіі, літаратуры, мастацтву, грамадазнаўству, праву, сельска-гаспадарчых і лясных навуках.

3. Літаратурная камісія падрыхтоўвае да акадэмічнага выданьня творы беларускіх пісьменьнікаў і поэтаў. Ужо вышаў з друку I том беларускага поэты М. Багдановіча і здаецца ў друк II т. збору яго твораў. Падрыхтоўваюцца творы А. Гаруна і Цёткі.

4. Фольклёрна-Дыялектолёгічная камісія вывучае беларускія народныя гаворкі і народную творчасьць. Камісія падрыхтавала да выданьня некалькі томаў фольклёрных матар'ялаў.

5. Соцыяльна-Гістарычная Сэкцыя выдала I т. гістарычных дасьледаў, якія прысьвечаны чатырохсотгодзьдзю беларускага друку, Беларускі Архіў т. I. гістарычна-археолёгічны зборнік і іншыя кнігі па гісторыі і археолёгіі Беларусі.

6. Камісія па ахове помнікаў старасьветчыны, мастацтва і прыроды ўзяла на вучот гэтыя помнікі Беларусі і робіць навуковае апісаньне іх, організавала шэраг заказьнікаў.

7. Этнографічная Камісія правяла некалькі экспэдыцый па Беларусі і сабрала каштоўныя матар'ялы і колекцыі па матар'яльнай культуры беларусаў і праверыла этнографічныя межы расьсяленьня беларусаў.

8. Сэкцыя мастацтва, у склад якой уваходзяць Тэатральная, Музыкальная камісіі і камісія Выяўленчых мастацтваў, займалася апрацоўкай драматычнага рэпэртуару для беларускага тэатру, заснавала беларускі тэатральны музэй, вядзе запіс народных сьпеваў і апрацоўвае іх інструмэнтальна (апрацавана больш 500 сьпеваў і мэлёдый).

### Аддзел прыроды.

9. Прыродазнаўчай Сэкцыяй праз спэцыяльныя падсэкцыі і камісіі вядуцца досьледы органічнай і нерганічнай прыроды Беларусі. Праведзеныя ёю за апошнія 3-4 гады навуковыя экспэдыцыі далі магчымасьць распачаць складаньне гео-батанічнай, геолёгічнай і глебавай карт Беларусі, выкрылі шэраг месцазнаходжаньняў рудага каменнага вугалю, крэйды, розных відаў гліны, пяску і фосфарытаў. З сабраных матар'ялаў па дасьледваньні флёры і фаўны і геолёгіі Беларусі організаваны багаты музэй прыроды ў складзе 3-х аддзелаў: заолёгічнага, батанічнага і глебавага. Праз Мэтэоролёгічнае Бюро, якое мае шырокую сетку мэтэоролёгічных станцый па БССР, вядзецца вывучэньне клімату Беларусі.

10. Камісіяй па вывучэньні прыродна-вытворчых сіл БССР (КЕПС) вядзецца плянавае дасьледваньне прыроды Беларусі з мэтай навукова абслужыць прамысловасьць і сельскую гаспадарку Беларусі.

11. Мэдыцынская сэкцыя дасьледуе спэцыфічныя хваробы на Бе-

ларусі (каўтун, вальлё, склерому, бытавы сыфіліс і інш.), вывучае санітарнае становішча беларускай вёскі.

12. Антраполёгічная Камісія дасьледуе і выяўляе антраполёгічныя асаблівасьці беларускага насяленьня.

13. Географічная камісія паводле сабраных ёю і краязнаўчымі організацыямі матар'ялаў падрыхтоўвае поўнае географічнае апісаньне Беларусі.

14. Сельска-Гаспадарчая сэкцыя, перад тым як быў заснаван на Беларусі Навукова-Дасьледчы Інстытут імя У. І. Леніна, вяла навуковыя досьледы ў галіне сельскай і лясной гаспадаркі Беларусі.

15. Бібліографічная камісія складае бібліографіі па ўсіх галінах беларусазнаўства.

16. Вайсковая камісія падрыхтавала і надрукавала на беларускай мове вайсковыя статуты, беларускія вайсковыя слоўнікі, беларускія сьпевы для Чырвонай арміі і цэлы шэраг беларускіх падручнікаў і зборнікаў для каманднага і чырвонаармейскага складу.

17. У склад Інстытуту Беларускае Культуры ўваходзяць 2 нацыянальных аддзелы: яўрэйскі і польскі, апрача гэтага з наступнага акадэмічнага году адчыняюцца катэдры літоўская і латыская. Гэтыя нацыянальныя аддзелы вядуць навуковыя досьледы мовы, гісторыі, этнографіі і наогул нацыянальнай культуры яўрэйскага, польскага, літоўскага і латыскага насяленьня на Беларусі.

18. Камісія па вывучэньні Заходняй Беларусі займаецца зьбіраньнем і вывучэньнем матар'ялаў у галіне социяльна-экономічнага, бытавога і наогул культурнага жыцьця насяленьня (пераважна беларусаў) Заходняй Беларусі. Падрыхтавана да друку вялікая праца па дасьледваньні экономічнага становішча Заходняй Беларусі і хутка выйдзе ў сьвет.

19. Інстытут Беларускае Культуры мае свой філіял пры Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Горках—Навуковае Т-ва па вывучэньні Беларусі. Т-ва выдала ўжо 3 тамы навуковых прац у галіне вывучэньня сельскай і лясной гаспадаркі і мэліорацыі БССР.

Пры Інстытуце Беларускае Культуры знаходзіцца НАП з псыхатэхнічнай лябораторыяй; ёсьць бібліотэка, якая налічвае каля 40.000 рэдкіх спэцыяльных кніг аб Беларусі, Музэй Прыроды, Акліматызацыйны Сад у Віцебскай акрузе, хімічная лябораторыя і абсталяваная спэцыяльнымі шрыфтамі друкарня. За сваё пяцігадовае існаваньне Інстытут Беларускае Культуры надрукаваў да 70 тамоў навуковых прац, якія датычацца ўсіх бакоў жыцьця Савецкай Беларусі. Ужо адзін толькі пералік устаноў Інстытуту Беларускае Культуры і кароткая характарыстыка іх дзейнасьці сьведчыць аб тэй аграмаднай працы акадэмічнага тыпу, якую робіць Інстытут Беларускае Культуры для адраджэньня і разьвіцьця нацыянальных культур насяленьня Беларусі.

Апрача гэтага Інстытут Беларускае Культуры ўтварыў шчыльную сувязь і наладзіў узаемны абмен кнігамі на свае навуковыя выданьні з усімі Акадэміямі Навук і іншымі навуковымі ўстановамі (унівэрсытэтамі, інстытутамі, бібліотэкамі, музэямі) як у СССР, так і ў Эўропе і Амэрыцы—усяго да 75 навуковых устаноў. Інстытут Баларускае Культуры прыймае ўдзел ва ўсіх навуковых конфэрэнцыях і зьездах СССР і замежамі (Нямеччына, Амэрыка, Польшча і інш.), а таксама склікае свае конфэрэнцыі і зьезды (конфэрэнцыя па рэформе беларускага правапісу і альфабэту, конфэрэнцыя архэолёгаў, краязнаўцаў і інш.), у якіх прымаюць удзел вучоныя спэцыялістыя СССР і Эўропы (Нямеччына, Польшча, Літва, Латвія, Чэхаславачына).

У сучасны момант навукова-дасьледчая праца Інстытуту Беларускае Культуры шырака разгарнулася ва ўсіх галінах жыцьця Савецкай Беларусі і высунула актуальнае пытаньне перад Компартыяй і Савецкай уладай БССР аб рэорганізацыі Інстытуту Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук. Пытаньне аб рэорганізацыі Інстытуту Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук паўстала першы раз у палове 1926 году. Па дакладу Ураду Беларусі 4 чэрвеня 1926 г. ЦВК Саюзу прыняў пастанову: „прыймаючы пад увагу складанасьць нацыянальнага пытаньня на Беларусі, дзякуючы featured розмастайнаму складу яе насельніцтва, Прэзыдыум ЦВК Саюзу адзначае, што Беларускі Урад здолеў правільна ў асноўным вырашыць важнейшыя пытаньні нацыянальнай політыкі, аддаючы належную ўвагу пытаньням беларускай культуры, забясьпечыўшы яе далейшае разьвіцьцё. Пры гэтым Прэзыдыум ЦВК Саюзу асабліва падкрэсьлівае вялікае значэньне для паказанай мэты Інстытуту Беларускае Культуры, які ў сваім далейшым разьвіцьці павінен ператварыцца ў Беларускую Акадэмію Навук“.

10 ліпня 1926 г. па дакладу Інстытуту Беларускае Культуры Саўнаркам Беларусі прыняў наступную пастанову: „Адзначыць узмацненьне ўплыву Інстытуту Беларускае Культуры на ўсю навуковую і дасьледчую працу ў Рэспубліцы і разам з тым лічыць неабходным з 1926-27 акадэмічнага году надаць Інстытуту Беларускае Культуры напрамак у бок паступовага ператварэньня яго ў Беларускую Акадэмію Навук“.

2 ліпня 1927 г. Саўнаркам Беларусі зацьвердзіў новы статут Інстытуту Беларускае Культуры, які зьяўляецца зусім аднолькавым з статутамі Усесаюзнай і Украінскай Акадэмій Навук. Згодна свайму апошняму статуту Інстытут Беларускае Культуры зьяўляецца вышэйшай навуковай дзяржаўнай установай у БССР і знаходзіцца пры СНК Бел. Сав. Соц. Рэспубліцы.

У § 2 статуту гаворыцца: „Інстытут Беларускае Культуры мае наступныя задачы:

а) пашырэньне і паглыбленьне навуковых дысцыплін, якія знаходзяцца ў яго компэтэнцыі, узбагачаючы іх новымі выкрыцьцямі і мэтодамі дасьледваньня;

б) плянавае дасьледваньне Беларусі з боку яе прыродных вытворчых сіл, вывучэньне і дапамога іх выкарыстаньню, народнай гаспадаркі, права, грамадзянскага руху, мовы, літаратуры, гісторыі, этнографіі і іншыя;

в) аб'яднаньне ў гэтых галінах усяе навуковае працы, якая вядзецца навуковымі ўстановамі БССР і аддзельнымі вучонымі;

г) прыстасаваньне навуковых прац і вынікаў навуковых досьледаў да практычнага выкарыстаньня ў прамысловасьці і культурна-экономічным будаўніцтве БССР“.

Такім чынам, дзякуючы кіраўніцтву і працы Компартыі і Савецкай улады ў галіне нацыянальнай політыкі працоўныя масы Беларусі за кароткі тэрмін існаваньня Савецкай Беларусі ў галіне культурнага будаўніцтва дасягнулі таго, чаго яны не маглі мець на працягу стагодзьдзяў свайго гістарычнага існаваньня. Апрача некалькіх дзесяткаў тысяч пачатковых, сярэдніх і вышэйшых навучальных установаў на роднай беларускай мове, працоўныя масы Беларусі маюць вышэйшую навукова-дасьледчую ўстанову сусьветнага значэньня—Інстытут Беларускае Культуры, які знаходзіцца напярэдадні ператварэньня яго ў Беларускую Акадэмію Навук.

**М. Бялуга.**

# Рэарганізацыя ІБК.

Пытаньне рэарганізацыі Інстытуту Беларускае Культуры ва ўстанову акадэмічнага тыпу высунута ўздымам будаўніцтва соцыялістычнае гаспадаркі і культуры ў БССР. На працягу апошніх год мірнага будаўніцтва, галоўным чынам за 1925—27 гады, праца Інбелкульту няўпынна пашыралася і паглыблялася; ужо з пачатку бягучага году паўстала пытаньне аб рэарганізацыі Інбелкульту ў вышэйшую навукова-дасьледчую ўстанову акадэмічнага тыпу.

Да рэарганізацыі Інбелкульт у сваім складзе меў значную колькасьць навуковых інстытуцый; у склад яго ўваходзілі тры аддзелы: Яўрэйскі, Польскі і Выдавецкі; 15 асноўных сталых камісій, у лік якіх уваходзіла і Цэнтральнае Бюро Краязнаўства на правох камісіі, і дзевяць сэкцый; прычым у паказаны лік сэкцый уваходзіла Навуковае Т-ва пры Горацкай Акадэміі, Асоцыяцыя Навуковае Організацыі Працы; апрача таго, у склад Інбелкульту ўваходзіла на правох сэкцыі літаратурнае аб'яднаньне „Маладняк". Некаторыя з сэкцый мелі пры сабе часовыя дапаможныя камісіі: так, напрыклад, Мастацкая сэкцыя мела тры камісіі, Мэдычная—4, Прыродазнаўчая—6 падсэкцый і г. д. У сваю чаргу нацыянальныя аддзелы мелі ў сваім складзе сталыя камісіі: Яўрэйскі аддзел—тры камісіі, Польскі аддзел таксама тры. Такім чынам, падагульняючы сталыя інстытуцыі Інбелкульту (тры аддзелы, 21 камісія і 10 сэкцый), прыходзіцца адзначыць, што Інбелкульт ужо к пачатку гэтага году перарос у організацыйным сэнсе тыя формы, у якія ён укладваўся статутам 1924 г.

Апрача таго, Інбелкульт у сваім разьвіцьці як вышэйшая навукова-дасьледчая ўстанова, перарос і тыя нормы, якія былі вызначаны статутам 24 году для прыняцьця новых членаў і на грунце якіх прыём адбываўся. З пачатку 1927 г. у сваім складзе Інбелкульт меў 224 члены; з іх 83 ч. правадзейных, 74 ч. супрацоўнікаў і 67—корэспондэнтаў. У тыя часы, калі Інбелкульт зьяўляўся ня толькі навуковадасьледчаю ўстанаваю, але і культурна-грамадзкім асяродкам, навакол якога групаваліся і павінны былі групавацца ўсе лепшыя культурныя і грамадзкія сілы БССР,—тады нормы прыняцьця новых членаў ІБК былі жыцьцёвыя і ніякіх зьмен у сваім зьмесьце не вымагалі.

Але перад Інбелкультам паўсталі новыя задачы; яны дыктаваліся самім жыцьцём і конкрэтна выліваліся ў адпаведных пастановах ЦВК і СНК. Нормы прыёму новых членаў застарэлі і Прэзыдыум ІБК павінен быў зьмяніць зьмест статуту 1924 г., апрацаваўшы часовыя правілы ўлетку 1926 г. аб прыёме новых членаў ІБК. Калі гаварыць аб рэорганізацыі Інбелкульту як аб пэрыодзе больш-менш даўгім, то пачатак гэтае рэорганізацыі, правільней, падрыхтоўка да яе, ляжыць яшчэ ў тэй працы, якую вёў Прэзыдыум па зьмене правіл прыйма членаў ІБК,

г. зн. з летку 1926 г.; і яно зразумела: тыя правілы ўлічваліся пры пабудове новага статуту Інбелкульту.

Дырэктыўнаю пастановаю для рэорганізацыі зьяўлаліся—пастанова Саюзнага ЦВК ад 4-га чэрвеня 1926 г. і пастанова СНК БССР ад 2-га чэрвеня 1927 г. Гэтымі пастановамі рэорганізацыя і пашырэньне працы Інбелкульту павінны былі ісьці ў бок наданьня Інбелкульту тыпу Акадэміі Навук.

Увесь процэс працы па рэорганізацыі неабходна падзяліць на наступныя асноўныя моманты ў іх хронолёгічным разрэзе: а) апрацоўка новага статуту; б) укладаньне організацыйнае схэмы паводле асноўных норм статуту; в) штаты паводле організацыйнае схэмы і абраньне правадзейных членаў ІБК; каштарыс і яго ўкладаньне—дэталізацыя рэорганізацыі; яго велічыня і номэнклятура выдаткаў выцякаюць з паказаных трох асноўных момантаў.

Для апрацоўкі новага статуту—асновы ўсяе рэорганізацыі, Прэзыдыум ІБК сваёю пастановаю ад 27-га студзеня г. г. утварыў камісію з трох сваіх сяброў: т. т. Ігнатоўскага, Каранеўскага і Бялугі.

Увесь цяжар працы па ўкладаньні новага статуту ўзяў на сябе т. Ігнатоўскі, іншыя члены камісіі толькі ўзгаднялі прынцыповыя пытаньні. У аснову статуту былі паложаны нормы Саюзнае Акадэмі Навук, Украінскае Акадэміі Навук і практыка жыцьця і разьвіцьця Інбелкульту. Зьмест новага статуту прыстасоўваўся да асаблівасьцяй культурнага разьвіцьця БССР і да ўмоў яе культурнага і нацыянальнага становішча. Укладзены такім чынам статут ужо 31/III, 4-га красавіка быў унесены ў Прэзыдыум ІБК з тым, каб апрацаваць некаторыя прынцыпы ўнясеньня статуту на разгляд Навуковае Рады. Першае пасяджэньне Навуковае Рады, склікане спэцыяльна для разгляду статуту, адбылося 10-га красавіка. Неабходна адзначыць, што члены рады, разглядаючы нормы статуту, прышлі да вываду, што ІБК паводле новага статуту ў сваіх організацыйных формах нічым ня будзе адрозьнівацца ад Акадэміі Навук і што з гэтае прычыны неабходна зьвярнуцца з хадайніцтвам у СНК БССР аб перайменаваньні Інбелкульту ў Беларускую Аакадэмію Навук.

Новы статут некалькі разоў разглядаўся ў Навуковай Радзе. 2 чэрвеня 1927 г. ён быў, пасьля папярэдняга разгляду ў КЗП, зацьверджаны СНК. Новы статут зьявіўся пэўным грунтам для пабудовы організацыйнае схэмы рэорганізаванага Інбелкульту.

Для пабудовы схэмы была ўтворана камісія. У сваёй працы яна выходзіла з практыкі існуючых акадэмій, з наяўнасьці існуючых інстытуцый ІБК, магчымасьцяй БССР у сэнсе яе культурных сіл і запатрабаваньняў, з наяўнасьці запатрабаваньняў разьвіцьця гаспадаркі, вывучэньня прыроды і яе вытворчых сілі, падтрыманьня сувязі з шырокімі коламі працоўных мас і г. д. Апошняе пытаньне—сувязь з шырокімі гушчамі працоўных—займала асаблівую ўвагу ў працы камісіі.

Статутам прадугледжана было два асноўных аддзелы—аддзел гуманітарных навук, аддзел прыроды і гаспадаркі і Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. Замест існаваўшых нацыянальных аддзелаў паводле статуту ўтвараліся нацсэктары з тым, аднак, што іх навуковыя інстытуцыі—кадэдры, камісіі—будуць аб'яднаць і плянаваць сваю працу з асноўнымі аддзеламі. На падставе ўсяго гэтага, камісія апрацавала організацыйную схэму Інбелкульту, як установы акадэмічнага тыпу, на тры гады.

Чым-жа адрозьніваецца рэорганізаваны Інбелкульт ад старога? Як

зьмяніўся твар новага Інбелкульту, рэорганізацыя якога адбываецца на падставе новага статуту і організацыйнае схэмы, зацьверджанае толькі Дзяржплянам БССР?

Асноўныя аддзелы і нацсэктары—гэта тое новае, чаго ня меў Інбелкульт да свае рэорганізацыі. Апрача таго, кожны аддзел мае сваю стройную сыстэму, якая надае наогул стройнасьць усяму ІБК. Аддзел Гуманітарных Навук падзяляецца на дзьве клясы: кляса філёлёгіі і кляса гісторыі; у сваю чаргу паказаныя клясы падзяляюцца на катэдры і інстытуты; так, напрыклад, кляса філёлёгіі мае: катэдру гісторыі беларускае мовы, катэдру жывое беларускае мовы, інстытут навуковае мовы, катэдру беларускае літаратурнае мовы. Кляса гісторыі мае: катэдры—сусьветнае гісторыі, беларускае гісторыі, гісторыі беларускага права і гаспадаркі, катэдру гісторыі Літвы, Інстытут беларускага мастацтва, катэдра гісторыі народнае гаспадаркі.

Аддзел прыроды і гаспадаркі падзяляецца на дзьве клясы—кляса прыроды і кляса гаспадаркі. Кляса прыроды мае: геолёгічны інстытут, катэдры—глебазнаўчай ботанікі, географіі, біолёгіі, сюды-ж уваходзяць: ботанічны сад, зоолёгічны музэй, катэдра антрополёгіі. Кляса гаспадаркі мае дзьве камісіі. У сваю чаргу паказаныя катэдры двух аддзелаў маюць у сваім складзе камісіі, сюды-ж дадаюцца адпаведныя камісіі нацсэктараў: яўрэйскага сэктару—літаратурная, лінгвістычная, соцыяльна-экономічная, фольклёрная; польскага—гістарычная, этнографічная, літаратурная.

У гэтай схэме, некалькі няпоўнай (тут не паказаны тыя інстытуцыі, якія ўваходзяць у склад катэдраў), ёсьць пэўная сыстэма. Навуковая і організацыйная дзейнасьць кожнае інстытуцыі ўвязваецца адзіным плянам непасрэдна і ў першую чаргу з тым альбо іншым аддзелам. Плянаваньне, а таксама і кіраўніцтва працаю ўсяго аддзелу праводзіцца праз савет аддзелу з яго старшынёю на чале. Праца ўсяго Інбелкульту плянуецца і кіруецца Прэзыдыумам і Акадэмічнаю Радаю. Новы статут яскрава акрэсьлівае правы і абавязкі саветаў аддзелу, Прэзыдыуму і Навуковае Рады ІБК.

Апрача гэтага, дзеля накіраваньня краязнаўчага руху, пры ІБК заснуецца Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое будзе працаваць паводле самастойнага статуту. Праз краязнаўчыя організацыі Інбелкульт трымаў і трымае сувязь з гушчамі працоўных, праз краязнаўчыя організацыі ён атрымоўваў і будзе атрымліваць багаты матар'ял па фольклёры, жывой беларускай мове, этнографіі, назіраньнямі за зьявамі ў прыродзе; праз гэтыя організацыі зьбіраліся кожны раз матар'ялы масавага характару, калі для працы патрэбны былі дзейныя і актыўныя масы. Так, напрыклад, праз краязнаўчыя организацыі быў сабраны матар'ял аб нізавой коопэрацыйнай сетцы, аб бюджэце часу селяніна, аб вывучэньні паселішч, выпраўленьне націскаў у назовах паселішч і інш. Ва ўсіх гэтых выпадках краязнаўчыя організацыі адыгрывалі надзвычайную ролю. І зразумела, што пры рэорганізацыі Інбелкульту роля краязнаўчых арганізацый не магла ня ўлічвацца. Сувязь з гэтымі масавымі організацыямі ня толькі трэба было захаваць, але, наадварот, утварыць такія ўмовы, пры якіх гэтая сувязь магла-б пашырацца і ўзмацняцца. Гэта неабходна было зрабіць і з тае прычыны, што організацыйны пэрыод у жыцьці краязнаўчых організацый хутка падыходзіць к канцу і што праца навуковая, дасьледчая, праца па зьбіраньні матар'ялу і іншая, якую праводзяць оргацізацыі, з цягам часу будзе расьці і пашырацца. Краязнаўчыя організацыі, якія ў круг свайго

жыцьця ўцягнулі масы працоўных, ёсьць магутная, творчая, дзейная сіла; бяз гэтае сілы некаторым інстытуцыям Інбелкульту ўжо зараз цяжка абыйсьціся, а ў будучыне бяз іх было-б яшчэ цяжэй.

Вось чаму перад Прэзыдыумам Інбелкульту паўстала ва ўсю велічыню пытаньне: якім спосабам захаваць у рэарганізаваным Інбелкульце такую сувязь з краязнаўчымі арганізацыямі, каб яна, гэтая сувязь, расла, узмацнялася і каб дзейная і карысная праца краязнаўчых арганізацый давала неабходны матар'ял для Інбелкульту. І гэта складанае пытаньне было вырашана наступным шляхам: а) Цэнтральнае Бюро Краязнаўства, якое кіруе ўсёю працаю краязнаўчых арганізацый і дапамагае ім у працы, існуе пры Прэзыдыуме ІБК; б) Бюро зьяўляецца досыць самастойнаю арганізацыяй; узаемаадносіны яго і сувязь з ІБК вызначаюцца нормамі статуту Бюро; в) у сваёй дзейнасьці Бюро, а праз яго і ўсе арганізацыі, навукова кіруецца непасрэдна Прэзыдыумам ІБК.

Гэтыя асноўныя палажэньні лягуць у аснову статуту Бюро; на іх і будзе будавацца тая шырокая праца, якая зьявіцца грунтам для працы Інбелкульту па сувязі з шырокімі працоўнымі гушчамі.

Такім чынам рэарганізаваны Інбелкульт будзе мець наступныя новыя моманты:

а) ахапленьне большых галін навукі і навуковае дзейнасьці;

б) дакладную і стройную арганізаванасьць свае структуры;

в) забесьпячэньне плянавасьці і наладжанай сыстэмы ў кіраваньні навуковае дзейнасьці інстытуцый;

г) забесьпячэньне магчымасьці весьці навукова-дасьледчую працу.

Аналіз пытаньня, зьвязанага з штатамі рэарганізаванага Інбелкульту, павінен пачынацца з адзначэньня таго, што БССР надзвычайна бедна высакакваліфікаванымі навуковымі і культурнымі сіламі. Гэтая акалічнасьць адбіваецца пры конкрэтным разьвязаньні пытаньня аб забесьпячэньні Інбелкульту навуковымі сіламі. Яна-ж у значнай меры адбілася на ўкладаньні новых штатаў. Справа ў тым, што паводле самага сэнсу рэарганізацыі ІБК, досыць ясна акрэсьленага статутам і схэмаю, на чале навуковых інстытуцый павінны стаяць высакакваліфікаваныя навуковыя сілы—правадзейныя члены альбо асобы, якія могуць і будуць выконваць абавязкі правадзейных членаў. Навуковая кваліфікацыя гэтае катэгорыі навуковых сіл акрэсьлена статутам так: „У правадзейныя члены Інстытуту Беларускае Культуры выбіраюцца прадстаўнікі навукі або мастацтва, якія ўзбагацілі навуку або мастацтва ў сваёй галіне працамі высака выдатнага значэньня“ *). І з тае прычыны, што Інбелкульт ставіў і ставіць сваёю задачаю ў першую чаргу вывучэньне культуры, прыроды, гаспадаркі і інш. Беларусі, кандыдатам у правадзейныя члены, пры іншых роўных умовах, мог у першую чаргу выстаўляцца толькі той „прадстаўнік навукі“, які мае працы выдатнага значэньня па дасьледваньні і вывучэньні БССР. Зразумела, адсюль не выцякае, што ўсе іншыя навуковыя сілы, якія зараз працуюць у БССР, павінны ігнаравацца. Нічога падобнага! Але-ж пры вызначэньні штатных адзінак правадзейных членаў меліся ў першую чаргу на ўвазе палажэньні другога артыкулу статуту, яго падразьдзелы—б, в і г.

І зразумела, што беднасьць БССР прадстаўнікамі навукі ў галіне дасьледаваньня і вывучэньня нашае рэспублікі налажыла свой адбітак на штаты ІБК. Інакш пры такіх умовах і не магло быць.

*) Статут ІБК, арт. 14.

Для апрацаваньня штатаў ІБК была вылучана спэцыяльная камісія, якая ўлажыла штат (папярэдні плян) у 148 штатных адзінак.

Аднак-жа матар'яльныя магчымасьці нашае рэспублікі прымусілі скараціць гэтыя штаты ў Штатнай камісіі СНК, давёўшы іх да 115 шт. адзінак. Дзякуючы пашырэньню Інбелкульту, яго штаты ў параўнаньні з мінулым годам былі павялічаны на 26%. Пявялічэньне адбылося галоўным чынам за лік навуковых працаўнікоў.

Лік правадзейных членаў быў даведзены да 19 асоб, лік навуковых працаўнікоў да 72. Бязумоўна, што паказаны лік правадзейных членаў, як штатных адзінак, у заключнай працы па рэарганізацыі будзе запоўнены часткаю штатнымі адзінкамі, часткаю асобамі, выконваючымі абавязкі правадзейных членаў. Калі-ж адкінуць у бок пытаньне штатнага характару, а браць пад увагу толькі фактычныя даныя для прызначэньня правадзейных членаў, то прыдзецца адзначыць, што 19 асоб фактычных правадзейных членаў не набярэцца.

Рэарганізацыя Інбелкульту выклікала павялічэньне і каштарысных выдаткаў; апошні па папярэдніх зацьвярджэньнях (Дзяржплянам і СНК) павялічаны на 24%. Каштарыс яшчэ канчаткова не зацьверджаны, з гэтае прычыны лічбы яго па выдатках не дадаюцца.

Процэс рэарганізацыі Інбелкульту хутка будзе скончаны. Усю працу па рэарганізацыі праводзіць сучасны Прэзыдыум, на якога пастановаю СНК БССР ад 26/IX ускладзены гэтыя абявязкі. Праца падыходзіць к канцу. Яе прадзаключны акорд—прызначэньне СНК першага складу правадзейных членаў Інбелкульту і яго Прэзыдыуму і заключны—утварэньне Навуковае Рады і зацьвярджэньне пляну навуковае і організацыйнае дзейнасьці рэарганізаванага Інбелкульту. Да сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавае рэволюцыі Інбелкульт прадстане ўжо рэарганізаванаю вышэйшаю навукова-дасьледчаю ўстановаю акадэмічнага тыпу. Зроблена яшчэ некалькі крокаў ад старога Інбелкульту да Акадэміі Навук. Перамена назова з Інбелкульту ў Акадэмію Навук ня будзе яшчэ апошнім крокам на шляху рэарганізацыйнага процэсу. Былі цяжары і на пройдзеным ужо рэарганізацыйным шляху, але пад ідэёвым кіраўніцтвам Комуністычнае партыі яны пройдзены; пад гэтым-жа кіраўніцтвам яны будуць зьнішчаны і ў будучыне. Лепшым залогам гэтае ўпэўненасьці ў магутныя сілы Комуністычнае партыі і працоўных гушчаў зьяўляецца 10 гадавіна Вялікае Кастрычнікавае рэволюцыі.

---

В. Пічэта.

# Краязнаўства ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце.

З моманту свайго заснаваньня Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт павінен быў зьвярнуць асаблівую ўвагу на вывучэньне беларускай краіны ў яе мінулым і сучасным. Дзякуючы таму, што на тэрыторыі Беларусі ня было вышэйшай школы пасьля зачыненьня Віленскага Унівэрсытэту, вывучэньне мінулага і сучаснага Беларусі было аднабаковым. Гісторыяй Беларусі займаліся польскія альбо расійскія вучоныя. І тыя, і іншыя разгледжвалі мінулае Беларусі з асаблівых пунктаў погляду: палякі—з агульнапольскага, а расійцы—з агульнарасійскага. Бязумоўна, такое вывучэньне Беларусі было вельмі няправільным і не магло даць магчымасьці скласьці ўражаньне аб мінулым Беларусі, як асобнай нацыянальна-культурнай адзінкі. І ў іншых пытаньнях па вывучэньні Беларусі зроблена вельмі мала, асабліва з боку прыродазнаўства, а таксама вывучэньня вытворчых сіл краіны. Для старога царскага ўраду Беларусь не прадстаўляла асаблівай цікавасьці, і на яе вывучэньне розныя ўрадавыя органы зьвярталі мала ўвагі.

Становіцца ўпаўне зразумелым, што Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт павінен быў шырака паставіць вывучэньне Беларусі з розных пунктаў погляду. Перш-на-перш гэта знайшло адбітак у складзе праграм Факультэту Пэдагогічнага і Факультэту Грамадзкіх Навук, потым рэформаванага ў Факультэт Права і Гаспадаркі. Цэлы шэраг курсаў па гісторыі Беларусі і яе культурным руху, па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беларусі, па гісторыі народнай гаспадаркі а таксама гісторыі права былі павінны даць слухачом асноўнае знаёмства з мінулым Беларусі і тым самым увесьці іх у вывучэньне сучаснага становішча Беларусі як з боку політычнага, гэтак сама і эканомічнага. Такія курсы, як эканомічная географія Беларусі, эканомічная політыка Беларусі, вывучэньне організацыі і становішча Савецкай Беларусі былі павінны азнаёміць слухачоў з статыкай сучаснай Беларусі, што, бязумоўна, зьяўляецца неабходным, каб выпускнікі БДУ маглі быць добрымі працаўнікамі на краязнаўчым грунце.

Трэба таксама сказаць, што на Літаратурным аддзяленьні цэлы шэраг курсаў па гісторыі беларускае мовы і беларускай літаратуры павінен быў увесьці моладзь у сфэру літаратурных плыняў на Беларусі, а таксама знаёміць слухачоў Унівэрсытэту з сучасным літаратурным рухам на Беларусі. Цэлы шэраг сэмінарый па гісторыі Беларусі, па яе эканоміцы, па гісторыі права, па гісторыі мовы і літаратуры павінен быў азнаёміць студэнтаў з навуковымі мэтодамі апрацоўкі матар'ялу дасьледчага характару. Унівэрсытэт меў на ўвазе, каб студэнты пасьля сканчэньня Унівэрсытэту, добра знаёмыя з навуковым

мэтодам, мелі мажлівасьць весьці дасьледчую краязнаўчую работу на мясцох.

Таксама і Яўрэйская сэкцыя на Пэдагогічным факультэце мела гэткі-ж самы краязнаўчы ўхіл. На Яўрэйскай сэкцыі выкладаліся лекцыі па гісторыі яўрэйства на Беларусі, па гісторыі рабочага руху на Беларусі, па вывучэньні мовы і яўрэйскай літаратуры. Такім чынам і студэнты Яўрэйскага аддзяленьня, як гісторыкі, гэтак сама і мовазнаўцы, атрымлівалі неабходную падрыхтоўку да далейшай самастойнай работы. Цэлы шэраг студэнтаў, якія скончылі Унівэрсытэт па Гістарычнымі аддзяленьні, ужо прадставілі дыплёмныя працы дасьледчага характару. Так т. *Бурдзейка* займаўся вывучэньнем маскоўска-літоўска-беларускіх адносін у канцы XVI і пачатку XVII ст., т. *Забела* займаўся вывучэньнем інвэнтароў XVII ст., на падставе якіх ён даў цікавы малюнак становішча сялянства на Беларусі ў XVIII ст., т. *Кернажыцкі* таксама на падставе інвэнтароў XVII ст. вывучаў вялікакняскія староствы XVIII ст., т. *Гембіцкі* зьвярнуў сваю ўвагу на валочную памеру Бабруйскага староства і на гісторыю беларускіх татар. Урэшце, т. *Сьцяпанаў* напісаў цікавую работу па гісторыі Магілева да ўвядзеньня Майдэборскага права. Усе гэтыя працы зьяўляюцца працамі дасьледчага характару; яны зьяўляюцца ўкладам у навуку, і калі яны будуць надрукаваны, то зоймуць паважнае месца ў навуковай літаратуры гістарычнага характару.

Таксама і дыплёмныя працы студэнтаў Факультэту Грамадзкіх Навук мелі краязнаўчы ўхіл. Цэлы шэраг работ быў прысьвечаны сучаснаму беларускаму праву ўва ўсіх яго праявінах.

Студэнтам Экономічнага аддзяленьня *Каракулька* было вывучана пытаньне аб сэрвітутах на Беларусі. Гэта праца была надрукавана. Таксама ў сваёй дыплёмнай працы ён вывучаў пытаньне аб дынаміцы народнай гаспадаркі на Беларусі ў першыя моманты новай экономічнай політыкі. Урэшце, студэнт *Жук* напісаў цікавую працу на тэму: „Прамысловасьць па пераапрацоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны, яе значэньне ў народнай гаспадарцы Беларусі і пэрспэктывы разьвіцьця“.

Прыродазнаўчае аддзяленьне Пэдагогічнага факультэту таксама будавалася на краязнаўчым грунце. Цэлы шэраг курсаў павінен быў азнаёміць студэнтаў з фаўнай і флёрай Беларусі, становішчам яе вытворчых сіл, з організацыяй нашай прамысловасьці з боку хімічнага. Гэтыя курсы павінны былі таксама даць навуковы мэтод для самастойнай краязнаўчай работы.

Цэлы шэраг экскурсій зоолёгічнага і батанічнага характару, экскурсіі на фабрыкі і заводы Менску, Гомеля і Барысава, пад кіраўніцтвам профэсароў павінны былі азнаёміць студэнтаў з мэтодамі вядзеньня экскурсій краязнаўчага характару.

Ї на Мэдыцынскім факультэце краязнаўчая праца таксама займала важнае месца. Вывучэньне пашырэньня на Беларусі малярыі, Базэдавай хваробы, вывучэньне раёнаў разьвіцьця рыно-склеромы, а таксама і іншых хвароб, якія вельмі распаўсюджаны між працоўнымі Беларусі, зьвяртала шмат увагі з боку профэсароў і іншых выкладчыкаў Мэдыцынскага факультэту. Дактары, якія скончылі Мэдыцынскі факультэт, былі ўпаўне знаёмы з мэтодамі па вывучэньні спэцыяльных хвароб на Беларусі.

Акрамя гэтага, студэнты-мэдыкі атрымалі неабходныя веды па беларусазнаўству, у тых мэтах, каб яны добра ведалі тую краіну, на якой ім прыдзецца працаваць у якасьці вясковых дактароў.

Навуковая праца профэсароў і выкладчыкаў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту таксама насіла краязнаўчы характар. Частка гэтых прац надрукавана ў „Працах Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту". Навуковыя працы *Даўгялы, Дружчыца, Ігнатоўскага, Пічэты, Жарынава* былі прысьвечаны вывучэньню мінулага Беларусі з розных бакоў. Работы *Вазьнясенскага, Піотуховіча, Барычэўскага, Замоціна* былі прысьвечаны вывучэньню розных бакоў гісторыі літаратуры і тэатру на Беларусі. *Шчакаціхін* чытаў курсы і займаўся гісторыяй мастацтва на Беларусі. Профэсары і доцэнты па гісторыі беларускай мовы—*Бузук, Лёсік, Воўк-Лсвановіч, Багдановіч*—надрукавалі цэлы шэраг артыкулаў па гісторыі беларускай мовы, а таксама па вывучэньні жывой беларускай мовы. Профэсары Пэдагогічнага факультэту, Прыродазнаўчага аддзяленьня, як *Фядзюшын, Зьбіткоўскі, Блюдухо, Зубковіч,* надрукавалі альбо падрыхтавалі да друку цэлы шэраг вельмі цікавых прац. Частка надрукавана ў выданьнях Інбелкульту.

Работы профэсароў Мэдыцынскага факультэту друкаваліся ў „Мэдыцынскай Думцы", органе Нар. Кам. Аховы Здароўя, а таксама і ў „Працах Унівэрсытэту".

Хімічныя лябараторыі, па даручэньні ВСНГ, займаліся аналізамі розных продуктаў, якія былі прадстаўлены ў хімічныя лябараторыі адпаведнымі органамі.

На факультэце Права і Гаспадаркі працы *Пічэты* па гісторыі Наргаспадаркі Беларусі і па гісторыі беларускага права надрукаваны ў „Працах БДУ" і часопісе „Полымя", і таксама прысьвечаны навуковай працы краязнаўчага характару на факультэце Права і Гаспадаркі. Работы пр. *Грэдзінгера* былі прысьвечаны сучаснаму грамадзкаму праву.

Акрамя гэтага, профэсары і выкладчыкі БДУ выступалі з цэлым шэрагам дакладаў у Навуковым Таварыстве пры БДУ, на адпаведных сэкцыях па сваёй спэцыяльнасьці. Усё гэта сьведчыць аб вялізарным краязнаўчым руху ў мурох БДУ.

Профэсары і выкладчыкі БДУ прымалі таксама значны ўдзел у розных гаспадарчых органах—Дзяржпляне, Інбелкульце, НКАсьветы і, па мажлівасьці, аддавалі свае сілы на вывучэньне Беларусі ў сучасны момант. Трэба прызнаць, што Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт зрабіў вельмі многа з боку краязнаўства і падрыхтоўкі моладзі для самастойнай краязнаўчай працы.

Студэнты БДУ з першых крокаў жыцьця БДУ вельмі цікаваліся краязнаўчай работай. Гэта выражалася ў тым, што былі організаваны студэнцкія гурткі краязнаўчага характару па спэцыяльнасьці. На чале такіх гурткоў стаялі выкладчыкі Унівэрсытэту. Аднак, гэтыя гурткі з боку організацыйнага мелі шмат недахопаў; яны былі організаваны слаба; уся краязнаўчая студэнцкая праца ня мела свайго кіруючага органу, дзякуючы чаму ў краязнаўчай працы студэнцтва было шмат перабояў. Усе гэтыя недахопы прымусілі студэнцкія органы прыступіць да організацыі Краязнаўчага Таварыства, якое ставіла сваёй задачай вывучэньне Беларусі ў прыродазнаўчым, географічным, соцыяльна-экономічным і культурна-гістарычным кірунках, шляхам зьбіраньня краязнаўчага матар'ялу, як індывідуальна, таксама спосабам экспэдыцый, экскурсій.

З другога боку, Краязнаўчае Таварыства ставіла сваёю мэтай распрацоўку сабраных матар'ялаў.

Трэцяй мэтаю Таварыства было падрыхтаваць студэнцтва да самастойнай дасьледчай працы на мясцох.

Організацыя таварыства патрабавала шмат напружнасьці, і к пачатку 1927 году Таварыства было канчаткова організавана і мела мажлівасьць прыступіць да сваёй працы.

Трэба адзначыць, што профэсары і выкладчыкі, а таксама студэнты з вялікай зацікаўленасьцю аднесьліся да работы Таварыства. Сябры Праўленьня Таварыства павялі шырокую агітацыю сярод студэнцтва. З другога боку на студэнцкіх сходах прымалі ўдзел прадстаўнікі Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, прычым т. *Касьпяровіч* зрабіў даклад на тэму: „Студэнцтва і краязнаўства“. Краязнаўчае таварыства падзялілася на сэкцыі. Кожная сэкцыя мела свой прэзыдыум, які нёс адпаведнасьць за ўсю працу сэкцый.

У працягу мінулага году на Мэдыцынскай сэкцыі былі зроблены наступныя даклады:

1. Д-р *Трамповіч,* на тэму: „Мэты і задачы Мэдсэкцыі ў краязнаўчай рабоце“.

2. Д-р *Цьвікевіч,* на тэму: „Мэты і задачы краязнаўчай работы“.

3. Студэнт *Гарбач:* „Як і чым лечыцца наша вёска“.

4. Студэнт *Барылла:* „Вальляк на Менску“.

5. Студэнт *Андрэеў* прачытаў даклад на тэму: „Вальляк на Віцебшчыне і Аршаншчыне“.

Акрамя гэтага, студэнтамі *Лагуном* і *Тамковічам* была праведзена дасьледчая праца — санітарна-гігіенічны досьлед Асіпавіцкага раёну; т. *Бараноўскім*—санітарна-гігіенічны досьлед Ізсэрскага Сельсавету на Случчыне, а таксама—„Як адбіліся хваробы на народнай творчасьці“. Студэнт *Дрыява* займаўся пытаньнем аб лекавых травах на Беларусі і іх ужытку ў народнай мэдыцыне. Акрамя гэтага быў прачытаны мэтодычны даклад на тэму: „Як весьці працу ўлетку“, даклад т. *Гарбача* быў надрукаваны ў часопісе „Мэдычная Думка“.

На пасяджэньні Культурна-Гістарычнай сэкцыі былі заслуханы даклады студэнтаў: *Улашчыка:* „Дасьледваньне цячэньня ракі Сьвіслачы“, т. *Александровіча:* „Гісторыя Маладняка“, т. *Потэса:* „Гісторыя міліцыі“ і „Гісторыя Крымінальнага Вышуку“, т. *Юрашкевіча*: „Батлейка ў Менску“. Акрамя таго быў зроблены даклад аб раскопках у Заслаўі.

У канцы году Социяльна-Гістарычная сэкцыя падзялілася на 2 камісіі—Культурна-Гістарычную і Фольклёрна-Дыялектолёгічную.

Социяльна-Экономічная сэкцыя не разгарнула шырака сваёй працы, яна падзялілася на 2 камісіі: Праўную і Экономічную. У Праўнай камісіі быў зроблены даклад студэнта *Леванчука:* „Дасьледваньне пахаджэньня слова „гвалт“ і студэнта *Янэля:* „Прывілей 1447 году, як крыніца статуту 1529 году“.

Экономічная Камісія намеціла шэраг дакладаў па вывучэньні гісторыі капіталізму на Беларусі.

Прыродазнаўча-Географічная сэкцыя ўвесь час займалася практычнай працай, якую яна вяла ў лябораторыях і габінэтах БДУ. Вышэйпамянёная сэкцыя падзялілася на 5 камісій: Зоолёгічную, Батанічную, Біолёгічную, Фізыолёгічную, Геолёгічную і Хімічную. Найбольш продукцыйнай была камісія Батанічная.

Урэшце была організавана Яўрэйская сэкцыя, якая займалася організацыйнымі пытаньнямі. Асыстэнт *Аляксандраў* зрабіў мэтодычны даклад. Сэкцыя ставіла сваёю мэтай вывучэньне быту, мовы і літара-

туры яўрэяў на Беларусі, але з прычыны таго, што сэкцыя організавалася ў канцы году, яна ня мела мажлівасьці шырака разгарнуць сваю дзейнасьць.

У красавіку месяцы гэтага году Прэзыдыум Праўленьня Краязнаўчага Таварыства падняў пытаньне адносна організацыі экспэдыцыі дасьледчага характару ў Тураўскі раён Мазырскае акругі. Грошы, патрэбныя для экспэдыцыі, былі дадзены часткова Праўленьнем БДУ, часткова—Мазырскім Акруговым Краязнаўчым Таварыствам. У экспэдыцыі прымалі ўдзел усе сэкцыі. Дасьледваньне Тураўскага раёну павінна было весьціся ў напрамку археолёгічным, культурна-гістарычным, соцыяльна-экономічным, прыродазнаўча-географічным. Частка здабытых матар'ялаў павінна быць перададзена раённаму таварыству; другая частка павінна легчы ў аснову краязнаўчага музэю.

Удзельнікі экспэдыцыі, на чале з выкладчыкамі БДУ, аднесьліся да сваёй мэты з вялікім энтузыязмам. Таксама на мясцох экспэдыцыя была сустрэчана з шчырым прывітаньнем. Сябры экспэдыцыі сабралі па спэцыяльнасьці выдатны матар'ял, які апрацоўваецца ў сучасны момант і які будзе надрукаваны. З другога боку, удзельнікі экспэдыцыі зрабілі на мясцох цэлы шэраг дакладаў па сваёй спэцыяльнасьці і тым самым зацікавілі працамі экспэдыцыі шырокія колы працоўных мас, профэсыянальных і партыйных організацый.

Наогул, трэба прызнаць, што экспэдыцыя дала выдатныя вынікі. Мінулая экспэдыцыя паказала неабходнасьць організацыі экспэдыцый і ў наступным годзе. Мінулая экспэдыцыя паказала ўсе недахопы організацыйнага характару, а таксам высьветліла пытаньне аб тым, як трэба організаваць экспэдыцыю, каб яна дала найбольшыя вынікі.

Такім чынам БДУ, як навуковая організацыя, прымае значны ўдзел ў краязнаўчым руху. Працуючы ў сувязі з Цэнтральным Бюро Краязнаўства і Інбелкультам, БДУ будзе аддаваць усе свае сілы для вывучэньня Беларусі, як у яе мінулым, гэтак сама і ў сучасным.

Апіраючыся на падтрыманьне працоўных мас, Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт павінен яшчэ шырэй паставіць і распаўсюдзіць сваю краязнаўчую работу.

---

**Проф. П. Салаўёў.**

# Краязнаўчая дзейнасьць Горацкай С.-Г. Акадэміі імя Кастрычнікавай Рэволюцыі і Навуковага Т-ва.

Паважнае месца ў краязнаўчай працы БССР займае Беларуская С.-Г. Акадэмія і Навуковае Т-ва па вывучэньні Беларусі, якое знаходзіцца пры Акадэміі. З прычыны таго, што сябрамі гэтага Т-ва зьяўляюцца навуковыя працаўнікі і часткова студэнты Акадэміі, дык зусім магчыма гаварыць адразу аб супольнай працы гэтых дзьвюх установаў.

Кастрычнікавая рэволюцыя зьявілася эпохай, якая стварыла асабліва спрыяючыя ўмовы і пэрспэктывы для разьвіцьця краязнаўчай справы. Дзесяцігадовы пэрыод у жыцьці СССР, які прайшоў пасьля пераходу ўсяе ўлады ад буржуазіі да Саветаў, дае нам зусім ясны малюнак бязумоўнага росту, дыфэрэнцыяцыі і паглыбленьня краязнаўчай справы як ва ўсім Саюзе, так і ў БССР. Гэтую зьяву можна прасачыць і ў жыцьці Беларускай Акадэміі, дзе краязнаўчая праца расла, мацнела і організоўвалася за ўвесь час да дзесяцігодзьдзя рэволюцыі. У 1924 г. організавалася Горацкае раённае т-ва краязнаўства, а ў 1925 г. узьнікла Навуковае Т-ва па вывучэньні Беларусі.

Краязнаўцамі прынята адрозьніваць тры напрамкі краязнаўчай працы: культурна-гістарычны, грамадзка-экономічны і прырода-геаграфічны. Усе гэтыя напрамкі знайшлі адбітак у працы Акадэміі і існуючага пры ёй Навуковага Т-ва.

Беларуская С.-Г. Акадэмія, якая сваім існаваньнем абавязана Савецкай уладзе, адрадзілася там, дзе ў палове мінулага стагодзьдзя была заснавана першая ў Расіі вышэйшая с.-г. школа. Дзякуючы пераважнаму ўваходу ў склад навуковых працаўнікоў Акадэміі агрономаў, лесаводаў, мэліоратараў, інжынэраў, грамадзка-экономічны кірунак краязнаўчай працы набыў магчымасьць больш моцнага разьвіцьця. На першы плян спэцыялістых-практыкаў высоўвала настойная неабходнасьць для Соцыялістычнай дзяржавы адшукаць рацыянальныя шляхі да адбудовы разбуранай вайной гаспадаркі. Працы спэцыялістых на беларускай тэрыторыі і на падставе мясцовых матар'ялаў натуральна набываюць краязнаўчы характар.

Агрономічная праца праводзілася шэрагам спэцыялістых і іх вучнямі па садоўніцтву, палявых культурах, жывёлаводстве і экономіцы гаспадаркі. Як асноўная ўмова для навуковага разуменьня і вядзеньня палявой гаспадаркі, высоўвалася неабходнасьць вывучэньня хімічных процэсаў у глебе і ўзаемаадносін між апошнімі і жыцьцём расьлін (проф. О. К. Кедраў-Зіхман). Пры вывучэньні мясцовых умоў для вядзеньня гаспадаркі, між іншым, прыстасаваны і найноўшыя мэтоды дасьледаваньня, як напр. вучот *pH* (проф. А. В. Ключароў, Страж,

Мяцельскі). У нядаўны час у практыку Акадэміі ўведзена пладавое вінаробства (праф. М. І. Бурштэйн, Р. С. Гуржы). Наладжана вывучэньне піваварных ячменяў (праф. К. Г. Рэнард). Акадэмія таксама зьвярнула значную ўвагу на сэлекцыйную працу і досьледы (відаў) расьлін (праф. Рэнард), а таксама на пробу с.-г. машын у беларускіх умовах (праф. Ю. А. Вэйс). Неабходна далей адзначыць, што Горацкая с.-г. Дасьледчая Станцыя, якая працуе супольна з Акадэміяй, дае магчымасьць, апрача самой Акадэміі, весьці краязнаўчую працу і студэнтам. Як відаць, напр., са справаздачы К. Г. Рэнарда і Г. Р. Рэго, у вывучэньні беларускіх ячмянёў, аўсоў і інш. прыймала ўдзел 16 студэнтаў, якія працавалі над спэцыяльнымі тэмамі. Студэнты прыймалі ўдзел у працы і другіх аддзелаў станцыі. Роўным чынам пры шмат якіх катэдрах Акадэміі (ня толькі агрономічных) студэнтамі выконваліся дыплёмныя працы краязнаўчага характару. Некаторыя з іх надрукаваны.

Ня маючы магчымасьці даць вычэрпваючы нарыс аб вялікай краязнаўчай працы іншых катэдраў Акадэміі, я абмяжуюся далей толькі кароткімі заўвагамі (пералік прац, надрукаваных С.-Г. Акадэміяй будзе зьмешчаны ў чарговым № „Нашага Краю“). Агрономічнымі катэдрамі па садоўніцтву (праф. М. І. Бурштэйн, Р. С. Гуржы і др.) рабіліся досьледы паасобных садоў і цэлых раёнаў. Па жывёлаводзтве (праф. Н. В. Найдзенаў, праф. Н. Н. Пелехаў, С. І. Журык і др.) побач з краявымі досьледамі высьвятляліся тэорэтычныя і экономічныя пытаньні. Па лесаводзтве побач з вынікамі спэцыяльных мясцовых досьледаў (праф. В. І. Пераход, праф. С. П. Мельнік, Г. І. Несьцярчук і др.) высьвятляліся некаторыя тэхнолёгічныя пытаньні (праф. В. В. Шкацелаў). Па мэліорацыі і зямлябудаўніцтве праводзілася вывучэньне нашых балот з розных пунктаў погляду (праф. А. Д. Дубах, праф. Р. П. Спарро, праф. Н. С. Фралоў і др.) і падрыхтоўвалася глеба для мясцовага землябудаўніцтва (праф. П. А. Хадаровіч). Трэба адзначыць працу І. Т. Салдатава „Мэліорацыйны рух на Беларусі“ (1925 г.). Матар'ял Салдатава, які апрацаваны ў гістарычным, экономічным і палітычным разрэзах і захоўваецца ў архівах, ужо знайшоў свой адбітак у шэрагу пастаноў ЦВК і СНК Беларусі. Асобнай увагі заслугоўвае вялікая па разьмеры і цікавая па зьместу праца праф. Н. С. Фралова па пытаньнях экономікі мэліорацый у Мазырскім Палесьсі, якая выдадзена ў шэрагу навукова-дасьледчых прац НКЗ БССР.

У галінах блізкіх да прыродазнаўства і агрономіі вяла працу катэдра агрономічнай хіміі (праф. О. К. Кедраў-Зіхман), зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на вывучэньне пытаньня аб угнаеньні падзолавых глеб БССР. Па прыродазнаўстве кліматолёгічныя моманты высьветлены ў працах праф. А. І. Кайгародава. У сучасны момант друкуецца кліматычны атлас Беларусі, апрацаваны праф. Кайгародавым у ліку 75 карт. Геолёгія вывучалася праф. Б. А. Мажароўскім, праф. Ф. В. Лунгерсгаўзенам і Б. К. Тэрлецкім. Глебы Беларусі зьявіліся прадметам досьледаў праф. Я. Н. Афанасьсева, П. А. Кучынскага, Рагавога і др. Хімічная лябораторыя (праф. І. І. Красікаў, К. Н. Караткоў і др.) дала шмат матар'ялаў па аналізу мясцовых вод і іншых продуктаў вытворчага значэньня. Ботанічная праца сконцэнтравалася ў ботанічным садзе, які організаваны праф. І. Г. Васільковым, і ў лябораторыях, прычым вывучалася мясцовая флёра, відавы склад сьмецьцякоў, хваробы расьлін і беларускія назвы апошніх (праф. І. Г. Васількоў, М. Н. Мэдзіш, М. Н. Ганчарык, Кесарава). Зоолёгічная праца заключалася ў выву-

чэньні мясцовай фаўны, прычым аддавалася ўвага шкоднікам саду (П. П. Фірсаў), шкоднікам зярна і мукі (Н. К. Навіцкая), шкоднікам лесу і поля, формам патогэнным, як малярыйны камар і паразытныя чэрві (проф. П. Ф. Салаўёў).

У сучасны момант Беларуская С.-Г. Акадэмія заканчвае друкаваньнем 5-ы том сваіх „Запісак“, дзе ёсьць і краязнаўчы матар‘ял. Навуковае Т-ва з свайго боку хутка выпускае адначасна 3-ці том, прысьвечаны апісаньню Горацкага раёну (прырода, гаспадарка, гісторыя і быт) і чарговы 4-ы том.

На пасяджэньнях Навуковага т-ва ставіліся цікавыя даклады, якія яшчэ не апублікаваны, як напр. Г. І. Гарэцкага „Нацыянальны прыбытак Беларусі“, проф. І. Г. Васількова „Аб гэрбарным матар‘яле беларускіх расьлін“, проф. Н. Н. Пелехава „Аб навуковым архіве Акадэміі“ і інш.

Мінулым летам на сродкі Інбелкульту праведзены наступныя працы: Кораткаў „Вывучэньне грунтовых вод Горацкага раёну“, Васількоў і Дзянісаў „Дасьледваньне расьлінных згуртаваньняў поймы ракі Проні“, Скандракоў „Дасьледваньне тэхнікі сельскай гаспадаркі“, Савельлеў „Вывучэньне насеньня хлебаў Калініншчыны“, Рэго „Вывучэньне экспортнай беларускай канюшыны“, Бурштэйн „Дасьледваньне садоўніцтва Случчыны і Бабруйшчыны“, Карлсон „Дасьледваньне садоўніцтва Мазыршчыны“, Журык „Вывучэньне макухі БССР“, Кедраў-Зіхман „Вывучэньне фосфарытаў і торфу ў БССР“.

Па катэдрах Беларускай С.-Г. Акадэміі справа знаходзіцца ў такім стане: К. Н. Каратковым і Іванавым сабраны матар‘ялы і распачата праца „Гліны Горацкага раёну“. Проф. Н. С. Фраловым закончаны летнія экспэдыцыйныя досьледы па экономіцы мэліорацый ва ўсіх акругах БССР і ў сучасны момант друкуюцца матар‘ялы, якія адносяцца да Бабруйшчыны і Случчыны. Пры катэдры прыватнага землеробства проф. А. В. Ключарова апрацоўваецца матар‘ял і падрыхтоўваюцца да друку працы на наступныя тэмы: „Нітратны рэжым вады рэк Саюзу (дасьледваньне вады Дняпра каля Воршы і Бярэзыні каля Барысава).

Уплыў росту зернавых траў на рэакцыю глебы. Вопыт па дасьледваньні гатункаў бульбы (Стэбутаўскае поле). Дасьледваньне буфэрных уласьціваcьцяй беларускіх глеб і іх уплыў на ўраджай расьлін. Уплыў кісьлоўнасьці глеб на пашырэньне расьлінных згуртаваньняў. Уплыў рэакцыі глебы на выкарыстаньне расьлінамі фосфарнай кіслаты, „фасфарыту“.

Проф. Н. Н. Пелехавым закончаны гістарычныя досьледы аб палажэньні сялян Горацкага раёну ў палове мінулага стагодзьдзя і аб становішчы аўцаводзтва, а таксама сабраны матар‘ялы аб разаку вадзяным (Aloides stratioites L.), як корму для сьвіней. П д кіраўніцтвам Н. Н. Пелехава праведзена дыплёмная праца студ. Аарона „Гарадзкое каняводзтва б. Магілеўскай, Менскай, Віцебскай і Віленскай губ.“.

Проф. П. Ф. Салаўёў і Н. К. Навіцкая вядуць вывучэньне мясцовага планктона. Б. Я. Ліпкін прыступае да апрацоўкі сабраных матар‘ялаў па пытаньні аб аднаўленьні дубу ў Буда-Кашалёўскім лясьніцтве і аб забясьпечаньні вясковага насельніцтва Горацкага раёну лясным матар‘ялам.

Урэшце, частка навуковых працаўнікоў і студэнтаў зьяўляюцца сябрамі мясцовага раённага краязнаўчага т-ва, робяць даклады аб сваіх працах на сходах т-ва, далі артыкулы для зьборніка, які прысьвечан апісаньню Горацкага раёну, прыймаюць удзел у краязнаўчых зьездах і конфэрэнцыях, чытаюць лекцыі на грамадзянскіх сходах і ахвотна дапамагаюць, як толькі ўмеюць і могуць, кожнаму, хто ідзе на заклік т-ва працаваць у т-ве ў напрамку краязнаўства.

# Навукова-дасьледчыя С.-Г. ўстановы БССР.

Г. Гарэцкі.

## Дасьледчая справа па сельскай і лясной гаспадарцы і краязнаўства.

Дасьледчая справа ў галіне сельскай і лясной гаспадаркі і краязнаўства на Беларусі маюць між сабою шмат агульнага. Перш-на-перш агульнае *ў гісторыі*. І дасьледчая справа і краязнаўства разгарнуліся на Беларусі толькі пасьля рэволюцыі. Другое агульнае—*у тэмпе працы*. Краязнаўчы рух, які пачаўся з дзейнасьці невялічкіх гурткоў, шырокаю і шыбкаю хваляю ахапіў усю БССР. Так і дасьледчая справа, пачаўшыся з скромнае працы аднае-дзьвюх станцый, дасягнула паступова ўтварэньня 5 раённых і 5 спэцыяльных станцый, а ў апошні год—організацыі Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна з шэрагам новых дасьледчых установ. І гісторыя дасьледчае справы і тэмп яе ўзросту ў БССР яскрава адбіваюць уплыў рэволюцыі: буйная хваля краязнаўчага руху тлумачыцца выгукнутаю рэволюцыяй соцыяльна-клясавай і нацынальна-культурнай сьвядомасьцю беларускіх рабочых і сялян; уздым дасьледчае справы тлумачыцца ростам і аднаўленьнем нашае сельскае гаспадаркі, тэй вытворчай рэволюцыяй, якая магла пачацца толькі пасьля магутнае аграрнае рэволюцыі, пераежытае нядаўна БССР.

Трэцяе агульнае між краязнаўствам і дасьледчай справай—гэта *зьмест працы:* і краязнаўцы і дасьледчыкі маюць па сутнасьці адзіную мэту—вывучэньне Беларусі; яны супольна змываюць цёмную пляму, якую да рэволюцыі займала Беларусь на сельска-гаспадарчых картах Эўропы. У гэтай вялікай і доўгатэрміновай працы дасьледчыкі і краязнаўцы толькі падзялілі між сабою ролі; дасьледчыкі ўзялі тыя тэмы, якія патрабуюць для свайго вырашэньня складаных і часта дарагіх навуковых прылад і больш складанай навуковай мэтодолёгіі, праца носіць пераважна стацыянарны характар і зьвязана з адпаведна-выбранымі зямельнымі плошчамі; краязнаўцы-ж узялі на сябе тэмы, патрабуючыя больш даступнага масаваму дасьледчыку. Але гэта толькі падзел функцый у вялікай супольнай працы, і гэты падзел вымагае самае цеснае сувязі, контакту краязнаўцаў і дасьледчыкаў.

На жаль, такі сьціслы контакт не заўсёды можна было наглядаць у беларускай практыцы дагэтуль. А гэта магчыма растлумачыць тым, што і краязнаўства і дасьледчая справа БССР не дайшлі яшчэ да моманту *колькаснае стабілізацыі,* не перайшлі яшчэ з пары экстэнсыўнага ўзросту да пары інтэнсыўнага разьвіцьця, пары паглыбленьня працы і палепшаньня яе якасьці. Але гэтая пара ўжо блізка, і хутка справа сувязі краязнаўства і дасьледчае працы стане пільнай, безадкладнай.

Кажучы конкрэтна аб гэтай сувязі, можна-б было бачыць яе ў такіх формах:

1. *Монографічныя апісаньні дробных раёнаў*—і ў краязнаўчай і ў дасьледчай практыцы *монографічны* мэтод паступова заняў пачэснае месца, гэта мэтод найбольш пэўнага, дэталёвага і глыбокага вывучэньня, да таго-ж зусім даступны масаваму дасьледчыку; дасьледчыя станцыі і ўстановы маглі-б дапамагчы краязнаўцам у сэнсе складаньня програм і плянаў дасьледваньня, краязнаўцы дапамаглі-б у масавым правядзеньні дасьледваньня;

2. *Фэнолёгічныя нагляданьні*—праца, у якой краязнаўства мае ўжо шмат дасягненьняў; трэба-б было надаць гэтай працы больш конкрэтнасьці і праз навуковую апрацоўку ажывіць паасобныя назіраньні; краязнаўцы дапамаглі-б дасьледчыкам у павялічэньні колькасьці нагляданьняў, дасьледчыкі памаглі-б у навуковай апрацоўцы матар'ялаў, а самы ўдзел у навуковым апрацаваньні з боку краязнаўцаў, калі-б яны самі вышуквалі законаўпарадкаванасьць і ўзаемасувязь нібы ў разлучаных нагляданьнях, ажывіў-бы працу.

3. *Сялянскія досьледы*—у вядомым сэнсе і яны маюць краязнаўчы характар; краязнаўцы маглі-б ня толькі выявіць і падшукаць сялян-дасьледчыкаў, але і самі праводзіць досьледы на сялянскай гаспарцы.

4. *Сталыя рахунковыя запісы ў сялянскіх гаспадарках*—гэтай новай працы, у якую беларускае сялянства толькі пачынае ўцягвацца, краязнаўцы маглі-б адыграць вялікую ролю, і шляхам правядзеньня запісаў, нагляданьня за іх правядзеньнем, і шляхам скарыстаньня матар'ялаў рахунковасьці для пазнаньня сельска-гаспадарчага жыцьця раёну.

5. *Сельска-гаспадарчая корэспондэнцыя*—форма анкетных дасьледваньняў і корэспондэнцый яшчэ надоўга затрымаецца ў практыцы па вывучэньні самых розных галін гаспадаркі; роля краязнаўчых організацый тут можа быць вельмі паважнай; т. зв. „экономічная фэнолёгія“ магла-б быць цалкам сконцэнтравана ў корэспондэнтаў-краязнаўцаў.

6. *Сельска-гаспадарчая музэйная справа*—якая ў БССР толькі што пачынаецца, ня зможа належна разгарнуцца бяз сумеснае працы краязнаўца і дасьледчыка; без дасьледчыка раённы сельска-гаспадарчы музэй будзе толькі зборам выпадковых прадметаў, без краязнаўцаў—гэта будзе пераважна музэй станцыі, а не раёну.

Можна-б было налічыць яшчэ шэраг прац, у якіх дзейнасьць дасьледчыка павінна быць цесна зьвязана з дзейнасьцю краязнаўца. Пералічаны толькі галоўныя.

Сувязь краязнаўства з сельска-гаспадарчай дасьледчай працай надала-б краязнаўству больш *вытворчы* характар, а тым самым павялічала-б *вытворчае* значэньне краязнаўства БССР.

Дасьледчая-ж справа Беларусі прыдбала-б у краязнаўстве свайго найбліжэйшага хаўрусьніка, з якім было-б шмат лягчэй дасягнуць дасьледчым установам іх краязнаўчае мэты.

---

М. Савіцкі.

# Дасягненьні ў галіне с.-гасп. навукова-дасьледчай справы БССР.

Савецкая Беларусь, у сучасных яе граніцах, да Кастрычнікавай рэволюцыі амаль што ня мела сваіх навукова-дасьледчых установ. У той час, толькі ў галіне культуры балот мы мелі адну Менскую Балотную Дасьледчую Станцыю, існуючую з 1912 г. Па другіх галінах сельскае гаспадаркі мы былі толькі прыкладам „нашего невежества“.

Шпаркае разьвіцьцё дасьледчай справы ў БССР пачынаецца толькі пасьля вызваленьня Беларусі ад белапалякаў і пасьля 1-2 гадоў мірнага будаўніцтва Савецкага ўраду. Толькі адна Магілёўская Дасьледчая Станцыя Лекавых Расьлін была вызвана к жыцьцю ў 1917 г. умовамі ваеннага часу—неабходнасьць здабыць лекавы сырэц на ўнутраным рынку. Іншыя дасьледчыя ўстановы пачынаюць організоўвацца з 1922—25 г.

У сучасны момант мы маем 5 раённых с.-г. дасьледчых станцый — Горацкую, Віцебскую, Менскую, Турскую і Палескую і 6 станцый спэцыяльнага назначэньня — Менскую балотную, Магілеўскую—лекавых расьлін, Менскую—аховы расьлін, Менскую—машынаспробную, Забалацкую балотную гаспадарку і Цэнтральную Лясную Станцыю ў Горках. Для вывучэньня клімату краіны існуе Мэтэоролёгічнае Бюро, аб'яднаючае 22 мэтэоролёгічн. станцыі II разраду, 48 станцый III разр. і 46 вадамерна-дажджамерных пастоў.

Акрамя гэтага, ужо напярэдадні 10 гадавіны Кастрычнікавай Рэволюцыі, мы маем організацыю Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту Сельскае і Лясное Гаспадаркі імя У. І. Леніна з дапаможнымі ўстановамі—як Зоотэхнічная, Сьвінаводная і Бульбяная дасьледчыя станцыі (акрамя ўстаноў прынятых ад НКЗ).

Такім чынам, там дзе мы мелі да Кастрычнікавай Рэволюцыі амаль што „пустое месца“, к 10 гадавіне мы маем значную сетку навукова-дасьледчых установ. За гэты час праароблена вялікая організацыйная праца, вынікі якой у хуткім часе павінны сказацца, бо навукова-дасьледчыя ўстановы ўсю сваю навуковую думку накіроўваюць на інтэнсіфікацыю і паляпшэньне сельскае гаспадаркі.

Аб тым росьце, які мы маем у галіне с.-г. дасьледчай справы, асабліва яскрава магчыма бачыць паводле асыгнаваньняў за кошт Дзяржавы, якія ў першую чаргу адбіваюцца на тэмпе і аб'ёме працы:

| Гады: | 1913 г. | 1914 г. | 1915 г. | 1924—25 г. | 1925—26 г. | 1926—27 г.*) | 1927—28 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Асыгнавана ў руб. | 37.087 | 41.634 | 39.480 | 30.796 | 145.409 | каля 300.000 | каля 500.000 |
| Лік установ | 1 | 1 | 1 | 9 | 11 | 12 | 14 |

*) Разам з асыгнаваньнямі Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту.

Трэба адзначыць, што навукова-дасьледчая праца па сваім характары, для пэўных вынікаў, патрабуе значнага часу. Некаторыя досьледы вырашаюцца на станцыях у працягу дзесяцігодзьдзяў. Але ўжо ў даны момант па некаторых галінах мы маем десягненьні. У ўмовах кароткага артыкулу аб гэтым магчыма паведаміць толькі ў самых кароткіх рысах.

### Паляводзтва.

У галіне паляводзтва працуюць пяць раённых сельск.-гасп. дасьледчых станцый: Горацкая, Віцебская, Менская, Турская і Палеская. Галоўныя задачы аддзелаў паляводзтва,—гэта распрацоўка і высьвятленьне пытаньняў тэхнікі сельскае гаспадаркі ў адносінах:

1) Шуканьня шляхаў інтэнсіфікацыі паляводзтва;
2) Кармадабываньня і
3) Паляпшэньня глебы, шляхам яе вырабу і ўгнаеньня.

У адносінах інтэнсіфікацыі паляводзтва вывучаюцца розныя інтэнсіўныя культуры, чыстыя і занятыя папары, падсяўныя і пажніўныя культуры, розныя тыпы севазваротаў і г. д.

Для вырашэньня кармавога пытаньня вывучаюцца розныя прапашныя культуры, бабовыя, выкарыстаньне канюшыны на ўкос і здратваньне і інш.

Па пытаньні аб паляпшэньні глебы—вывучаецца ўплыў розных угнаеньняў і вырабу глебы як на глебу, гэтак і на расьліну.

У выніку дзейнасьці станцыі мы маем ужо прыклады значных ураджаяў на дасьледчых палёх. Так, паводле даных за 1926 г. на некаторых дасьледчых дзялянках на станцыях былі ўраджаі, якія перавышаюць у 3—5 разоў сярэднія ўраджаі жыта па БССР і ў 2½ разы па бульбе.

Гэта яскрава відаць з наступнай табліцы ўраджаяў за 1926 г. (у цэнтнерах на гэктар):

| Назва культуры. | Сярэднія па БССР | На дасьледчых палёх | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Горацкая станц. | Менская станц. | Віцебская станц. | Турская станц. |
| Жыта (зярно) . | 6,31 | 32,0 | 28,32 | 26,4 | 20,0 |
| Бульба (клубн.) . | 85,73 | 192,9 | 202,58 | 225,9 | 215,7 |

Такая вялікая розьніца паміж сярэднімі ўраджаямі па БССР і магчымымі ўраджаямі, прыклады аб якіх даюць дасьледчыя станцыі, тлумачыцца нашай адсталасьцю і старымі прыёмамі гаспадараваньня; а іменна: трохпалёўкай, малым ужываньнем мінэральных угнаеньняў, дрэнным вырабам глебы і дрэннымі машынамі, не ачышчаным і малаўраджайным насеньнем і г. д. Досьледамі станцый СССР устаноўлена, што шматпольлем можна падняць ураджаі на 80—100%, мінэральнымі ўгнаеньнямі на 30—50%, рацыянальным вырабам глебы на 25—40% і сартавым насеньнем на 20—30%.

З работы аўтара данага артыкулу „Вынікі палявых досьледаў з угнаеньнямі па Меншыне“ таксама відаць, што поўнае мінэральнае ўгнаеньне па Меншчыне павышае ўраджай жыта на 46,3%, аўсу на 48,1%, ячменю на 41,1% і бульбы на 44,4%.

У тэй-жа рабоце аўтара па Меншчыне атрыманы лічбы па ацэнцы асобных угнаеньяў, якія прыведзены ў наступнай табліцы:

Аплата аднаго пуда ўгнаеньня ў пудох ураджаю.

| Тып глебы | Суглінкі | | | | | Супясі | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| НАЗВА ЎГНАЕНЬНЯ | Салітра | Суперфасф. | Тамасш. | Калійная соль 30% | Калійная соль 40% | Салітра | Супэрфасф. | Тамасшлак. | Фасфарыт. | Калійная соль 30% | Калійная соль 40% |
| Сярэдняя норма ўгнаеньня ў пуд. на дес. | 6[1]) | 18 | 24 | 10 | 6 | 6 | 20 | 24 | 35 | 10 | 6[2]) |
| Жыта-зярно . . . . | 3.5 | 0.75 | 0,6 | 1,0 | — | — | 1,1 | 0,9 | 0,66 | 1,3 | — |
| „ салома . | 11.7 | 1,3 | 1,1 | 1,8 | — | — | 1,4 | 0.9 | 0,9 | 2,7 | — |
| Авёс-зярно . . . . | 2,8 | 0,8 | 0.5 | — | 1,8 | 3,1 | 1,0 | 0,5 | — | 1,2 | — |
| „ салома . | 4,0 | 1,0 | 1,3 | — | 1,6 | 4,7 | 1,1 | 0,9 | — | 2,6 | — |
| Ячмень-зярно . . . | 3,0 | 0,8 | 0,6 | — | 1,4 | — | 0,8 | 0,6 | — | — | 1,4 |
| „ салома . | 4,0 | 0,8 | 0,1 | — | 1,3 | — | 0,2 | 0,3 | — | — | 2,5 |
| Бульба-клубні . . . | 24,1 | 7,5 | 4,3 | — | 18,1 | 19,1 | — | 1,2 | — | — | 11,3 |

Як можна бачыць з гэтай табліцы, мінэральнае ўгнаеньне ў нас добра аплачваецца і можа знайсьці сабе „шырокае поле“ ўжываньня пры зьніжэньні цаны на ўгнаеньне.

Шырокім ужываньнем мінэральных угнаеньняў разам з іншымі культурнымі способамі гаспадараваньня, замежныя краіны ў мінулым стагодзьдзі паднялі ўраджайнасьць сваіх палёў на значную вышыню, што можна бачыць з наступнай табліцы ўраджаяў зернавых хлябоў (у цэнтнерах на гэктар):

| | 1770-1780 г. | 1885 г. | 1895 г. | 1905 г. | 1913 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Данія . . | — | 22,33 | 23,98 | 26,68 | 28,48 |
| Голяндыя . . | — | 18,13 | 19.63 | 24.28 | — |
| Нямеччына . | 6,75 | 14,99 | 17,54 | 19,78 | 22,78 |
| Францыя . . | 6,75 | 11,54 | 13,04 | 13,34 | 13.49 |
| Расія . . | — | 5,10 | 5,85 | 6,60 | 6,75 |

## Сэлекцыя і насеньняводзтва.

У мэтах замены малаўраджайнага і засьмечанага насеньня ў насельніцтва, у апошнія гады НКЗ зьвернута вялікая ўвага на разгорт-

[1]) Пад бульбай 9 пуд.
[2]) „ „ 11,25 пуд.

ваньне работ па сэлекцыі і насеньняводзтву. Сэлекцыя ці вывядзеньне новых лепшых сартоў с.-г. расьлін сконцэнтравана ў нас па дасьледчых станцыях. Так Горацкая станцыя займаецца сортавывучэньнем усіх збожжавых расьлін, а таксама лёну і канюшыны, Віцебская станцыя—сортавывучэньнем гародных расьлін, Турская—лугавых і Менская бульбяная дасьледчая станцыя павінна заняцца вывучэньнем сартоў бульбы.

Праца па вывядзеньні новых сартоў патрабуе значнага часу, сіл і сродкаў. Каб хутчэй мець вынікі ў справе насеньняводзтва ў сучасны момант асаблівая ўвага зьвернута на апрабаваньне сартоў, выведзеных дасьледчымі станцыямі РСФСР, Украіны і за межамі Саюзу. Досьледы ў гэтым напрамку дазволілі нам выдзеліць для далейшага размнажэньня жыта „Пяткускае“, авёс—„Пабеду“—для больш цяжкіх глеб і „Залаты Дождж“—для больш лёгкіх глеб, зімовую пшаніцу „Высокалітоўскую“, ячмень „Ганна-Ганхен“ і „Лебядзіную шэю“, бульбу „Вольтман“ і „Сылезію“.

Гэтыя сарты ўжо размнажаюцца ў дзяржаўнай насеннай культуры і некаторыя з іх, як „Залаты дождж“, ужо размножаны да дзесяткаў тысяч пудоў.

Практычнае насеньняводзтва організавана такім чынам, што матачныя рассаднікі пры вышэйпамянёных дасьледчых станцыях (па яе спэцыяльнасьці) даюць сотні пудоў таго ці іншага сорту для далейшага размнажэньня Дзяржаўнай Насеннай Культурай. Гэтая Дзяржнасенкультура організавана з 4-х саўхозаў—Райцы, Межава, Козечкі і Вусьце—каля Воршы на больш цяжкіх глебах і з 4-х саўхозаў—Ачэса-Рудня, Іванаўскае-Дземянкі, Закружжа і Навасёлкі—каля Гомеля на больш лёгкіх глебах. Дзяржнасенкультура размнажае перададзены ёй сорт да тысяч пудоў і перадае ў саўхозы, якія ў сваю чаргу размнажаюць да дзесяткаў тысяч пудоў і перадаюць у насеньняводныя таварыствы. Ад насеньняводных таварыстваў, калі гэты сорт размножаны да соцень тысяч пудоў, ён паступае к насельніцтву, бо толькі пры такой колькасьці можна спадзявацца, што размножаны сорт ня так хутка страціць сваю моц і ня так хутка будзе засораны іншымі шкадлівымі прымешкамі.

У сучасны момант ідзе накапленьне сартавога насеньня ў пералічанай сетцы па насеньняводзтву і толькі з 1929 г. насельніцтву будуць перададзены першыя партыі палепшанага сартавога насеньня.

Для контроля за захоўваньнем якасьці сартавога насеньня з 1927 г. мы маем 4 Контрольна-Насенныя Станцыі—у Менску, Гомелі, Віцебску і Горках—якія кожны год праводзяць прызнаньне сортнасьці пасеваў як на корані, гэтак і ў сьвірнах з сартавым насеньнем.

## Садоўніцтва.

Аддзел Садоўніцтва Горацкай С.-Г. Дасьледчай Станцыі асноваў у 1922 г. Аддзел пачаў дасьледчую працу з спрабаваньня падвояў, вывучэньня і ўстанаўленьня сартымэнтаў пладовых дрэў, мэтодаў закладкі дрэвастанаў, а галоўнае — з разьвязваньня пытаньня рэгулярнага пладанашэньня пладовага дрэва.

Аддзелам садоўніцтва, шляхам абсьледваньня ўстаноўлены наступны асартымэнт пладовых дрэвастанаў для паўночна-ўсходняй часткі Беларусі: антонаўка (большасьць), штрэйфлінг, бабушкіна, рудое пярэстае, пуцімка, кальвіль пахучы, ружовае, дзелявара вінтэр і інш.

Досьледамі па апылкаваньні выяўлена, што чыстыя дрэвастаны аднэй антонаўкі, альбо бабушкіна, ці рудога пярэстага, амаль што не пладаносяць, дзякуючы ў значнай частцы бясплоднасьці пры самаапылкаваньні і каб сад пладаносіў, патрэбна мець у ім асартымэнт дрэў, названы вышэй.

Нагляданьні за 25 сартамі буйнаплоднай садовай суніцы паказалі, што найлепшымі для ўмоў станцыі зьяўляюцца сарты: „Юкунда“, „Пабедзіцель“, „Дырэктар Юльке“, „Рошчынская“, „Альфонс“, „Абрыкос“ і „Рэйнскае золата“.

Досьлед 1926 г. з спрабаваньнем усходжасьці насеньня яблыкаў паказаў, што высушваньне насеньня надта зьніжае ўсходжасьць і за гэтым сьвежа дабытае насеньне неабходна хутка страціфікаваць.

Адносна таго, што патрэбна ці не патрэбна абрэзка дзічак пры пасадцы ў гадавальнік, станцыя па досьледах Р. Гуржага вырашае, што „рэзка дзічак пры пасадцы ў гадавальнік пры нашых умовах бязумоўна неабходна, яна павінна быць значнай: зразаць трэба палову дзічка... Пакідаць дзічок абрэзаны ніжэй 5 вяршкоў ня трэба дзеля таго, што ўбочныя парасткі ў гэтым выпадку будуць замінаць акуліроўцы. Пры пасадцы дзічак у восень, рэзку трэба рабіць вясной“.

Досьледы Р. Гуржага з зімовым захоўваньнем яблык паказалі, што ў БССР амаль што няма сартоў яблык, прыгодных для доўгатэрміновай лёжкі ўзімку. Агульна распаўсюджаная ў нас „антонаўка“ найбольшы процант на капітал (20,5%) дала пры рэалізацыі яе (у ўмовах досьледу 1926 г.) у лютым месяцы. Найлепшым па лежкасьці і даходнасьці (154% на капітал), аказаўся сорт „бабушкіна“, але пакуль што спрэчным зьяўляецца пытаньне адносна яго ўраджайнасьці. Гэта пытаньне захоўваньня пладоў у зіму, пры пабудове пладаахавальнікаў, павінна сыграць паважную ролю ў разьвіцьці нашага садоўніцтва.

У Горках-жа таксама распачаты досьледы па перапробцы пладоў і ягад у віно.

**Гародніцтва.**

Па гародніцтву з 1923 г. вядзе працу Віцебская Станцыя. Галоўная яе ўвага была зьвернута на сартаспрабаваньне гародных расьлін і караньплодаў.

Па досьледах станцыі з капустай за 4 гады, на першым месцы стаіць па ўраджайнасьці капусты „Копенгагенская рыначная“, якая дае 50,96 тон качаноў на гэкт., але качаны яе рыхлыя, затым „Брауншвэйская“ (50,43 тон на гэкт.), „Слава“, 47,73 тон, і „Сабураўка“, 43,45 тон на гэкт. Вялікі ўраджай і добрай якасьці дае капуста „Беларуская“, але з ёй трэба весьці сэлекцыйную працу супроць капуснай кілы, якая часам яе псуе.

З розных сартоў кармовых буракоў найлепшы ўраджай даў бурак „Экендорфскі чырвоны“.

З сартоў бруквы найлепшым па ўраджайнасьці аказалася „Красносельская“, а з сартоў морквы—„Белая зялёнагаловая“.

Да размнажэньня насеньня гэтых сартоў Станцыя ўжо прыступіла.

З сартоў таматаў па досьледах Беларускага Аддзяленьня Ўсесаюзнага Інстытуту Прыкладной Батанікі і Новых Культур у Лошыцы найлепшым па скарасьпеласьці і якасьці аказаўся сорт „Арліана“.

**Лекавыя культуры.**

Работамі Магілеўскай Дасьледчай Станцыі лекавых расьлін, якая пачала працу з 1917 г. магчыма лічыць устаноўленым, што культура палярыяны, напярсьцянкі, белядоны, шалфея, аптэчнай рамашкі, дур-

ману, карыяндры і інш. зьяўляецца прыгоднай для ўмоў Беларусі, а папярэдні падлік выдаткаў і прыбыткаў па гэтых культурах паказвае іх значную даходнасьць і вялікую працаёмкасьць.

Так, сярэднія даныя ўраджайнасьці найбольш пашыраных культур па Станцыі даюць наступны малюнак:

Магілеўская Станцыя мае ўжо вялікую патрэбу ў прасоўваньні культуры лекавых траў у сялянскую гаспадарку і пакуль што толькі матар'яльныя магчымасьці не дазваляюць станцыі шырака разьвіць працу ў гэтым напрамку і гэтым самым зьменшыць нашу залежнасьць ад замежнага рынку.

| | Ураджай у пуд. з 1 дзес. | Цана 1 пуд. | Валавы прыбытак |
|---|---|---|---|
| Валярыяны . . | 30 пуд. сухога кораня | 16 руб. | 480 руб. |
| Чырвоная Напярсьцянка . . | 100 пуд. сухога лісту | 14 руб. | 1.400 руб. |

## Культура балот.

Досьледы па культуры балот вядзе Менская Балотная Дасьледчая Станцыя з 1912 г. і Забалацкая Балотная Дасьледчая Гаспадарка з 1923 г. За гэты час Менскай Балотнай Станцыяй здабыта шмат цікавага матар'ялу па культуры балот Беларусі. Значная частка гэтага матар'ялу ўжо надрукована ў выданьнях Станцыі.

Каб каротка ахарактарызаваць дасягненьні Менскай Балотнай Станцыі за гэты час, трэба прывесьці ўраджайныя даныя гэтай Станцыі па розных культурах, сярэднія за 11 год, з падлікам таго агульнага даходу, які можа мець ад гэтых культур сялянская гаспадарка (без найму рабочых рук [1]).

| №№ чаргі | НАЗВА КУЛЬТУР | Ураджай з 1 дзес. ў пудох: Зярна ці карань-клубень пладоў | Ураджай з 1 дзес. ў пудох: Сена ці саломы | Кошт пуда [2]) р. | Кошт пуда [2]) к. | На суму р. | На суму к. | Матар'яльныя затраты за год на культур. [3]) р. | Матар'яльныя затраты за год на культур. [3]) к. | Агульны даход за вылічэньнем матар'яльных затрат р. | Агульны даход за вылічэньнем матар'яльных затрат к. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Бульба . . . | 1.123 | — | — | 23 | 370 | 59 | 76 | 14 | 294 | 45 |
| 2 | Капуста . . . | 1.830 | — | — | 21 | 384 | 30 | 100 | 18 | 284 | 12 |
| 3 | Бручка стал. . . | 2.000 | — | — | 17 | 340 | — | 77 | 74 | 262 | 26 |
| 4 | Кармавая рэпа . | 3.000 | — | — | 10 | 300 | — | 64 | 74 | 235 | 26 |
| 5 | Кармавая морква . | 1.800 | — | — | 13 | 234 | — | 63 | 74 | 170 | 26 |
| 6 | Авёс: 1) Зярна . | 116 | — | 1 | 16 | 185 | 86 | 57 | 86 | 127 | — |
| | 2) Саломы . | — | 270 | — | 19 | | | | | | |
| 7 | Ячмень: 1) Зярна . | 116 | — | 1 | 18 | 164 | 81 | 60 | 36 | 104 | 45 |
| | 2) Саломы. | — | 147 | — | 19 | | | | | | |
| 8 | Канюшына, цімаф. (3-х гадов. луг) . | — | 334 | — | 48 | 160 | 32 | 56 | 24 | 104 | 08 |
| 9 | Жыта азімае: | | | | | | | | | | |
| | 1) Зярна . | 110 | — | — | 18 | 162 | 10 | 60 | 36 | 101 | 74 |
| | 2) Саломы . | — | 190 | — | 17 | | | | | | |
| 10 | Віка-авёс на сена . | — | 332 | — | 40 | 132 | 80 | 66 | 24 | 66 | 56 |
| 11 | Жыта яравое: | | | | | | | | | | |
| | 1) Зярна . | 70 | — | 1 | 18 | 103 | 68 | 61 | 54 | 42 | 14 |
| | 2) Саломы . | — | 124 | — | 17 | | | | | | |

[1]) Бюлетэнь № I Менскай Балотнай Дасьледчай Станцыі за 1926 г.

[2]) Сярэднія цэны па ўсёй БССР за 1924-25 г.

[3]) У графу матар'яльных выдаткаў увашлі выдаткі на штучнае ўгнаеньне, гадавая каштоўнасьць карыстаньня інвэнтаром і каштоўнасьць пасеўнага матар'ялу.

На фоне нашых 40-50 пудовых ураджаяў на мінэральных глебах, гэты ўраджай робіць надзвычайнае ўражаньне.

Па іншых галінах таксама ёсьць дасягненьні, але яны патрабуюць яшчэ часу для праверкі.

Наогул-жа дасьледчымі станцыямі з году ў год сумуецца навуковы матар'ял па досьледах у сельскай гаспадарцы, які дазволіць нам у бліжэйшыя гады будаваць нашу гаспадарку на навуковых падставах.

---

М. Макарэўскі.

# Мэтэоролёгічная сетка БССР к дзесяцігодзьдзю Кастрычніка.

Першай і асноўнай умовай правільнага разьвіцьця і нормальнае пастаноўкі народнай гаспадаркі ва ўсіх яе галінах зьяўляецца веданьне, якое грунтуецца на навуковых досьледах прыродна-гістарычных і фізычна-географічных асаблівасьцяй краіны. Мы ўсе ведаем, колькі гора, расчараваньняў і матар'яльных страт робяць чалавеку такія зьявы, як засушша, дажджы, навальніцы, градабіцьці, завеі, паводкі і г. д. Але мы разам з тым упэўнены, што дасканалае вывучэньне гэтых грозных зьяў, іх прыроды, сіл, якія іх выклікаюць—бязумоўна дапаможа нам знайсьці ня толькі пэўныя сродкі барацьбы з імі, але і правільныя шляхі да іх эксплёатацыі. У найхутчэйшым зьдзяйсьненьні гэтых магчымасьцяй—парука далейшага экономічнага разьвіцьця чалавецтва. Гэта першы, але правільны шлях і да комунізму. Глыбака справядліва сказаў У. І. Ленін: „Комунізм--гэта савецкая ўлада плюс электрыфікацыя". Савецкая ўлада і максымальныя дасягненьні ў рацыянальным скарыстаньні сіл прыроды—вось той шлях і програма, якія нам паказаў правадыр пролетарыяту.

Сьвяткуючы дзесяцігодзьдзе існаваньня Савецкай улады, зусім своечасна падлічыць усё тое, што мы ўжо маем у БССР у галіне вывучэньня сіл прыроды і параўнаць нашую працу і дасягненьні ў гэтым кірунку з тым, што было зроблена да замацаваньня ў нас улады саветаў.

Калі абмежавацца толькі тымі зьявамі прыроды, якія абумоўлены чыннасьцю атмосфэры, дык прыходзіцца сказаць, што дасягненьні ў гэтай галіне ёсьць, але ня зусім здавальняючыя. Мы яшчэ і сягоньня ня можам сказаць, што вывучылі і ведаем кліматычныя ўмовы сваёй краіны.

Прычынай гэтага ёсьць выключна тое, што мы атрымалі ад дарэволюцыйнага пэрыоду вельмі небагатую спадчыну. А для таго, каб вывучыць клімат краіны: вылічыць нормальныя вялічыні мэтэоролёгічных элемэнтаў (ціск і тэмпэратура паветра, колькасьць ападкаў, сілу і кірунак ветру, колькасьць цяплыні, якую бярэ зямля ад сонца і г. д.), паказаць паўторнасьць гэтых элемэнтаў і магчымыя адхіленьні ў той ці іншы бок ад нормы, а таксама і шэраг іншых законамернасьцяй у іх руху і разьвіцьці—неабходна для ўсяго гэтага мець пад рукамі нагляданьні выстарчаючай колькасьці мэтэоролёгічных станцый, якія працавалі без перабою на працягу досыць доўгага (30—35 г.) пэрыоду часу. А якраз такога матар'ялу ў нас па адных пытаньнях—мала, а па другіх і зусім няма: яго не пакінула нам дарэволюцыйная эпоха. Царскі ўрад мала цікавіўся пытаньнямі вывучэньня клімату краіны, а таму і не вызначаў неабходных на гэта сродкаў і не пад-

трымоўваў ініцыятыву тых асоб, якія за свой кошт адчынялі мэтстанцыі. А такія ўмовы, натуральна, зусім ня спрыялі ні колькаснаму росту сеткі мэтстанцый, ні забясьпечаньню станцый прыладамі, а галоўнае—не гарантавалі супакойную і працяжную працу кожнай станцыі.

Вывучаючы гэтае пытаньне па архіўных і іншых матар'ялах, прыходзіцца толькі дзівіцца, наколькі ў старыя гады нясприяючыя і ненормальныя былі ўмовы для правільнай пастаноўкі і рэгулярнага вядзеньня мэтэаролёгічных нагляданьняў. Амаль штогодна наглядаўся адзін і той самы малюнак: у адных мясцох зачыняліся мэтстанцыі, пражыўшы ўсяго 3—5 гадоў, а ў другіх, наадварот, адчыняліся, але хутка і іх засьцігаў той-жа ганебны лёс. Наколькі мала была раней сэтка мэтстанцый, якія нормальна працавалі, можна бачыць з таго, што сучасны дасьледчык клімату БССР можа карыстыцца нагляданьнямі толькі 5 станцый II разраду з пэрыодам існаваньня больш 20 гадоў і 30—35 станцый III разраду з пэрыодам існаваньня ад 10 гадоў і вышэй.

Не багата была наша краіна ў дарэволюцыйны час лікам мэтстанцый, ня можам мы пахваліцца і тым, каб апошнія былі абсталяваны належным чынам. Толькі на аднэй з іх (Новае Каралёва) быў поўны комплект самапісных прылад (барограф, тэрмограф, гігрограф і омброграф), мала было на сетцы гэліографаў, глебавых тэрмомэтраў і зусім адсутнічалі акціномэтры.

Цяпер-жа з моманту замацаваньня ўлады пролетарыяту шпаркім тэмпам пачала разьвівацца і мацнець народная гаспадарка, а ў сувязі з гэтым пачала хутка расьці і сетка мэтэаролёгічных станцый.

Сродкі на гэтую справу пачалі даваць: галоўная геофізычная обсэрваторыя РСФСР, Наркамшляхоў СССР і, галоўным чынам, Наркамзем БССР, які ў мэтах належнай пастаноўкі справы геофізычнага вывучэньня краіны ў канцы 1924 году заснаваў пры Дасьледчым аддзеле „Мэтэаролёгічнае бюро“.

Організоўваючы свой рэспублікансі мэтэаролёгічны цэнтр, Наркамзем зрабіў зусім правільна, прыняўшы пад увагу момант і насьпелую неабходнасьць гэтага. Мэтбюро неабходна было для таго, каб унесьці дакладнасьць, яснасьць і плянавасьць як у працу мэтстанцый, так і ў справу разьвіцьця сэткі гэткіх.

Сваю працу мэтбюро пачало з таго, што спачатку зрабіла поўны і ўсебаковы падлік усяго таго, што ўжо было зроблена да гэтага часу ў мэтах вывучэньня геофізычных асаблівасьцяй краіны, а менавіта:

1. Мэтбюро выявіла лік і месцазнаходжаньне ўсіх існаваўшых тады ў рэспубліцы мэтстанцый, падлічыла іх абсталяваньне, высьветліла, куды станцыі адсылаюць орыгіналы сваіх нагляданьняў і кім апошнія апрацоўваюцца і захоўваюцца.

2. Высьветліла, дзе і ў якім выглядзе знаходзяцца нагляданьні тых станцый, якія калі-небудзь раней існавалі на тэрыторыі, якая ўвашла ў склад БССР.

3. Выкрыла і, па магчымасьці, сабрала тыя навуковыя працы і досьледы, з якіх можна атрымаць весткі аб клімаце краіны.

Калі была праведзена гэтая падрыхтоўчая праца, мэтбюро магло пачаць організацыйную дзейнасьць. У гэтых мэтах яно:

1. Склала пэрспэктыўны плян паступовага пашырэньня сеткі мэтстанцый з такім разьлікам, каб яна, задавальняючы патрабаваньні кліматолёга, магла таксама задавальняць патрэбы наркаматаў і дзяржаўных устаноў рэспублікі.

2. Дагаварылася з галоўнай геофізычнай обсэрваторыяй і Наркаматам Шляхоў зносін адносна атрыманьня орыгіналаў нагляданьняў тых мэтстанцый, якія знаходзяцца на ўтрыманьні гэтых устаноў, а таксама адносна адчыненьня імі новых станцый на тэрыторыі БССР. Па гэтым пункту дагаварыліся, што геофізычная обсэрваторыя і Наркамшлях будуць наперад узгадняць пытаньне аб адчыненьні новых станцый з нашым мэтбюро, каб, такім чынам, ня ставіць станцый там, дзе яны ёсьць.

3. Пашырыла і паступова пашырае за свой кошт сетку станцый III разр. (дажджамерна-сьнегамерных), якія вядуць падлік асадкаў— элемэнту вельмі зьменнага ў часе і прасторы, а таму патрабуючага для свайго падліку і вывучэньня магчыма большай колькасьці станцый.

4. З сваіх-жа сродкаў папоўніла абсталяваньне станцый II разр., забясьпечыўшы іх тымі прыладамі, якіх яны да таго часу ня мелі ці якія па пэўных прычынах вышлі з ужытку. Дзякуючы гэтаму цяпер амаль на ўсіх станцыях II разр., якія ўтрымоўвае НКЗ БССР і галоўная геофізычная обсэрваторыя, ёсьць геолігарфы, на шмат якіх—глебавыя тэрмомэтры, нэфоскопы, барографы і тэрмографы, ёсьць на сетцы 4 омбрографы, некалькі акціноскопаў Араго-Дэві, і нядаўна атрыманы першы ў БССР акціномэтр Міхельсона.

5. Наладзіла і вядзе сваечасовую праверку і апрацоўку матар'ялаў нагляданьняў, якія паступаюць са станцый, складае на падставе гэтага месячныя агляды надвор'я па БССР, інструктуе і інспэктуе наглядальнікаў мэтстанцый.

Зацікаўленасьць Савецкай улады ў вывучэньні прыродна-вытворчых сіл краіны для правільнай пастаноўкі і разьвіцьця народнай гаспадаркі выклікала хуткае пашырэньне сеткі мэтэоролёгічных станцый. Аб гэтым гаворыць добра той факт, што на 1 лістапада 1927 г. на БССР лічыцца:

| | |
|---|---|
| Станцый II разр. | 22 |
| „ III „ | 48 |
| вадамерна-дажджамерных пастоў | 39 |
| вадамерных „ | 7 |

Другімі славамі за час існаваньня Савецкай улады лік мэтстанцый у БССР узрос:

| | |
|---|---|
| II разр. на | 440% |
| III „ „ | 800% |

а паказаная сетка вадамерна-дажаджмерных пастоў ёсьць выключна дасягненьне Кастрычніка, бо яна зьявілася ў апошнія пяць год.

Адначасна з лічбовым ростам сеткі мэтстанцый, павялічэньнем і паляпшэньнем абсталяваньня іх, пачала паступова пашырацца і програма іх працы. Гэта зьявілася непасрэдным вынікам новых запатрабаваньняў гаспадарчага жыцьця краіны. Цяпер ужо амаль усе мэтстанцыі II і III разр. апрача агульнамэтэоролёгічных нагляданьняў вядуць у той ці іншай меры і спэцыяльныя сельска-гаспадарча-мэтэоролёгічныя нагляданьні. І трэба прызнаць, што гэтая праца мэтстанцый, ня гледзячы на тое, што яна вядзецца ў нас першы раз, пасьпела ўжо даць зусім пэўныя і дадатныя вынікі.

Кажучы аб працы мэтбюро і мэтсеткі, неабходна асабліва падкрэсьліць працу настаўнікаў-краязнаўцаў. Калі ў нас у БССР цяпер існуе значная сетка дажджамерна-сьнегамерных станцый, дык гэтым мы ў значнай меры абавязаны энэргіі, адданасьці і замілаваньню да гэтай справы паказаных працаўнікоў. Атрымаўшы ад мэтбюро пры-

лады і інструкцыі, яны ўвесь час вядуць назіраньні бясплатна і ў той-жа час вельмі акуратна і добрасумленна.

Гэтая праца настаўнікаў-краязнаўцаў набывае асабліваe значэньне ў сувязі з тым, што яны адначасна зьбіраюць і пасылаюць багаты матар‘ял для меркаваньня аб ходзе надвор‘я і ўплыве апошняга на сельскую гаспадарку, чым вельмі дапамагаюць цэнтральным установам рэспублікі пры орыентоўцы і складаньні апошнімі кон‘юнктурных плянаў.

Вядуць нашы краязнаўцы-настаўнікі і фітофэнолёгічныя назіраньні. Лік пунктаў па вядзеньні такіх назіраньняў пачаў прыметна расьці з канца мінулага лета, калі пры ЦБК Інбелкульту было організавана фэнолёгічнае бюро, якое пачало ўжо выконваць думку аб заснаваньні сталай, увесь час працуючай сеткі фэнолёгічных станцый.

Такім чынам, ёсьць у нас у БССР досыць шырокая сетка мэтстанцый, наладжваецца сетка станцый па вядзеньні фітофэнолёгічных назіраньняў, трэба яшчэ закончыць організацыйную працу па вывучэньні геофізычных асаблівасьцяй краіны шляхам стварэньня свайго вышэйшага навуковага геофізычнага цэнтру—галоўнай геофізычнай обсэрваторыі БССР, у якім кірунку прыняты неабходныя меры.

Падрахоўваючы ўсё сказанае, прыходзіцца толькі парадавацца тым магчымасьцям і дасягненьням, якія прынёс нам Кастрычнік. А цяпер у нас досыць моцная сетка мэтстанцый і ствараецца вышэйшы для яе навуковы цэнтр—обсэрваторыя. Так, пролетарская ўлада зьдзяйсьняе хутка, сьмела і мэтазгодна ўсё тое, што неабходна для разьвіцьця і ўмацаваньня народнай гаспадаркі.

---

# МУЗЭЙНАЯ І АРХІЎНАЯ СПРАВА НА БЕЛАРУСІ.

В. Ластоўскі.

## Беларускі Дзяржаўны Музэй.

I.

Будова музэяў у Менску—справа зусім новая; пэрыод яе росквіту прыпадае на апошняе пяцілецьце—на час мірнага экономічна-культурнага будаўніцтва Савецкай Беларусі. Менск у гістарычнай мінуўшчыне ніколі ня быў паважным культурным цэнтрам. Спаміж гарадоў БССР далёка большай культурнай мінуўшчынай могуць пахваліцца,—акром Полацка і Турава,—Слуцак, Магілеў і Віцебск. Аб якіх-колечы зборах культурных і гістарычных каштоўнасьцяй у Менску ня чуваць ад апошняй чвэрці XIX ст. У 1870—1880 г. г. паяўляецца тут зьбірач-аматар старасьветчыны Татур, які злажыў даволі значныя музэйныя колекцыі, сабраныя ім па манастырох, кляштарах, цэрквах, касьцёлах і маёнтках. У яго зборах быў значны лік гістарычных портрэтаў, абразоў, зброі, тканін, нумізматыкі і сфрагістыкі, а таксама рукапісных і старадрукаваных кніг. Татур сабранымі рэчамі гандляваў. Збываў ён краёвую старасьветчыну ў Петраградзе, Маскве, Кіеве і Варшаве. Пасьля яго сьмерці (у пачатку—XX ст.) колекцыі разьвеяліся бясьследна, калі ня лічыць нязначных астаткаў, якія былі выратаваны Іванам Луцкевічам і вывезены ў Вільню.

Гэтакім чынам, значныя Татурскія колекцыі нельга лічыць Менскім музэем, хутчэй гэта было свайго роду гандлёвае прадпрыемства краёвай старасьветчынай.

Першым у Менску быў „Царкоўна-Археолёгічны Музэй“, які заснаваўся ў 1907 годзе. Назоў гэтага музэю і часы яго існаваньня гавораць аб заданьнях, якія ён меў на мэце, а ласьне:—пропаганду праваславія і самадзяржавія на Беларусі. За 7 гад існаваньня, гэты музэй сабраў 1.363 экспонаты краёвай царкоўнай старасьветчыны і каля 1.900 томаў усякіх кніг. Лепшыя колекцыі Царкоўна-Археолёгічнага Музэю былі ў пачатку імпэрыялістычнай вайны вывезены ў горад Разань, адкуль пасьля доўгіх клопатаў вярнуліся ў цэласьці,—акром прапаўшых рэчаў у часе перавозак, у Менск у траўні 1922 году.

Другім быў „Музэй Менскага Таварыства Аматараў Прыродазнаўства, Этнографіі і Археолёгіі“, які хутка пасьля свайго заснаваньня (1912 год) лёг у аснову Менскага „Гарадзкога Музэю“. Гарадзкі Музэй утрымліваўся на кошт гораду,—закончыў сваё існаваньне таксама ў пачатку вайны, праіснаваўшы два гады.

Прыродазнаўчыя колекцыі гэтага Музэю і значная частка ацалеўшай бібліотэкі цяпер знаходзяцца ў Менскім Пэдтэхнікуме.

Урэшце, 20-га студзеня 1919 году, быў адчынены ў Менску трэці Музэй: „Беларускі Абласны Музэй“.

Лепшыя экспонаты гэтага Музэю, сабраныя ў пачатку яго заснаваньня, былі ў 1920 годзе вывезены адступаўшымі з Менску палякамі.

У верасьні 1921 году Абласны Музэй зачыніўся.

31 жніўня 1922 году была прынята пастанова аб адкрыцьці Беларускага Дзяржаўнага Музэю. У аснову яго паложаны былі рэшткі колекцый раней існаваўшых у Менску музэяў. Музэй зьбіраўся ў маленькім памяшканьні на Савецкай вуліцы, д. № 46. Там ішла падрыхтоўка да ўрачыстага адчыненьня Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

У выніку падрыхтоўчых работ, 19 лістапада 1922 году, быў адчынены Беларускі Дзяржаўны Музэй (Чырвонаармейская в., д. № 3).

II.

Сьпершапачатку БД Музэй зьмяшчаўся ў двох пакоях з выставачнай плошчай у 26 кв. сажняў. Складалі Музэй некалькі дзесяткаў абразоў і портрэтаў, крыху зброі, няшмат парцэляны і старасьвецкіх мэбляў.

Дапоўніліся гэтыя скромныя колекцыі найперш рэшткамі экспонатаў вернутага з Разані Царкоўна-Археолёгічнага Музэю. Пасьля колекцыямі этнографічнага характару, сабранымі экспэдыцыяй Наркамасьветы, організаванай у 1921 годзе для вывучэньня старасьветчыны і быту Случчыны.

Менскае Таварыства Гісторыі і Старасьветчыны передала рэчы, здабытыя ў 1921 годзе з раскопак каля Заслаўля.

З быўшага Менскага Гарадзкога Музэю перасланы былі ацалеўшыя рэшткі рэчаў гістарычнага і этнографічнага характару, а таксама крыху бібліотэчнай старасьветчыны.

Замгандаль перадаў Музэю колекцыю монэт (75 экз.).

Наркамзем—ацалеўшыя ў савецкіх гаспадарках абразы, портрэты, зброю і інш.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларусі перадаў каштоўны альбом, у склад якога ўваходзіць невялікая колекцыя залатых, сярэбраных і мядзяных монэт і некалькі сот усялякіх папяровых грашовых знакаў.

Саўнарком ахвяраваў БД Музэю цэнную колекцыю мастацкіх акварэляй, краёвых і замежных майстроў 1840—1860-х гадоў.

З Менскага жаночага манастыра ўзята ў БД Музэй рэштка рэчаў ад быўшай у Менску ў 1917 годзе „Выстаўкі Краёвай Старасьветчыны і Мастацтва“.

Чынную сталую дапамогу ў складаньні БД Музэю робяць Інбелкульт і краязнаўчыя організацыі, накіроўваючы ў Музэй усякія археолёгічныя выкапкі, знаходкі грашовых скарбаў, этнографічныя і мастацкія рэчы і інш.

Яшчэ было шмат дробных паступленьняў як ад дзяржаўных і грамадзкіх установаў, так і ад прыватных асоб.

Апрача таго ўвесь час Музэй папаўняецца праз закупкі і раскопкі, якія робяцца на кошт Музэю і экспонатамі, якія дасылаюцца Цэнтральнымі музэйнымі ўстановамі СССР.

Гэтак, дзякуючы энэргічнай дапамозе Ураду БССР, урадавых і грамадзкіх установаў, а таксама разбуджаных да новага жыцьця працоўных мас, на працягу пяці год утварыўся Бел. Дзярж. Музэй, які к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавай рэволюцыі налічвае звыш 30.00 экспонатаў.

Плошча БД Музэю з 26-ці кв. сажняў у пачатку організацыі павялічылася—лічачы з выкарыстанай пад экспозытыву плошчай сьцен—да 400 кв. мэтраў. Цяперашнія паўгадовыя паступлевьні ў БД Музэй перавышаюць аснаўны фонд, які меўся пры яго адкрыцьці. Прыкладам, за летні час,—ад 1-га траўня да 15-га верасьня 1927 г.,—паступіла ў БД Музэй 2.899 экспонатаў. На жаль, вёска пакуль што абмяжоўваецца толькі дасылкай скарбаў, якія выкапваюцца з зямлі. Каштоўныя-ж для Музэю рэчы народнага мастацтва, у паняцьці нашага сялянства, яшчэ ня лічацца падыходзячымі экспонатамі для Музэю, чым тлумачыцца слабы доплыў іх у Музэй.

III.

У бягучы момант БД Музэй распарадкаваны на аддзелы.

*Аддзел Архэолёгічны.* Асноўным і надзвычайна каштоўным у гэтым аддзеле зьяўляюцца першыя ў гісторыі архэолёгіі конкрэтныя знаходкі на Беларусі палеоліту (старакаменнага веку), адкрытыя архэолёгам Палікарповічам, у парэччы Сожу, каля в. Бярдыж. Знаходкі складаюцца з касьцей маманта, груба аббіваных крэмневых прылад і вугалькоў—рэштак вогнішча. Гэта паказвае на яўныя сьляды чалавека, які жыў на нашай зямлі адначасна з мамантам дзесяткі тысяч гадоў таму назад.

Архэолёгічны аддзел БД Музэю мае таксама даволі значныя колекцыі каменных прылад нова-каменнага веку (нэоліту). Тут бачым каменныя сякеркі, малаткі, клінцы, нажы, скрабкі, наканечнікі да стрэл, шылы і іншыя каменныя вырабы. У процiўвагу вырабам стара-каменнага веку, прылады новакаменнага веку добра апрацаваны, гладкія, шліфаваныя, а некаторыя маюць мастацка выробленыя формы.

Раскопкі курганоў-валатовак і гарадзішчаў даюць чысленныя знаходкі грывень, бранзалетаў, завушніц, пацерак і інш. Некаторыя з курганных і гарадзішных знаходак сьведчаць аб культуры жыхароў нашага краю за тысячу і болей гадоў таму назад. У гэтыя далёкія часы людзі нашага краю ўмелі і любілі хараша аздабляць дробныя рэчы з бронзы і серабра. Усе гэтыя рэчы сабраны выключна на абшарах Беларусі.

*Аддзел Нумізматычны і сфрагістычны*—(грошы, мэдалі і пячаткі) налічае звыш 10.000 экспонатаў. Сабраны гэты аддзел выключна са скарбаў знойдзеных на Беларусі. Колекцыя Нумізматычнага аддзелу налічвае 3.000 экзэмпляраў, рэшта—дублікаты, прызначаныя на абмен з іншымі музэямі, у першую чаргу з нашымі краязнаўчымі музэямі.

Монэты паказваюць, скуль і якія чужаземныя таргоўцы і як даўно прыяжджалі на Беларусь. Мы тут бачым монэты старой Грэцыі, Рыму, Сярэдняй Азыі. Грэцкія, рымскія і Сярэдня-Азыяцкія монэты адносяцца да вельмі даўніх часоў: да II стагодзьдзя перад нашай эрай і да XI стагодзьдзя нашай эры. Далей ідуць ужо монэты з захаду—нямецкія, чэскія, голяндэрскія, гішпанскія, польскія, і з усходу—маскоўскія. Даволі багатая і цікавая колекцыя монэт кн. Літоўска-Беларускага. Таксама сабраны монэты б. Расійскай імпэрыі і папяровыя грошы, якія выходзілі ў часе імпэрыялістычнай вайны.

*Мастацкі аддзел*—вельмі абшырны; ён складаецца з малюнкаў алейнымі фарбамі на палатне і дрэве, з акварэляй маляваных на паперы і пэргаміне, гравюр, скульптуры выкананай у мармуры, бронзе, дрэве і гліне. Аддзел займае некалькі пакояў. Найбольшы пакой заняты новачасным мастацтвам Беларусі. Тут бачым орыгінальныя творы

мастакоў ураджэнцаў Беларусі: Сьлендзінскага, Рустэма, Арлоўскага, Гарэцкага, Рублеўскага, Ясінскага, Катарбінскага, Рушчыца, Багданава-Бельскага, Богуш-Састрэнцэвіча, Полазава, Вэйсэнгофа, Філіповіча, Станюты і інш.

Старое мастацтва Беларусі пакуль што прадстаўлена выключна гістарычнымі портрэтамі. Ёсьць тут портрэты князёў—Слуцкіх і Радзівілаў, ваяводаў віленскіх і менскіх, гэтманаў, маршалкаў кн. Літоўска-Беларускага, а таксама цікавыя старасьвецкія дамскія портрэты.

Два пакоі запоўнены орыгіналамі расійскай мастацкай школы; тут ёсьць работы расійскіх мастакоў з вялікімі імёнамі; Тропініна, Брюлова, Рэпіна, Серова, Макоўскіх, Айвазоўскага, Шышкіна, Левітана, Ярошэнкі, Семірадзскага, Машкова, Каровіна, Саврасова, Якобі, Лагоріо і інш.

Саля старога заходня-эўропейскага мастацтва мае цікавыя орыгіналы голяндзкіх, нямецкіх, ангельскіх, італьянскіх, і францускіх мастакоў.

*Царкоўна-Археолёгічны аддзел* складаецца выключна з ікон пісаных на Беларусі і па сваёй стылёвай цэльнасьці прадстаўляе вельмі цікавы збор. Ц. аддзел выяўляе скрысталізаваную школу беларускай іконапісі. Асаблівай рысай беларускага старасьвецкага іконапісаньня зьяўляецца раньняе яго набліжэньне да захаду. Найстарэйшы абраз (ікона пр. Ільлі) у гэтым аддзеле адносіцца да 1447 году. Далей ідуць іконы канца XVI, XVII і XVIII ст. Да цікавых належыць ікона з надпісам: „Гэты образ Пакрава малявалі мужыкі вёскі Шалаеўкі: Якуб Кот з сынам Варфаламеем, году 1750“, абраз выкананы ня горш тагочасных заходня-эўропейскіх гэтага роду работ.

*Аддзел Этнографічны* займае найбольшую салю ў Музэі. Тут сабраны мастацкія тканіны-дываны, капы, посьцілкі, набожнікі і інш., а каля іх унізе стаяць кросны, калаўрот, прасьніца, сукала, бёрды і ўсякі іншы рыштунак, які служыць да прадзіва і ткацтва. З другога боку салі, у вітрынах, прыгожыя жаночыя вопраткі—андаракі, гарсэцікі, сарочкі, шнуры караляў. Далей верхняя мужчынская і жаночая вопратка—чорныя і белыя сьвіткі, паясы і паяскі, дзягі з калітамі і шабэтамі. Ганчарны куток мае ганчарскае кружала, а каля яго фотографіі, з якіх відаць увесь процэс вырабу палівы. Тут-жа разьмешчана і сама паліва нашых барысаўскіх, аршанскіх, віцебскіх і слуцкіх ганчароў. Асобны куток займаюць сьціпныя вырабы нашых вясковых бандароў. Куток бытавых рэчаў уключае ў сябе ад калёс і саней увесь гаспадарскі рыштунак—мяліцы, бодні, кублы, корабы, кошыкі, рэшаты і г. п. Са зьнікшага быту маецца ў Музэі драўляная саха, лучнік, сьветач, батрацкія жорны і шмат іншага.

Сярэднюю нішу салі займае сялянская хата з усімі яе прыналежнасьцямі і з адзетымі манэкенамі гаспадара і гаспадыні і дзіцем на ложку.

Насупроць вялікай салі з сялянскім бытам, для параўнаньня ўладжаны аддзел гарадзкога і памешчыцкага быту. Тут сабраны вельмі цікавыя вырабы старасьвецкіх цэхавых майстроў, — шафы, ложка 1679 г., цыновыя начыньні—талеркі, міскі, вазы, кубкі XVII ст.; на сьценах вісяць гобэлены і кілімы работы XVIII ст.

І, урэшце, у абсыдзе, зьмяшчаецца аддзел „Стары Менск“. Тут знойдзем харунгі цэхаў: кравецкага, ткацкага, шапавальнага, шклярскага, маслабойнага, кушнерскага. На сьцяне, у раме, вісяць граматы ў беларускай мове, пісаныя на пэргаміне ў канцы XVI ст. і ў пачатку

XVII ст. На 5-ці табліцах разьмешчаны выкапкі з ракі Нямігі, між якімі маюцца нажы, відэльцы, ці як даўней у нас звалі іх—грабцы, падковы, замкі і інш. Далей ідуць рысаваныя і маляваныя відокі старога Менску.

*Аддзел Старабеларускай Вайсковасьці*—нядаўна пачаў будавацца. У ім знаходзяцца шчыты, каваныя са сталі, зброі, бярдышы, галябарды, гэлмы і місюркі, кальчугі, самапалы, пісталеты і інш.

*Яўрэйскі Аддзел* апошнімі часамі пераорганізаваны і займае 2 пакоі, у якіх прадстаўлены яўрэйскі быт і мастацтва. Тут маецца вельмі цікавае сабраньне стылёвых яўрэйскіх ханэкаў, блях, портрэтаў; яўрэйскія рукапісныя кнігі на пэргаміне, старадрукі, пінкосы (летапісы) усякіх асоцыяцый, амулеты, вышыўкі, торы, таласы, ярмолкі і інш. У аддзеле мастацтва сабраны яўрэйскія тыпы, портрэты, малюнкі, зарысоўкі, скульптура.

*Архіў БД Музэю* мае рукапісныя кнігі, старадрукі, докумэнты, фотографіі, зарысоўкі, плякаты і інш. Да цікавейшых належаць—Тураўская Мінэя 1523 г., Слуцкае Эвангельле пісанае рукой слуцкага князя Юрага Алелькавіча, друк Швайпольта Фіоля 1491 г., Беларускі слоўнік Памвы Бэрынды, друкаваны ў Кутэйне ў 1653 годзе.

*Бібліотэка БД Музэю* мае звыш 2.200 томаў прац аб мастацтве, архэолёгіі, гісторыі, нумізматыцы, этнографіі, іконаграфіі, каталёгаў усякіх музэяў і выставак і пэрыодычных навуковых выданьняў.

Дзякуючы значнай мастацкай і гістарычнай цэннасьці БД Музэй наведвае значны лік працоўных. У сярэднім у месяц праходзіць праз Музэй ад 1.000 да 1.200 чалавек.

IV.

У 1926 годзе БД Музэй пастановай Саўнаркому залічан у склад Цэнтральных Рэспубліканскіх установаў, а раней існаваўшыя музэі ў Віцебску, Магілеве і Гомелі падпарадкаваны, на правох філій (аддзяленьняў), Цэнтральнаму БД Музэю.

Гэткім чынам, апроч цэнтру ў Менску, БД Музэй мае яшчэ 3 аддзяленьні. Пакуль што падпарадкаваньне Цэнтральнаму Музэю яго аддзяленьняў чыста тэорэтычнае, але ў найбліжэйшы час будзе апрацавана асобная інструкцыя, якая цясьней зьвяжа аддзелы БД Музэю з яго цэнтрам. У бягучы момант кожнае з аддзяленьняў уяўляе сабой самастойную ўстанову.

Па цэннасьці сабраных колекцый аддзяленьні ідуць у гэткім парадку:

*Гомельскае аддзяленьне*—гэта Музэй—Палац. Колекцыі яго зложыліся са скарбаў мастацтва, сабраных у палацы б. князёў Паскевічаў. Маюцца там высокай мастацкай вартасьці мармуровыя статуі, гобэлены, абразы (пераважна портрэты), міньятуры, парцэляна, мэблі, бронза і, урэшце, вялікае сабраньне касьцей маманта. Пры Музэі — бібліотэка, якая налічае да 20.000 томаў кніг, пераважна ў чужаземных мовах.

*Віцебскае аддзяленьне* мае багаты нумізматычны габінэт, сабраньне гем, пячатак, пярсьцёнкаў, зброі, ікон; зачаткі галярэі абразоў, этнографічны аддзел, архэолёгічны, колекцыю масонскіх знакаў. Пры Музэі ёсьць бібліотэка, якая налічае да 15.000 кніг.

*Магілеўскае аддзяленьне* мае вялікае сабраньне царкоўнай старасьветчыны, этнографічны аддзел, аддзел фізычны, значную бібліотэку.

---

Бязумоўна Беларускі Дзяржаўны Музэй мае шмат недахопаў: у ім яшчэ няма поўнага адбітку нашага мінулага і бадай зусім адсутнічае аддзел сучаснай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. Задачай Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў бліжэйшай будучыне зьяўляецца зьнішчэньне паказаных недахопаў. Дзеля далейшага разьвіцьця Музэю ёсьць вялікія пэрспэктывы: шпаркі ўзрост прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, культурнага будаўніцтва і разьвіцьцё шырокай грамадзкасьці працоўных—усё гэта пад ідэёвым кіраўніцтвам Компартыі павінна дапамагчы шырокаму разгортваньню музэйнай справы.

---

**Ю. Сацункевіч.**

# Музэй рэволюцыі к дзесяцігодзьдзю Кастрычніка.

Адчыненьне Музэю рэволюцыі БССР адбылося 2 траўня 1926 г. Ідэя організацыі музэю зарадзілася яшчэ ў пачатку 1925 г., калі ў сувязі з падрыхтоўкай да сьвяткаваньня 20 гадавіны 1905 году ўдалася сабраць шмат надзвычайна каштоўных гістарычных матар'ялаў і докумэнтаў, якія адбіваюць тую ці іншую эпоху ў рэволюцыйнай барацьбе, паасобныя моманты з жыцьця і гісторыі розных партый, якія працавалі як у Расіі, так у прыватнасьці і на Беларусі,—розных проклямацый, часопісаў, плякатаў, лістовак, фотографій і г. д.

Перад гістпартам ЦК КП(б)Б, які кіраваў гэтай працай, паўстала пытаньне аб неабходнасьці захаваць і распрацаваць увесь гэты багаты матар'ял, тым самым даючы магчымасьць шырокім працоўным масам азнаёміцца і вывучаць яго.

Такім чынам, падрыхтоўчая праца да адчыненьня музэю вялася ў двох напрамках:

Папершае, і надалей вялося зьбіраньне гістарычна-рэволюцыйных матар'ялаў і докумэнтаў, якія могуць характарызаваць гісторыю рэволюцыйнага руху і жыцьця партыі. Гэта праца надзвычайна ўскладнялася тым, што дзякуючы шматлічным эвакуацыям і окупацыям большасьць матар'ялаў была вывезена з Беларусі ў РСФСР і шмат з іх загінула. Для адшуканьня вывезеных з БССР матар'ялаў было наладжана некалькі камандыровак у гарады, галоўным чынам, у Маскву і Ленінград (гэтыя камандыроўкі мелі яшчэ той вынік, што практыка маскоўскага і ленінградзкага музэяў рэволюцыі ў значнай меры была прынята пад увагу і скарыстана).

Значныя цяжкасьці былі зьвязаны з процэсам зьбіраньня матар'ялаў, якія знаходзіліся ў паасобных таварышоў—удзельнікаў рэволюцыйных падзей; гэтыя матар'ялы спачатку паступалі вельмі слаба.

Падругое, падрыхтоўчая праца вялася па лініі падліку экспонатаў, якія ўжо былі, іх апрацоўкі і прывядзеньня ў належны парадак. Да дня адчыненьня музэю было апрацавана для выстаўкі звыш тысячы экзэмпляраў розных экспонатаў, што складала вельмі нязначную частку ўсяго сабранага матар'ялу. За год працы музэю колькасьць экспонатаў грандыёзна ўзрасла і ў сучасны момант дасягае да 10.000; праца па падліку матар'ялаў, якія набыты за апошні час, яшчэ ня скончана.

Матар'ялы музэю даволі поўна адбіваюць рэволюцыйны рух, пачынаючы з эпохі дэкабрыстых і канчаючы пасьлякастрычнікавым пэрыодам. Прадстаўлена таксама эпоха Пугачова і Сьцяпана Разіна.

Прыводзім сьціслую характарыстыку матар'ялаў, якія ёсьць у музэі.

Па гісторыі дэкабрыстых: портрэты ўдзельнікаў руху, літаратура,

якая зьмяшчае падрабязныя біографічныя весткі аб дэкабрыстых, аб іх програме, судзе над імі, аб іх жыцьці і ссылцы.

Портрэты і літаратура аб петрашэўцах; портрэты і літаратура аб народніках, у тым ліку і некаторыя друкаваныя проклямацыі.

Матар'ялы, якія высьвятляюць пачатак социял-дэмократычнага руху ў Расіі: фотографіі і портрэты правадыроў „Черного передела", „Южно-русского рабочего союза", „Северно-русского рабочего союза", групы „Освобождение труда", „Группы борьбы за освобождение рабочего класса", рабочыя камітэты ў Кіеве, Ленінградзе, Маскве і г. д. Ёсьць некаторыя проклямацыі і іншая падпольная літаратура, якая выдавалася гэтымі організацыямі.

Фотографіі і портрэты рэволюцыйных дзеячоў 1905 г. і падпольная літаратура гэтай эпохі.

Ёсьць шмат матар'ялаў аб жыцьці і дзейнасьці У. І. Леніна: фотографіі, портрэты, мастацкія малюнкі, творы Ільліча і аб Ільлічу; наогул, ленінскі аддзел параўнальна багата прадстаўлены ў музэі.

Сабрана шмат ілюстрацыйных і літаратурных матар'ялаў, якія характарызуюць эпоху лютаўскай і асабліва Кастрычнікавай рэволюцыі.

У Беларускім аддзеле музэю мы маем: фотографіі народнікаў, якія працавалі на Беларусі; фотографіі, проклямацыі і падпольныя выданьні, якія характарызуюць эпоху зараджэньня яўрэйскага рабочага руху ў Заходнім краі і працу „бунду"; фотографіі і портрэты найбольш выдатных рэволюцыйных дзеячоў Беларусі з моманту лютаўскай рэволюцыі да гэтага часу і іх біографіі, і цэлы шэраг архіўных матар'ялаў эпохі лютаўскай і Кастрычнікавай рэволюцый на Беларусі; далей музэй мае жандарскія справы па Віцебскай губ. з пачатку 900-х гадоў да 1917 г. і копіі жандарскіх зводак па Менскай, Магілеўскай, Горадзенскай, Віленскай губ. за 1905 г.; матар'ялы, якія характарызуюць працу бальшавікоў на Заходнім фронце ў пэрыод лютаўскай рэволюцыі; протоколы зьездаў і конфэрэнцый КПБ (на жаль, ня ўсё ўдалася сабраць); урэшце, комплекты газэт (таксама няпоўныя), якія выходзілі на Беларусі ў пэрыод 1917—21 г.г.

Ёсьць докумэнты і матар'ялы аб працы нацыянальных організацый: социял-рэволюцыянэраў, беларускай социялістычнай грамады, с.-д. польскай партыі, латыскай с.-д. партыі, ёсьць фотографіі і докумэнты, якія адбіваюць партызанскі рух на Беларусі; ёсьць матар'ялы, малюючыя „працу" белагвардзейцаў на Беларусі, адозвы, фотографіі зьверскай расправы белагвардзейцаў і г. д.

Урэшце ўдалася сабраць матар'ялы, якія ілюструюць савецкае будаўніцтва на Беларусі.

Мы маем у музэі 10 мастацкіх малюнкаў вялікага разьмеру і галярэю портрэтаў правадыроў рэволюцыі.

Нядаўна набыт малюнак „прарыў Будзённым польскага фронту". У бліжэйшы час, магчыма, будзе набыт твор мастака Кустодзіева „Праддзьвер'е Кастрычніка".

Наогул праца па папаўненьні музэю гістарычнымі докумэнтамі, матар'яламі і мастацкімі экспонатамі праводзіцца бязупынна. Перад музэем стаіць яшчэ заданьне пабудаваць шэраг куткоў: профэсыянальнага руху, моладзі, Чырвонай арміі, жаночага руху, комуністычнага руху на Захадзе і Усходзе і г. д. У гэтым кірунку неабходна завастрыць увагу. На гэта паказваюць і навядальнікі музэю ў „кнізе запісаў уражаньняў".

Так, напр., вучні фабзавуча паліграфвытворчасьці заўважваюць:

..."ёсьць і недахопы: няма спэцыяльнага кутка руху моладзі, ня відаць, які ўдзел прыймала моладзь у рэволюцыйным руху"...

Політэмігранты Заходняй Беларусі і Польшчы пішуць:

..."мала матар'ялаў аб працы Компартыі Заходняй Беларусі, адсутнічаюць матар'ялы аб яе дзейнасьці на тэрыторыі, захопленай белапалякамі; мала матар'ялаў аб контррэволюцыі і бандытызьме на Беларусі"...

Чырвонаармейцы, якія наведваюць музэй, таксама лічаць, што мала матар'ялаў аб окупацыі Беларусі палякамі і г. д.

Але, пры абмяркоўваньні пытаньня аб пашырэньні музэю ці адчыненьні якіх-небудзь новых аддзелаў, мы сустракаем шэраг перашкод, і самай галоўнай з іх зьяўляецца вельмі малы разьмер памяшканьня. Мы стаім перад фактам, калі нова набытыя экспонаты абсолютна няма дзе захоўваць. На гэта неабходна зьвярнуць увагу і паставіць пытаньне аб адшуканьні памяшканьня.

З гэтай самай прычыны пры музэі дагэтуль няма габінэту, дзе магчыма было-б сыстэматычна вывучаць рэволюцыйны рух і займацца навуковай апрацоўкай сырых гістарычных матар'ялаў, якія будучы музэйнай рэдкасьцю, ні ў якім разе ня могуць быць узяты з музэю. Адсутнасьць навуковага габінэту робіць іх покуль што недаступнымі для выкарыстаньня і навуковай апрацоўкі. Пры музэі нават няма вольнага пакою, які можна было-б скарыстаць для архіву, а між тым колькасьць архіўных матар'ялаў расьце з кожным днём. Усё гэта кажа за тое, што пытаньне аб пашырэньні памяшканьня музэю стаіць вельмі гостра; з пашырэньнем яго бязумоўна будуць зьнішчаны недахопы ў працы, якія цяпер галоўным чынам упіраюцца ў недастачу памяшканьня.

Такім чынам, адным з галоўных заданьняў музэю на бліжэйшы час ёсьць пашырэньне памяшканьня і ў сувязі з гэтым адчыненьне новых аддзелаў і папаўненьне старых большай, па магчымасьці, колькасьцю матар'ялаў.

Трэба сказаць, што ў гэтых адносінах музэю неабходна допамога грамадзянства. Мы лічым, што шырокія масы рабочых і сялян павінны прыняць самы актыўны ўдзел у зьбіраньні гістарычных матар'ялаў і докумэнтаў нашай эпохі. Музэй чакае і патрабуе ад шырокіх працоўных мас беражлівых і сьвядомых адносін да такіх докумэнтаў.

Ня менш цікавы для музэю матар'ялы, якія адбіваюць савецкае будаўніцтва на Беларусі і нашы дасягненьні на гаспадарчым фронце, усякія фотоздымкі ці мастацкія зарысоўкі падзей, якія маюць грамадзкае значэньне ці малююць найбольш важныя моманты нашага політычнага, грамадзкага і гаспадарчага жыцьця. Цяпер я дазволю сабе спыніцца на другой, ня менш важнай працы музэю,—гэта на задачы прыцягненьня ўвагі шырокіх рабоча-сялянскіх мас, чырвонаармейцаў і вучнёўскай моладзі да таго багатага матар'ялу, які адбівае шматвяковую барацьбу прыгнечаных за сваё вызваленьне; перад намі было заданьне даць магчымасьць працоўным навочна азнаёміцца з гісторыяй гэтай вызваленчай барацьбы, лепш уявіць той ці іншы этап гэтай барацьбы.

Наведваньне музэю ў першы год яго існаваньня было параўнальна вялікае; у летнія месяцы г. г. у сувязі з перарывам яно некалькі зьнізілася, але за апошнія паўтары-два месяцы зноў можна заўважыць ажыўленьне. З часу адчыненьня музэю яго наведала звыш 15.000 чалавек, у большасьці выпадкаў групамі (каля 500 экскурсій),

хоць досыць значны лік быў адзіночнага наведваньня музэю. У пераважнай большасьці экскурсанты—рабочыя організацыі, чырвонаармейцы і вучнёўская моладзь. За ўваходу музэй бярэцца плата: з адзіночак па 15 к., з экскурсантаў па 10 к. Рабочыя організацыі звычайна плацяць з сум культфонду. Ад платы вызваляліся толькі чырвонаармейцы і вучні, якія прыходзілі ў музэй організаваным парадкам. Усяго за гэты час было вызвалена ад платы 13.000 наведаўшых музэй і толькі 2.000 чалавек наведала музэй за плату, што дало зусім нязначную суму ў 200 руб., г. зн. фактычна нічога рэальнага для музэю. А між тым, практыка паказвае, што ўстанаўленьне платы, хоць і такой нізкай, часта зьяўляецца сур'ёзнай перашкодай да наведваньня музэю; з прычыны гэтага, прыдзецца, здаецца, паставіць пытаньне аб мэтазгоднасьці ўстанаўленьня платы за наведваньне.

Групы, якія наведваюць музэй, абслугоўваюцца двума навуковымі працаўнікамі, якія даюць неабходныя тлумачэньні па кожным аддзеле, адказваючы адначасна на пытаньні, якія вынікаюць у слухачоў.

Усе, хто наведваюць музэй, адзначаюць яго дадатныя і адмоўныя бакі ў спэцыяльна для гэтага заведзенай кнізе.

Цікава прывесьці некаторыя вытрымкі з гэтае кнігі, якія сьведчаць, што музэй за кароткі час працы пасьпеў стварыць вакол сябе пэўны погляд пролетарскай грамадзкасьці, заваяваць сымпатыі шырокіх мас рабочых і сялян. Вось найбольш яскравыя:

Экскурсанты-сяляне Падгайскага і Сеньніцкага с. с. у ліку 20 чалавек пішуць:

„Агульнае ўражаньне добрае, асабліва спадабалася адбіцьцё эпохі прыгону—эпохі найвялікшай эксплёатацыі сялян. Яна нам вельмі блізка і зразумела. З захапленьнем прасачылі барацьбу працоўных. Яе паасобныя этапы загартоўваюць нас на новую барацьбу за вызваленьне нашых братоў—заходніх сялян ад прыгнёту буржуазіі".

Рабочыя дрожджа-вінакурнага заводу „Пролетары" падкрэсьлілі:

„Уражаньне ад музэю добрае. Музэй практычна паказвае шлях да вывучэньня гісторыі рэволюцыйнага руху і гісторыі партыі. Пажадана наладжваць пабольш такіх экскурсій, яны рабочаму шмат чаго даюць".

Рабочая моладзь фабзавучу паліграфвытворчасьці піша:

„Нам, маладым рабочым, музэй наочна паказаў, як рос і шырыўся рабочы рух у Расіі, як зараджалася компартыя, як яна разьвівалася. Яскрава адбіт захват улады рабочымі пад кіраўніцтвам бальшавікоў. Той матар'ял, які быў нам знаём у раскіданым выглядзе, цяпер пры наведаньні музэю сыстэматызаваўся і аформіўся.

Чырвонаармейцы N палка:

„Музэй добра малюе факты рэволюцыйнага руху ў Расіі і на Беларусі. Экскурсія дала нам багата ў нашай палітвучобе".

Працаўніцы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту:

„Засталіся вельмі задаволенымі абстаноўкай музэю. Некаторыя працаўніцы гаварылі, што музэй перанёс іх у тую гарачую эпоху дзейнасьці рэволюцыянэраў і як-бы даў перажыць усе этапы рэволюцыі. У агульным і цэлым уражаньне самае добрае".

Вучні 2-ой вячэрняй школы:

„Матар'ялы цікавыя. Наша моладзь з вялікай зацікаўленасьцю глядзела і слухала. Ёсьць і недахопы: сьвет асьвятляе толькі сярэдзіну пакою, бакавыя малюнкі і аддзелы застаюцца ў цені, неабходны баковыя лямпачкі. Скульптуры мала. Групаводы добрыя".

Палітэмігранты Заходняй Беларусі і Польшчы адзначаюць наступнае:

„Музэй дае поўны малюнак гісторыі рэволюцыйнага руху ў Расіі. Недахопы: 1) адсутнасьць статыстычных і наяўных матар'ялаў па вывучэньні гэтага руху; 2) адсутнічаюць матар'ялы аб дзейнасьці компартыі Заходняй Беларусі і Польшчы; 3) мала матар'ялаў аб контррэволюцыі і бандытызьме на Беларусі (беларускі народны ўрад, Балаховіч і інш.). Тлумачэньні некалькі павярхоўныя".

Піонэры атраду нархарч:

„Наогул спадабалася ўсё, але больш усяго: ленкуток, орыгінальны портрэт

Маркса, Леніна і Троцкага. Спадабаліся малюнкі паўстаньняў 1863 і 1905 г.г. Прыцягваюць увагу: куток паліткатаржаніна, ланцугі і ручны падпольны друкарскі варштат".

Можна прывесьці яшчэ шмат запісаў, якія яскрава сьведчаць, наколькі сваечасовы пастаўленыя музэем заданьні, але і вышэйпрыведзеных зусім досыць, каб з упэўненасьцю сказаць, што музэй добра выканаў гэтыя заданьні і правёў вялікую працу па пашырэньні сярод шырокіх працоўных мас рабочых і сялян ведаў аб гэраічнай барацьбе рабочае клясы і па гісторыі компартыі, пад кіраўніцтвам якой пролетарыят узяў уладу ў свае рукі.

У сучасны момант музэем прароблена вялікая праца па падрыхтоўцы да сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі. У гэтых мэтах быў адрамантаваны шэраг пакояў, абсталявана выстаўка матар'ялаў па гісторыі Кастрычнікавай рэволюцыі, для чаго куплены плякаты, фотоматар'ялы і г. д.

У сьвяткаваньні Кастрычніка Музэй рэволюцыі паставіў сабе заданьнем па магчымасьці шырэй разгарнуць працу па вывучэньні і высьвятленьні падзей, якія адбыліся ў сувязі з Кастрычнікавым пераваротам у 1917 годзе.



**Г. Аляксандраў.**

# Краязнаўчыя музэі і дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай Рэволюцыі.

Краязнаўчая праца, якая разгарнулася за апошнія гады, выклікала на мясцох патрэбу ў організацыі краязнаўчных музэяў. Апошнія ўзьніклі і разьвіваліся не па ініцыятыве зьверху, а па ініцыятыве самых месц, што лепш за ўсё сьведчыць аб іх неабходнасьці і своечасовасьці. Ня толькі акруговыя цэнтры, але і раённыя ўжо заклалі фундамэнт для краязнаўчых музэяў.

У пачатку бягучага году па вестках ЦБК існавалі на тэрыторыі БССР наступныя музэі:

| Акруга: | Музэі: |
|---|---|
| 1. Аршанская . . . . | 3 |
| 2. Бабруйская . . . . | 3 |
| 3. Віцебская . . . . | 1 |
| 4. Калінінская . . . . | 3 |
| 5. Магілеўская . . . . | 1 |
| 6. Мазырская . . . . | 3 |
| 7. Менская . . . . | 2 |
| 8. Полацкая . . . . | 1 |
| 9. Слуцкая . . . . | 1 |

У паказаных 18 музэях знаходзіцца да 12.000 розных экспонатаў. Належным чынам організаваць і наладзіць музэйную справу немагчыма з прычыны адсутнасьці памяшканьняў. Музэі, дзякуючы гэтаму, ня могуць выканаць сваё назначэньне і экспонаты іх недаступны для агляду і вывучэньня.

Музэі, якія зьяўляюцца краязнаўчымі па сваім назначэньні і зьместу,—ня толькі кунсткамэры, але перш за ўсё ўстановы, якія дапамагаюць насяленьню разабрацца ў акаляючых абставінах і вывучыць іх. З гэтага боку музэі зьяўляюцца падсобнымі ўстановамі для нашых працоўных школ.

Вытворчы ўхіл асабліва рэльефна выявіўся ў Бабруйскім і Магілеўскім музэях, у якіх сабраны модэлі мясцовых фабрык і заводаў, выяўлены процэсы вытворчасьці і г. д. Бязумоўна, вызначаны ўхіл мае ўсе шансы для далейшага пладатворнага разьвіцьця.

Захоўваючы і зьбіраючы ўсе найбольш важныя факты і падзеі мясцовай экономікі і культуры, краязнаўчыя музэі павінны ўзяць на сябе заданьне—організаваць вучот, зьбіраньне і захаваньне матар'ялаў, якія зьвязаны з 10 гадавінай Рэволюцыі. Тут перад нашымі музэямі высоўваецца шэраг чарговых задач. Дзесятая гадавіна Кастрычнікавай рэволюцыі павінна выявіць з аднаго боку нашы дасягненьні ў розных галінах гаспадарчага і культурнага жыцьця за мінулае дзесяцігодзьдзе;

з другога боку—выкрыць тыя магчымасьці, якія забясьпечваюць наша далейшае разьвіцьцё па шляху гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. З гэтага пункту погляду нашы краязнаўчыя музэі павінны падыйсьці да вывучэньня і захаваньня вынікаў мінулага дзесяцігодзьдзя.

Няз'лічымы цяжкасьці і этапы, праз якія прашла наша барацьба за мірную працу, але гэта дзесяцігодзьдзе ўжо ззаду; тым больш трэба нам, удзельнікам і сьведкам гэтых гадоў, зафіксаваць іх у найбольш рэльефнай форме для будучых пакаленьняў. Гэта задача ляжыць на краязнаўчых музэях, якія павінны ня толькі захоўваць, але перш за ўсё вучыць.

ıмпэрыялістычная і грамадзянская вайна прашлі як па ўсёй тэрыторыі БССР у цэлым, так і па асобных яе мясцовасьцях і раёнах. Кожны горад, вёска, мястэчка маюць шмат сьлядоў мінулай барацьбы як у докумэнтах, так і ў памяці грамадзян. Газэты і лістоўкі, праклямацыі і плякаты, загады і цыркуляры, удзел у партызанскай барацьбе, гвалты ў пэрыод окупацыі—усё гэта неабходна самым акуратным спосабам зьбіраць, запісваць і захоўваць. Гэтая праца ўжо часткова праводзіцца ў нашых буйных цэнтрах; неабходна, каб яна ахапіла і нашы „географічныя“ нізы—вёскі і мястэчкі, неабходна ўцягнуць у яе актыўныя мясцовыя сілы.

Пэрыод вайсковага комунізму і грамадзянскай вайны выклікаў пэртурбацыі ва ўсім народна-гаспадарчым організьме нашай Рэспублікі. Пэрыод будаўніцтва і аднаўленьня нашай гаспадарчай моцы выклікаў да жыцьця мясцовыя сілы і закладзеныя ў іх творчыя магчымасьці. Абодвы гэтыя пэрыоды, надзвычайна важныя, як навочны вопыт выяўленьня соцыяльнай энэргіі, павінны знайсьці свой адбітак у зафіксаванай форме.

Становішча сельскай гаспадаркі раёну і акругі за гэтыя гады, пранікненьне машыны на вёску, рост мясцовай і дзяржаўнай прамысловасьці, разьвіцьцё коопэрацыі, дробная саматужная прамысловасьць—усё гэта ў докумэнтальнай форме павінна быць сабрана, падлічана і захавана. Справаздачы дзяржаўных установ і органаў, якія зьвязаны з мясцовай гаспадаркай,—Наркамзем, СНГ, Белкоопсаюз і інш., іх органаў на мясцох,—увесь гэты матар'ял павінен знаходзіцца ў мясцовым краязнаўчым музэі.

Тое самае трэба сказаць і адносна нашага культурнага росту. Шырака разгарнутая сетка асьветных і мэдыцынскіх установ—ад прымітыўнай школы і хаты-чытальні да вышэйшых навучальных установ, ад фэльчарскага пункту да дасьледчага мэдыцынскага інстытуту—усё гэта ў форме карт, дыяграм, павінна быць зафіксавана ў мясцовым краязнаўчым музэі.

У першую чаргу павінен быць сабран і захован матар'ял, які непасрэдна выклікан сьвяткаваньнем 10 гадавіны рэволюцыі на мясцох. Усё тое, чым у тэй ці іншай форме будуць выяўляць мясцовыя ўстановы і організацыі свае адносіны да сьвята—усё гэта павінна быць сабрана ў адным кутку музэю. Спэцыяльныя выданьні, плякаты, фотографіі, корэспондэнцыі аб правядзеньні сьвята і г. д.—усё гэта неабходна зьбіраць і захаваць.

Мы думаем, што для правядзеньня ўсяе гэтае працы неабходна пры мясцовых краязнаўчых т-вах організаваць спэцыяльныя камісіі з прадстаўніцтвам зацікаўленых установ. Гэтыя камісіі павінны быць організаваны цяпер-жа, каб ня страціўся каштоўны матар'ял, каб яго

не засьціг сумны лёс іншых гадавін і памятных момантаў у гісторыі нашай экономікі і культуры.

Мы ўжо маем на ўвазе спробу француского „Т-ва вывучэньня францускай рэволюцыі", якое разгарнула шырокую працу па вывучэньні Вялікай рэволюцыі ў паасобных дэпартамэнтах, комунах і г. д. Наша задача куды шырэй. Для нас Кастрычнікавая рэволюцыя—не застыгшая гісторыя, а жывая сучаснасьць; тым шырэй павінны быць тыя пласты насяленьня, якія зацікаўлены ў фіксацыі і захаваньні яе матар'ялаў.

Добра будзе, калі мясцовыя краязнаўчыя т-вы, якія абапіраюцца на актыўныя элементы мясцовага грамадзянства, прымуць высунутую задачу, як актуальную і прыступяць да яе тэрміновага выкананьня.

---

М. Мялешка.

# Архівы БССР за 10 год Кастрычніка.

Кастрычнікавая рэволюцыя застала архівы Беларусі ў самым беспарадковым становішчы. Толькі старадаўныя архіўныя матар'ялы ў дарэволюцыйны час былі сабраны ў Беларусі і зьмешчаны ў Віленскі Цэнтральны Архіў старадаўных актаў і часткай адпраўлены ў Маскву і Ленінград. Архівы-ж XIX стагодзьдзя знаходзіліся ў веданьні тэй установы, ад якой яны адлажыліся. Ня было ніякага спэцыяльнага органу, які-б ведаў усімі архіўнымі матар'яламі і, вядома, у часы рэволюцыі і окупацый Беларусі архівы шмат пацярпелі, застаўшыся нікому невядомым матар'ялам, раскіданым часткамі па гарадох і мястэчках Беларусі.

Кастрычнікавая рэволюцыя, замацаваўшы савецкую ўладу, дала штуршок да організацыі архіўнай справы. 1 чэрвеня 1918 г. быў падпісаны У. І. Леніным дэкрэт аб утварэньні галоўнай архіўнай управы і правядзеньні цэнтралізацыі архіваў. Па прынцыпах гэтага дэкрэту пачалося ўпарадкаваньне архіваў на Віцебшчыне і Магілеўшчыне, якія тады ўваходзілі ў склад РСФСР. На Меншчыне, дзе да 1920 году ішла грамадзянская вайна, архівы заставаліся бяз усякага ведама і больш іншых былі разбураны. З аднаўленьнем БССР у 1920 г. пачынаецца архіўная праца і на Меншчыне. Была ўтворана архіўная сэкцыя пры НКАсьветы, якая правяла значную працу па ахове архіваў. Але сэкцыя гэта ня мела ні адпаведнага памяшканьня пад архівы, ні сродкаў, каб павясьці плянамерную організаваную працу па ўпарадкаваньні архіваў.

У студзені 1921 году СНК БССР, у мэтах аховы архіваў, выдаў пастанову, па якой усе дзяржаўныя савецкія ўстановы павінны былі прыняць крокі да таго, каб спыніць зьнішчэньне архіваў, якія знаходзіліся ў іх. Па гэтай пастанове нагляд за архівамі даручаўся Наркамасьветы, але гэтая пастанова ня дала рэальных вынікаў дзеля таго, што ня было сродкаў для яе ажыцьцяўленьня. Архівы ўсё яшчэ заставаліся раскіданымі па сырых сутарэньнях і іншых мясцох, дзе яны псаваліся.

Сталая праца па ўпарадкаваньні архіваў пачалася толькі з выданьнем ЦВК БССР 12-га верасьня 1922 году Палажэньня аб Цэнтрархіве БССР. Па гэтай пастанове Цэнтрархіў перайшоў у непасрэднае ведама ЦВК БССР, было організована Архіўнае Кіраўніцтва, якое стала ведаць усімі архівамі ў БССР. Ставілася ў абавязак у кожным павеце ўтварыць павятовы архіў.

З гэтага часу пачынае організоўвацца архіўная праца і концэнтравацца архіўныя матар'ялы ў адпаведных архівах. Усе архіўныя матар'ялы бяруцца на строгі вучот і здаюцца пад ахову і адказнасьць тэй установы, у будынку якой знаходзіўся гэты архіў. Сыстэматычна пры ўдзеле міліцыі, вылаўліваюцца архіўныя матар'ялы, якія за гэты час папалі на рынак гандляром, і вінаватыя прыцягваюцца да адказ-

насьці па суду. Былі зроблены захады да адводу пад цэнтральныя архівы неабходных памяшканьняў і іх абсталяваньня. Было прыступлена безадкладна да перавозкі архіўных фондаў у архівасховы Цэнтрархіву. Гэтую пасьпешную працу вымушан быў Цэнтрархіў рабіць яшчэ і дзеля таго, што з утварэньнем Цэнтрархіву БССР савецкія ўстановы, у веданьні якіх знаходзіліся архіўныя матар'ялы, настойліва запатрабавалі ад Цэнтрархіву забраць ад іх гэтыя архівы і аслабаніць ім памяшканьне.

У Менску былі адведзены пад архівы два былых манастыры. Адзін з іх быў заняты ўжо архівамі старых судовых установ, які ў далейшым быў пашыраны і арганізованы ў Менскі Гістарычны Архіў, у якім зараз разьмешчаны ўсе губэрскія і некаторыя павятовыя дарэвалюцыйныя архівы Меншчыны. У другім манастыры згрупованы архівы пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, галоўным чынам цэнтральных установ і зараз арганізованы ў Цэнтральны Архіў Кастрычнікавай Рэволюцыі.

Неабходна было ў паветах утварыць архіўныя філіалы і павясьці на месцы працу па ўпарадкаваньні архіваў на павеце, дзеля таго, што тут знаходзіліся каштоўныя ў навуковых і практычных адносінах архіўныя матар'ялы. На паветах складаліся валасныя архівы, якія зьмяшчалі веды да экономікі быту і права беларускага сялянства. Па былых панскіх маёнтках знаходзіліся архівы, якія давалі нам даныя аб гаспадарцы панскіх экономій. Па старых манастырох і цэрквах знаходзіліся матар'ялы, якія сьведчылі нам аб рэлігійнай барацьбе, аб зямляўладаньні гэтымі манастырамі і царквамі і інш. У самым павятовым горадзе ад павятовых установ дарэволюцыйнага часу заставаліся архіўныя матар'ялы, якія маглі мець ня толькі гістарычную значнасьць, але і практычную. Апроч гэтага вельмі каштоўнымі былі архівы першых савецкіх установ, дзе адбілася і грамадзянская вайна і рэволюцыйнае будаўніцтва. Усё гэта неабходна было выявіць, зрабіць вучот, перавезьці у адно месца і прыводзіць іх у належны парадак. У самым канцы 1922 і з пачатку 1923 году вядзецца організацыя пры прэзыдыумах павятовых выканаўчых камітэтаў архіўных аддзяленьняў, даюцца інструкцыйныя прадпісаньні аб значэньні і задачах архіўнай працы на паветах і г. д.

Умацоўваючы сваё палажэньне, павятовыя архівы пачынаюць прыводзіць у парадак архівы, забясьпечваюць за сабой памяшканьні пад архівы, абсталёўваюць іх паліцамі і пачынаюць звозіць туды архіўны матар'ял, як дарэволюцыйных часоў, так і першых гадоў савецкіх установ. Разам з гэтым зварочваецца ўвага ня толькі на самыя гарадзкія павятовыя архівы, але і на раскінутыя па валасьцёх. У першую чаргу Цэнтрархіў БССР распрацаваў самую дэтальную анкету для выяўленьня і вучоту старых валасных архіваў. Па гэтай анкеце былі зроблены абсьледваньні амаль што ўсіх валасьцей і паложаны канец зьнішчэньню валасных архіваў, якія яшчэ ўцалелі да гэтага часу.

У гэты-ж самы час былі прыняты захады да зьбіраньня памешчыцкіх архіваў, якія засталіся на Беларусі. Як вядома, шмат хто з беларускай шляхты ўладаў каштоўнымі архіўнымі зборамі. Архівы Любамірскіх, Радзівілаў, Храптовічаў, Хмараў, Ельскіх і іншыя мелі ў сабе цікавейшыя першакрыніцы да гісторыі гаспадаркі, сялянскага быту, часоў прыгонаў і інш.

На жаль, у першыя гады рэволюцыі архівы гэтыя былі страчаны; частка з іх была ўвезена самімі ўладарамі за рубяжы Беларусі, частка была расьцягнута сялянамі і парабкамі, частка проста зьнішчана,

як непатрэбная папера. Цэнтрархіў прымае крокі, каб знайсьці і захаваць у цэласьці архівы былых двароў, праз існаваўшую тады пры Наркамземе БССР управу савецкімі гаспадаркамі (Упнарым), што ў некаторай частцы і ўдалася.

Як толькі зьявілася першая магчымасьць перавазіць архіўныя матар'ялы ў архівасховы, зараз-жа было прыступлена да концэнтрацыі архіваў з розных месц па ўсёй БССР. За час з 1923—25 г. г. было перавезена ў організаваныя архівы: у Менскі 237 арх. фондаў, у Віцебскі—86, у Магілеўскі—56, у Клімавіцкі—64, у Барысаўскі—89, у Бабруйскі — 130, у Мазырскі — 60, у Слуцкі — 92, у Полацкі—37 і ў Аршанскі—60.

З далучэньнем у 1924 годзе да БССР Віцебску і Магілеву, а ў 1926 г. і Гомельшчыны дзейнасьць Цэнтрархіву значна пашырылася. Пад загад Кіраўніцтва Цэнтрархіву адышлі архівы Віцебшчыны і Магілеўшчыны. Неабходна было надаць аднолькавы від і аднолькавы ўхіл працы ва ўсіх архівах БССР. Трэба было падагульніць праробленую працу, праверыць яе і намеціць шляхі для працы ў будучыне, у зьвязку з гэтым 12 мая 1924 году ў Менску адчынілася першая ўсебеларуская нарада архівістых з удзелам прадстаўнікоў: ад Інбелкульту, Гістпарту ЦК КП(б), БДУ, Цэнтрархіву РСФСР, і РСІ. На нарадзе было разгледжана 15 пытаньняў, якія галоўным чынам датычыліся організацыйнага боку і практычнага ўпарадкаваньня архіваў.

Заслуханыя і абгавораныя даклады на нарадзе архіўных працаўнікоў Беларусі і вынесеныя па іх рэзолюцыі, падраўнялі архіўную справу, ідэёва аб'яднalі беларускіх архівістых, расчысьцілі і высьветлілі тыя шляхі, па якіх павінна ісьці на бліжэйшы час творчая праца ў Беларускіх архівах.

Дзеля ўдасканаленьня архіўнай справы ў БССР і яе юрыдычнага афармленьня, ЦВК і СНК БССР было выдана некалькі пастаноў. Апроч памянёнай пастановы ад 12 верасьня 1922 году варта адзначыць пастанову (інструкцыю) ЦВК БССР ад 22 сьнежня 1922 году, аб парадку здачы ўстановамі сваіх архіваў Цэнтрархіву БССР. Была выдана пастанова аб здачы ў архівы ўсіх матар'ялаў асоб царскай фаміліі і эмігрантаў з Беларусі; аб парадку выдачы грамадзянам даведак і дакумэнтаў з архіваў і аб адзіным дзяржаўным фондзе. Зараз распрацован проект аб цэнтральным архіўным кіраўніцтве і яго органах. Апроч гэтага ЦВК БССР былі зроблены захады аб забясьпечаньні архіваў адпаведнымі памяшканьнямі і аб здачы ў архівы ўсіх архіўных матар'ялаў за першыя гады Кастрычніка.

За гэты час усе архівы забясьпечаны каменнымі памяшканьнямі, з якіх 6—былыя царкоўныя будынкі. Апісана і праверана, каля паўмільёна спраў, прагледжана паверачнай камісіяй Цэнтрархіву і прызнана да зьнішчэньня каля 80 тон. архіўнай макулатуры. Пабудована новых стаяліц толькі у Менскіх архівах каля 6 кілёмэтраў, і перабудована старых каля 600 мэтраў.

Структура архіваў за гэты час прыняла пэўную стройную форму. У кожнай акрузе ёсьць акругові архіў, куды зьмяшчаюцца ўсе архівы акругі. У Менску, Віцебску і Магілеве ўтвораны гістарычныя архівы, дзе сабраны архівы царскіх устаноў губэрскіх і некаторых ліквідаваных павятовых устаноў. Організованы Цэнтральны Архіў Кастрычнікавай Рэволюцыі, дзе зьмяшчаюцца важнейшыя матар'ялы цэнтральных устаноў БССР.

На чале ўсіх архіўных установ стаіць Цэнтральнае Архіўнае Кіраўніцтва БССР, якое падпарадкавана Прэзыдыуму ЦВК БССР.

Фактычна архівы БССР памянёную працу правялі на працягу пяці апошніх гадоў з часу выданьня дэкрэту аб архівах 12 верасьня 1922 г. Першыя пяць гадоў рэволюцыі былі ў нас вельмі неспагаднымі для працы над архіўнымі матар'яламі.

Кастрычнік у Беларусі даў поўную магчымасьць працы над матар'яламі нашае гісторыі. Заданьнем на будучае дзесяцігодзьдзе ў архіўнай галіне павінна стаць прасоўваньне ў працоўныя масы тых ведаў з мінулага Беларусі, якія застаюцца скрытымі ў агромністым ліку архіўных докумэнтаў. І гэтую працу зараз павінны павясьці на мясцох нашы архівістыя разам з гісторыкамі-краязнаўцамі.

---

# КРАЯЗНАЎСТВА і НАЦМЕНШАСЬЦІ.

Г. Аляксандраў.

## Краязнаўчая праца сярод яўрэйскага насяленьня БССР.

Асаблівыя ўмовы разьвіцьця яўрэйскага нясяленьня паклалі свой адбітак на характар і тэмп краязнаўчай працы сярод яго. З тае прычыны, што яўрэйская народнасьць не займае пэўнай тэрыторыі, а раскідана сярод іншых народаў, праца па вывучэньні яе гісторыі, эканомікі, быту і г. д. натуральна зьявілася падзеленай па розных тэрыторыях, на якіх сконцэнтраваны больш-менш значныя групы яўрэйскага насяленьня. З другога боку спэцыфічныя ўмовы палітычнага і эканамічнага разьвіцьця яўрэяў у царскай Расіі мала спрыялі разьвіцьцю краязнаўчай справы. Зусім новыя задачы паўсталі ў гэтай справе пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Вызваліўшыся ад векавога ўціску, яўрэйскія працоўныя масы адчулі сябе часткай дзяржавы працоўных. Дзякуючы гэтаму, уся праца па ўзьняцьці экономікі і культуры яўрэйскіх мас зьявілася часткай працы ўсяе пролетарскае дзяржавы, і разам з гэтым—грунтоўна зьмяніўся і напрамак працы па вывучэньні яўрэйскага насяленьня. Інстытут Беларускае Культуры організаваў Яўрэйскі аддзел, які паставіў сабе задачу ўсебаковага вывучэньня экономікі, гісторыі, мовы, літаратуры, быту яўрэйскага насельніцтва. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства за апошні год узмацніла краязнаўчую працу сярод яўрэйскіх мас. Паколькі яўрэйская навука яшчэ ня мела краязнаўчых традыцый, патрэбна было ў першую чаргу ўтварыць краязнаўчую зацікаўленасьць. Былі вызначаны і выкананы заданьні па вывучэньні экономікі паасобных груп яўрэйскага насяленьня, мясцовых дыялектаў, зьбіраньне фолькльору і г. д. Гэта было неабходна з мэтай утварэньня шэрагу такіх краязнаўчых прац, на якіх мясцовыя працаўнікі маглі-б вучыцца і набываць практыку.

Краязнаўчая аснова была цалкам пакладзена ў грунт дзейнасьці соцыяльна-экономічнай камісіі Яўр. Аддзелу ІБК. Яна сабрала і зараз публікуе (у ІІ-м нумары „Цайтшрыфт“) наступныя працы: І. Угорскага —„Яўрэйскае земляробства ў БССР“, агронома Каза—„Яўрэйскія колёніі ў БССР“, Г. Аляксандрава—„Яўрэйскае насяленьне ў гарадох і мястэчках Беларусі“, д-ра Эйнгорн—„Яўрэйская рабочая моладзь у БССР“. Такі характар прац зьяўляецца ў нас зусім новым і сьведчыць аб глыбокай зацікаўленасьці да проблем мясцовай экономікі.

Соцыяльна-экономічнай сэкцыяй таксама было праведзена дэтальнае абсьледваньне двух мястэчак—Лапіч Асіпавіцк. р. Бабр. акр. і Нароўлі, Мазырск. акр.

Разгарнулася значная праца па зьбіраньні яўрэйскага фолькльору. Зараз Яўрэйскі аддзел мае цэлы шэраг колекцый па розных разьвілінах фолькльору, часткова ўжо надрукаваных, часткова падрыхтаваных да друку. Апрача колекцый, прыказак і пагаворак нябожчыка З. Храп-

коўскага (да 5.000 нумароў), неабходна адзначыць колекцыі анэкдотаў (т. Фрыдман—Менск, Бэйзін—Іркуцк) народных песень (Шымшалевіч—Менск, Бэрлін—Гомель), паданьняў і апавяданьняў (Хацкелевіч), дзіцячых песень (Набумоўскі—Днепрапятроўск), мянушак-прозьвішч (Саламянскі, Фінкель—Менск).

Праца па выданьні акадэмічнага яўрэйскага слоўніка, якая вядзецца пад кіраўніцтвам т. М. Вайнгера, выклікала неабходнасьць сувязі з мясцамі, і працаўнікі апошніх выяўляюць у гэтай справе значную ініцыятыву. Асобна трэба адзначыць працу яўрэйскіх школ па зьбіраньні слоў (м. Чашнікі, м. Пятрыкоў) тэрмінолёгічныя колекцыі т. Слуцкага (тэрмінолёгія кравецкага рамяства), Душмана (тэрмінолёгія мясьнікоў), стылістычную колекцыю параўнаньняў (т. Волобранскага, Менск), дыялектычныя матар'ялы т. т. Скалінай (Чарэя), Пячэрскага (Чавусы).

Гістарычнай камісіяй яўрэйскага Аддзелу, пад кіраўніцтвам т. І. Сосіса, скончаны працы па падліку і апісаньні яўрэйскіх дакумэнтаў Менскага Яўрэйскага Кагалу і былога Беларускага генэрал-губэрнатарства (т. т. Г. Аляксандраў і А. Палеес).

Усе пералічаныя працы сьведчаць аб тым, што краязнаўчая праца сярод яўрэйскага насяленьня БССР, набыла ўжо навуковы базыс. Неабходна, каб уперад—у будучай працы—мясцовыя працаўнікі кіраваліся атрыманымі дасягненьнямі.

Бліжэйшая задача—організацыйнае афармленьне яўрэйскай краязнаўчай працы. На мясцох (у цэлым шэрагу акруговых і раённых пунктаў) вылучаны яўрэйскія сэкцыі крязнаўчых організацый. На бліжэйшы час намечана ўзмацненьне кіраўніцтва імі праз рассылку інструкцый, жывое інструктаваньне ў час выездаў і г. д. Дасягнутыя за апошнія два гады вынікі даюць поўную падставу спадзявацца, што ініцыятыва месц будзе ў далейшым пасьпешна разгортвацца.

---

Я. Віткоўскі.

# Краязнаўчая праца сярод польскай нацыянальнасьці.

Аднэй з заваёў Вялікага Кастрычніка зьяўляецца правільнае вырашэньне нацыянальнага пытаньня на ўсім абшары быўшай Расійскай імпэрыі. Сотні прыгнечаных нацый, дзякуючы Кастрычніку, пачалі будаваць сваю культуру, а некаторыя пачынаюць з самага пачатку, з устанаўленьня альфабэту. Польская культура на Беларусі,—культура паноў і абшарнікаў, прыганечанай ня была і да Кастрачніка: пан вучыў свабодна сваіх дзяцей і ніхто не перашкаджаў яму мець гувэрнантак і гувэрнёраў, якія вучылі яго дзяцей папольску. Польская мова для працоўных была забаронена, і толькі праз падпольныя школы маглі яны атрымаць асьвету на роднай мове. Вялікі Кастрычнік цалкам зьмяніў гэты стан: зараз працоўныя палякі маюць самыя шырокія магчымасьці вывучэньня і паглыбленьня свае культуры на тэрыторыі супольнай бацькаўшчыны—Беларусі. Савецкая ўлада БССР дае сродкі, каб як-мага шырэй разгарнуць гэтую працу, як па лініі асьветы: школы пачатковыя, сямігодкі, тэхнікумы, так і па лініі навуковай распрацоўкі пытаньняў польскай культуры ў Польскім Сэктары Інстытуту Беларускае Культуры. У краязнаўчай організацыі БССР таксама працоўныя палякі прымаюць удзел у краязнаўчай працы. Польская мова—адна з дзяржаўных моваў на Беларусі і ў большых асяродках польскага насельніцтва мае свае дзяржаўныя ўстановы: сельсаветы і суды на польскай мове.

Організацыйная структура і праца польскіх *культурных* устаноў, коратка пералічваючы, наступная:

Польскае Бюро Народнага Камісарыяту Асьветы кіруе 115 пачатковымі школамі, 10 сямігодкамі і 1 пэдтэхнікумам.

Польскі Сэктар Інстытуту Беларускае Культуры мае тры сталыя камісіі: 1) Гістарычную, 2) Мовы і Літаратуры і 3) Этнографічную. Кіруе Сэктарам рэктар Комуністычнага Унівэрсытэту *Сьцяпан Гэльтман*, намесьнікам яго і старшынёю Гістарычнае камісіі зьяўляецца *Я. Віткоўскі*—кіраўнік катэдры гісторыі Беларусі ў Комуністычным Унівэрсытэце.

У сучасны момант, у сувязі з рэорганізацыяй Інбелкульту, Польсэктару дадаткова дадзены 2 навуковыя адзінкі: правадзейнага члена, для якога будзе організавана катэдра, і навуковага асьпіранта. Усяго Польскі Сэктар ІБК мае 7 штатных адзінак.

Гістарычная Камісія Польсэктару распрацоўвае пытаньне з гісторыі Беларусі XIX-XX ст. Чаргова працуе над тэмай: „1863 год на Беларусі". Тэма, ня гледзячы на тое, што шмат аб ёй пісалася ў адносінах да Беларусі, цалкам навукова не распрацавана. Па гэтым пытаньні вывучаны архівы: Менскі, Віцебскі і цэнтральныя—Маскоўскі і Ленін-

градзкі. Сабраны матар'ялы, належачыя да губ.: Менскай, Віцебскай, Магілеўскай, Віленскай і Горадзенскай, а таксама і часткі Смаленскай. Вышаў з друку першы том гэтае працы „63 rok na Mińszczyźnie“ 22 аркушы друку. Зданы ў друк: „63 rok na Witebszczyźnie“ да „Półrocznika prac Sektoru ІВК“ і войдзе ад камісіі тры монографіі: „63 na Mińszczyźnie“, „Sprawa vlościańska w powstaniu 63 roku“, „Rys oswiaty polskiej na Bialorusi.

К 10 гадавіне Кастрычнікавай рэволюцыі камісія выдае вялікую працу „Udzial polakuw w Rewolucji Październikowej“ пад рэдакцяй т. т. *Краснага* і *Гэльтмана*.

У цэнтральных архівах узяты на вучот справы, якія адносяцца да гісторыі Беларусі XIX ст. у ліку 11.000 картак-спраў.

Камісія па вывучэньні мовы і літаратуры працуе над практычнанавуковым слоўнікам: беларуска-польскім і польска-беларускім (2 часткі) у ліку 120.000 слоў: кожная частка па 60.000 слоў. Таксама члены камісіі распрацоўваюць монографіі, напрыклад: „Błędy językowe na Białorusi“ і „Twòrczość polska porewolucyjna“ і г. д.

Этнографічная камісія працуе ў сувязі з Цэнтральным Бюро Краязнаўства, дзе мае свайго сталага працаўніка—інструктара па краязнаўству. Камісія апрацоўвае польскі фольклёр на Беларусі, а таксама шэраг монографій, як напрыклад: „Pieśń weselna na Białorusi“ і г. д.

Краязнаўчую працу Польскі Сэктар вядзе праз свайго інструктара пры ЦБК, праз польскія сэкцыі пры акруговых таварыствах краязнаўства, якія кіруюць працай польскіх гурткоў пры польскіх школах і сельсаветах, а таксама ў агульных гурткох, дзе прымаюць удзел польскія краязнаўцы. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства мае спэцыяльных польскіх корэспондэнтаў у ліку 14 асоб, якія працуюць па даручэньні і пад кіраўніцтвам Этнографічнае камісіі Польскага Сэктару. Мэтай Этнографічнай камісіі пры ЦБК зьяўляецца ўсебаковае вывучэньне быту і фольклёру, а таксама і этнографічных асаблівасьцяй польскага і польска-беларускага насельніцтва. Сёлетняя экспэдыцыя, якая адбылася на працягу 23 дзён, у складзе т. т.: *Дамброўскага* і *Даўкшы* ў Асіпавіцкі раён Бабруйскае акругі—ёсьць першы крок у гэтым напрамку. Багатыя матар'ялы, сабраныя экспэдыцыяй, увойдуць часткай як справаздача ў „Półrocznik prac Sektoru Polskiego ІВК“, а часткай распрацоўваюцца ў Этнографічнай камісіі.

Друкаваным органам Польскага Сэктару зьяўляецца паўгадовае выданьне: „Półrocznik prac Sektoru Polskiego ІВК“, першы нумар якога хутка выйдзе з друку.

У выніку пералічанага мы бачым, што, ня глядзечы на цяжкія ўмовы культурнага будаўніцтва на Беларусі ў сувязі з імпэрыялістычнай вайной і окупацыямі, польская культурная праца на Беларусі пачалася і к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавае рэволюцыі мае ўжо свае сталыя організацыйныя формы і даволі значныя дасягненьні ў вывучэньні роднага краю.

С. Жураўскі.

# Масавае настаўніцтва ў навукова-краязнаўчай працы.

Вялікі Кастрычнік адкінуў існаваўшы да рэволюцыі погляд, што навука і навуковая праца—зьяўляецца справай толькі навуковых працаўнікоў і спэцаў у адпаведных навуковых галінах. Навука спусьцілася да шырокіх працоўных мас і знайшла сярод іх многіх сьвядомых і адданых ёй працаўнікоў, якія пачалі адбудоўваць сваю краіну на падставе ўсебаковага і дасканальнага дасьледваньня і вывучэньня яе.

Толькі масы, прасякнутыя ідэямі Кастрычніка, могуць здолець і выканаць гэтую справу. Толькі гэтым тлумачыцца сучасны грамадзкі рост краязнаўчага руху ў нашай краіне.

Пераважную большасьць сяброў краязнаўчых аб'яднаньняў у БССР—складаюць настаўнікі, галоўным чынам на вёсках, - іх звыш 70%, ці больш 6.000 агульнага ліку. Настаўніцтва, якое добра разумее неабходнасьць і важнасьць краязнаўчай працы, скарыстоўвае вынікі яе ня толькі дзеля непасрэдных мэт і задач школьных заняткаў,—яно ў цэлым вядзе краязнаўчую працу навуковай вартасьці, вынікі якой маюць і практычнае значэньне для ўсёй дзяржавы. Гэтая навукова-краязнаўчая праца нізавога настаўніцтва выяўляецца галоўным чынам у зьбіраньні розных матар'ялаў і правядзеньні прасьцейшых дасьледваньняў па заданьнях і па праграмах аддзелаў і сэкцый Інбелкульту праз ЦБ Краязнаўства. Самастойныя досьледы і зьбіраньне матар'ялаў па ўласным імкненьні паасобных працаўнікоў-краязнаўцаў вядома,—за рэдкімі выпадкамі,—ня могуць набыць навуковай вартасьці, бо справа апрацоўкі сабраных матар'ялаў—клясыфікацыя, сыстэматызацыя іх, навуковыя вывады і вызначэньні—можа праводзіцца толькі ў спэцыяльных абставінах навуковымі спэцыялістымі.

Можна сказаць, што масавае настаўніцтва БССР прыняло ўдзел і ўжо выявіла сябе ва ўсіх галінах навукова-краязнаўчай працы: грамадзка-экономічнай, культурна-гістарычнай і прыродна-геграфічнай.

На першым месцы — па колькасьці сабраных матар'ялаў, па якасьці іх і па выніках (апрацоўка і надрукаваньне)—стаіць праца настаўніцтва па зьбіраньні слоў для слоўніка жывой беларускай мовы, што, да рэчы, вымагалася як школьнай справай, так і ходам беларусізацыі. Паасобнымі настаўнікамі і гурткамі іх сабрана за 2 гады звыш 150.000 слоў-картак,—пры гэтым некаторыя зьбіральнікі запісалі і падалі па некалькі тысяч слоў-картак, як напрыклад: Вашына К.—2.950 к., Шашалевіч А.—2.915 к., Ваўчок Л.—2.200 к., Вінаградаў І.—1.320 к. і інш. (З артыкулу М. Байкова). „Што зроблена ў справе зьбіраньня слоўнікав. матар'ялу за 1926 г.“—„Наш Край“ № 1—1927 г. Выданы Віцебскім акруговым Т-вам Кр-ва „Віцебскі краёвы слоўнік“, які зьмяшчае 9,700 слоў з ліку 32.914 слоў-картак, сабраных галоўным

чынам вясковымі настаўнікамі (да 200 асоб), прозьвішчы якіх зьмешчаны ў прадмове да паказанага слоўніка. Подобная-ж праца зараз праводзіцца на Мазыршчыне, дзе сабрана ўжо звыш 20.000 картак-слоў,—у б. Калініншчыне, у Чэрвенскім раёне, у Бабруйску, у Воршы і інш. мясцох. Частка гэтага матар'ялу апрацоўваецца ў Слоўнікавай каміс. па ўкл. слоўніка жывой мовы ў Інбелкульце,—частка сыстэматызуецца і падрыхтоўваецца да друку—на мясцох. Наогул, слоўнікавая справа зьявілася найбольш даступнай і блізкай настаўніцтву—і таму ўдзел у ёй прыймала і прыймае да 60% агульнага ліку ўсіх настаўнікаў-краязнаўцаў.

Другая навуковая справа—зьбіраньне народнага беларускага і яўрэйскага фольклёру таксама прыцягнула і прыцягвае да сябе значны процант (32%) настаўнікаў, а калі пад'агульніць сабраны і дасланы ў ІБК фольклёрны матар'ял, дык на першым месцы як па колькасьці, так і па якасьці собранага стаіць настаўнік-зьбіральнік. Найбольш выдатныя зьбіральнікі (амаль што ня ўсе настаўнікі) адзначаны ў артыкуле Ал. Шлюбскага „Год зьбіраньня фольклёрнага матар'ялу", зьмешчаным у №№ 1 і 2 „Наш. Кр."-за б/г.

Цэлы шэраг іншых прац навуковага значэньня праведзены настаўнікамі-краязнаўцамі па заданьнях ЦБК і акругов. т-ваў: монографічнае апісаньне паселішч, абсьледваньне хатніх рамёстваў і саматужнай прамысловасьці, вывучэньне бюджэту часу селяніна, вывучэньне прыродных фарб Беларусі і інш.

Мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя назіраньні ў БССР вядуцца галоўным чынам настаўнікамі. Па Мазырскай акрузе з 23 фэнпунктаў ў 22 назіральнікі—настаўнікі. (Прозьвішчы іх зьмешчаны ў фэнолёгічнай табліцы—сводцы, якая выпушчана пры 8—9 № „Наш. Кр." б/г.).

Калі прагледзець дасланыя ў ЦБК краязнаўцамі-настаўнікамі карткі падліку краязнаўчай працы, дык можна ўявіць, якую разнастайную працу па зьбіраньні і досьледах вядзе настаўніцтва. Апрача зьбіраньня слоў і фольклёру, апрача мэтэоролёгічных і фэнолёгічных назіраньняў, тут адзначаюцца (у п. 10) шмат іншых прац.

Сабраны біолёгічныя колекцыі сухіх расьлін (Шубадзераў),
„ гэрбары расьлін, колекцыю казурак (Кляшчук),
„ сыстэмат. колекц. жукоў Віцебшчыны (987 экз.).
(205 экз.)—(Радкевіч).
„ шмат выпісаў па гістор. стракоз Мазыршчыны (Бандарэнка).
„ Прылады старажытнай культуры: малаткі, монэты і інш. (Многаў).

Дасьледваў гліны і інш. (Былінскі).

З перагледжаных (на выбар) 123 „картак падліку краязн. працы", дасланых настаўнікамі, заўважваецца, якая праца прыцягвае большасьць краязнаўцаў-настаўнікаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Зьбіраньне слоўнікав. мат. (43.000 сл.) | 77ас. | 61%. |
| 2. | „ фольклёру і этногр. мат. | 46 „ | 37%. |
| 3. | „ гістарычн. помнікаў і матар'ялу | 51 „ | 41%. |
| 4. | „ мат.прыроды (зельнікі і колекцыі) | 22 „ | 18%. |
| 5. | Мэтэор. і фэнолёг. назіраньні | 40 „ | 32%. |
| 6. | Дасьлед. па экономіцы | 21 „ | 17%. |
| 7. | „ па географіі | 16 „ | 13%. |
| 8. | Розныя апісаньні | 19 „ | 15%. |

Вядома, што гэтыя лічбы і %% толькі прыблізна паказваюць характар і кірунак краязнаўчай працы настаўніцтва,—але-ж яны адпавядаюць і жывым уражаньням пры спатканьні (на зьездах, конфэрэнцыях, пры аб'ездах) з масавымі працаўнікамі.

Яшчэ адна значная праца праводзіцца многімі настаўнікамі: гэта апісаньні—раёнаў, сельсаветаў, мястэчак, вёсак, вазёр, і інш. На першым месцы ў гэтай справе стаіць настаўнік А. Немцаў (Асіпав р. Бабр. акр.), які падаў вельмі дакладныя апісаньні Замоскага і Зборскага с. с. Асіп. р. (першае надрукавана у № 6-7 „Н. Кр.“ б/г.).

Наогул, навукова-краязнаўчая праца, якая з кожным годам у БССР пашыраецца, базуецца галоўным чынам на настаўніцтве. Чарговыя заданьні бягучага году:—дасьледваньне асаблівасьцяй беларускіх гаворак (паводле праграмы, распрац. Некрашэвічам і пр. Бузуком,—разасланай 1000 настаўнікам), сыстэматычнае вядзеньне фэнолёгічных назіраньняў (у 100 пунктах), складаньне архэолёгічнай карты, працяг зьбіраньня слоўнікавага і фольклёрнага матар'ялаў (асабліва ў далучанай Гомельшчыне) і інш.—усё гэта разьлічана галоўным чынам на краязнаўца-настаўніка.

І можна спадзявацца і быць упэўненым, што нашы настаўнікі-краязнаўцы—як у горадзе, так і ў вёсцы,—узяўшыся за краязнаўчую працу сьвядома і добраахвотна,—будуць праводзіць яе з такой-жа шчырасьцю, добрасумленнасьцю і посьпехам,—як гэта было дагэтуль у многіх раёнах. Распачаўшы, настаўніцтва ня сойдзе ўжо з гэтай сьцежкі, якая прывядзе краіну працоўных да лепшага жыцьця, вызваленага Кастрычнікам. Няхай 10 гадавіна яго яшчэ больш замацуе краязнаўчую працу ва ўсіх куточках Беларускай ССР, як і ўсяго Саюзу ССР.

---

А. Шашалевіч.

# Краязнаўчы друк на БССР к 10 гадавіне Кастрычніка.

Краязнаўчы друк на БССР прыкметна пачынае расьці толькі з 1924 году, калі для Савецкай Беларусі зьявілася фактычная магчымасьць культурнага і экономічнага будаўніцтва. Але і за гэты кароткі тэрмін, к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавай рэволюцыі лік краязнаўчых выданьняў у нас ужо вельмі значны і нават самы беглы агляд іх у невялікім артыкуле зьяўляецца заданьнем цяжкім. З гэтае прычыны, для зручнасьці разгляду, мы краязнаўчыя выданьні БССР падзелім на дзьве групы: 1) краязнаўчыя выданьні такіх навукова-аўтарытэтных установ, як Інстытут Беларускае Культуры, Горацкая С.-Г. Акадэмія, Дзяржаўны Беларускі Унівэрсытэт, Дзяржплян і г. д. і 2) выданьні масавых краязнаўчых організацый—акруговых таварыстваў краязнаўства і Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры.

Для нас вельмі цікава другая група краязнаўчых выданьняў, бо яны відавочна сьведчаць аб значных дасягненьнях нашых масавых краязнаўчых організацый у рэалізаваньні сваёй дасьледчай працы. З прычыны гэтага, адносна краязнаўчых выданьняў першай групы (навуковае краязнаўства) мы абмяжоўваемся толькі пералікам іх, а больш падрабязна будзем гаварыць аб популярна-краязнаўчых выданьнях на БССР перад дзесяцігодзьдзем Кастрычнікавай рэволюцыі.

Навуковае краязнаўства на Беларусі за гэтыя гады мае значныя дасягненьні. У галіне вывучэньня прыроды Беларусі і яе паасобных раёнаў неабходна паказаць такія выданьні Інбелкульту: 1) матар'ялы да геолёгічнага і глебазнаўчага вывучэньня Беларусі. Працы Першае Ўсебеларускае Глебазнаўчае Конфэрэнцыі 16-17 красавіка 1924 г. Выданьне 1926 г. стар. 130, цана 1 р. 50 к. У зборніку змешчана больш дзесятку нарысаў па геолёгіі і глебазнаўству Беларусі, з іх асабліва каштоўнымі зьяўляюцца арт. проф. Я. Афанасьсева („Акрыцьцёвыя пароды Беларусі"), проф. Тэрлецкага („Геолёгічныя досьледы на Беларусі ўлетку 1923 г.") і проф. В. Касаткіна („Аб глебах Беларусі"). 2). Працы Навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі С. Гаспадаркі ў Горках, т. I і II, выданьне 1926 і 1927 г. У зборніках шэраг навуковых прац па досьледах сельскай гаспадаркі. Выразна-краязнаўчы характар маюць артыкулы: проф. Салаўёва („Фэнолёгічныя назіраньні ў 1925 г."), проф. М. Бурштэйна („Матар'ялы да вывучэньня садоўніцтва Беларусі" і „Вынікі 50 гадовае дасьледчае працы Я. Мароза ў садоўніцтве"), Е. Кесаравай (Нарыс расьліннасьці Чапялінскага балота), проф. С. Мельніка („Стары Парк" пры акадэміі), проф. А. Ключарова („Спроба вывучэньня мясцовых палявых культур"), М. Ганчарыка („Беларускія назовы расьлін" ч. I) і інш. 3) Зборнік прац па вывучэньні флёры і фаўны Беларусі. Выданьне 1927 г. У зборніку зьмешчаны працы трох прыродазнаўцаў Беларусі: А. Фядзюшына („Падарож на Пціч і матар'ялы для вывучэньня орнітофаўны Беларусі" і „Вынікі фаўністычнай экспэдыцыі па Віцебшчыне і на Дняпро ў 1924 г."), І. Зьбіткоўскага („Справаздача аб дасьледваньні Слуцкае акругі ў 1925 г.") і О. Палянскай („Гео-ботанічны нарыс Мазырскае акругі").

Архэолёгія, археографія і гісторыя Беларусі прадстаўлена за апошнія гады такімі зборнікамі: 1) Працы Першага Зьезду Дасьледчыкаў Беларускае Архэолёгіі і Археографіі 17-18 студзеня 1926 г., выданьне 1926 г. цана 1 р. 50 к. У зборніку артыкулы проф. М. Доўнар-Запольскага, З. Даўгялы, М. Мялешкі, А. Ясенева і В. Дмітрыева аб архіўных фондах на Беларусі і за яе межамі; 2) Юбілейны зборнік „Чатырохсотлецьце беларускага друку" — сцэцыяльныя артыкулы па пытаньнях беларускага гуманізму і гісторыі друку; 3) „Беларускі архіў" — зборнік актаў, XVII-XVIII ст. выданьне 1927 г. 4) Гістарычна-археолёгічны зборнік № 1, выданьне 1927 г. У зборніку досьледы вядомых гісторыкаў і археолёгаў Беларусі: Доўнар Запольскага, М. Шчакаціхіна, У. Пічэты, В. Дружчыца, З. Даўгялы, А. Ляўданскага („Нэолітычныя стаянкі ў Смаленскай губэрні"), І. Сербава („Археолёгічныя раскопкі ў ваколіцах Менску ў вясну 1925 г.") і Харламповіча („Монэтныя скарбы Бел. Дзярж. Музэю"); 5) Rok 1863 na Minszczyznie, Zbior mate-

rii lów odds. III Dep. Polycyi) — выданьне Польскага аддзелу ІБК.

У галіне дасьледваньня мовы Інстытутам Беларускае Культуры выдадзена некалькі брошур і зборнікаў: 1) А. К. Сержпутовский. Отчет о поездке в Гомельскую губ. в 1926 г.; 2) Ант. Полевой. О языке населения Новозыбковского у. Гомельской губ.; 3) П. Бузук. Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў. Гутаркі Невельскага і Вяліскага паветаў. 4) П. Расторгуев. Говоры восточных уездов Гомельской губернии в их современном состоянии. 5) Расторгуев. Северско-белорусские диалекты. 6) А. Сяржпутоўскі. Зборнік беларускіх народных казак. Мы пералічылі найбольш суцэльныя навукова-краязнаўчыя выданьні. Зразумела, імі не абмяжоўваецца беларуская навукова-краязнаўчая літаратура за апошнія гады. Па аддзельных пытаньнях шмат зьмяшчалася краязнаўчых матар'ялаў у час. „Савецкае Будаўніцтва" за 1926-27 г. (1/4 прыблізна артыкулаў час. маюць краязнаўчы характар). Таксама пэрыодычна можна заўважыць працы краязнаўчага характару ў працах Бел. Дзярж. Унівэрсытэту, асабліва №№ 6-7 і 12 за 1926 г. (В. Пичета. Крестьянское движение Белоруссии в 1905 г.). Ня мала краязнаўчых матар'ялаў зьмяшчалася ў час. „Полымя", „Маладняк", асабліва па гісторыі рэволюцыйнага руху (гл. бібліографію па гэтым пытаньні ў арт. У. Ігнатоўскага, зьмешчаным у гэтым № „Нашага Краю").

Разглядаючы краязнаўчую продукцыю, якая выдадзена сіламі нашых масавых краязнаўчых організацый, неабходна заўважыць, што толькі 4 акруговыя краязнаўчыя т-вы здолелі закласьці грунт для сваёй выдавецкай чыннасьці, а раённыя т-вы яшчэ не набраліся моцы для гэтага.

Барысаўскае акруговае Т-ва Краязнаўства, якое цяперака, дзякуючы ліквідацыі Барысаўскай акругі, зьлілося з Менскім Акруговым Т-вам Краязнаўства, выдала яшчэ ў 1925 г. толькі адну кніжачку „програм для вывучэньня раёну".

Аршанскае Акруговае Т-ва Краязнаўства выдала ў 1926 г. невялікі (34 стар.), але каштоўны зборнік па апісаньні Аршаншчыны. У зборніку зьмешчаны працы проф. Лунгерсгаўзена „Нарыс геолёгічнае пабудовы Аршаншчыны", проф. Салаўёва „Фаўна Аршаншчыны", Кіпрыянца „Балотныя абшары Аршаншчыны", П. Фірсава „Галоўныя шкоднікі саду ў 1925 г." і нарыс Д. Васілеўскага „Краязнаўчая справа на ўсходзе Беларусі". Зразумела, вышэйпамянёныя артыкулы не даюць поўнага малюнку па зачэпленых пытаньнях, але затое даюць першую спробу параёнавага навуковага апісаньня. Віцебскае Акруговае Т-ва Краязнаўства за 1925-26-27 гады наладзіла шырокую выдавецкую чыннасьць, якая справядліва выклікала вялікі лік газэтных і часопісных заметак і рэцэнзій ня толькі ў Саюзным (расійскім і украінскім), а нават і ў замежным друку. Т-ва выдала каля дзесятка брошур, адзін вялікі зборнік і краёвы слоўнік жывой мовы. Брошуры выдадзены гэткія: 1) Аўхімель Л. Экономічны нарыс БССР. Сянно, 1925 г. 16 ст. 2) Багдановіч А. Новая беларуская літаратура. Віцебск, 1925 г. 26 ст. 3) Касьпяровіч М. Беларуска-расійскі слоўнічак. Віцебск., 1925 г. 56 ст. 4) Іпэль, А. Беларускае мастацтва. Пераклад з нямецкае мовы. Віцебск, 1925 г. 26 ст. 5) Касьпяровіч М. Беларуская архітэктура. Віцебск, 1925 г. 52 ст. 8 мал. 6) Фурман І. Крашаніна, матар'ялы да гісторыі яе ў Віцебшчыне. 1 і 2 выданьні, 1925 г. 64 ст. 15 мал. 7) Фурман І. Віцебск у гравюрах Юдовіна. Віцебск, 1926 г. 8) Шлюбскі, А., Крашаніна (набіванка). Віцебск, 1926 г. 13 мал. 32 ст. З пералічаных брошур тры першыя ня маюць нічога агульнага з краязнаўствам і выдадзены т-вам як відаць у мэтах беларусізацыі. Брошуры 4, 5 на прыкладах народнага мастацтва і архітэктуры Віцебшчыны ўмела пропагандуюць неабходнасьць вывучэньня мастацкага мінулага і сучаснага Беларусі. Брошуры Фурмана і Шлюбскага, А. зьяўляюцца каштоўнымі і цікавымі краязнаўчымі выданьнямі. Так напр., „Матар'ялы да гісторыі крашаніны ў Віцебшчыне". І. Фурмана мелі 2 выданьні і з вялікай увагай былі адзначаны час. „Этнографія" (выд. Усесаюзнай Акадэміі Навук) і замежнымі беларускімі выданьнямі („Крывіч", „Жыцьцё беларуса" і г. д.). Гэтаму канешне спрыяла і тое, што брошура І. Фурмана выдадзена надзвычайна добра з мастацкага боку. Другая праца І. Фурмана „Віцебск у гравюрах Юдовіна" зьяўляецца цікавым досьледам краязнаўчай тыпізацыі ў творах аднаго з найбуйнейшых яўрэйскіх мастакоў.

Зборнік „Віцебшчына" т. І, які выдала Віцебскае Акруговае Т-ва, рэдагаваўся. М. Касьпяровічам і мае 220 ст. Вышаў з друку ў 1925 г. На Беларусі гэта першы краязнаўчы зборнік ва ўласным сэнсе слова. Ён ахапляе ўсе галіны жыцьця Віцебшчыны (апрача рэволюц. руху, народнай творчасьці і мовы). Плян зборніка вызначаецца паўнатою і можа быць узорам. Па зьместу зборнік не пазбаўлены значнай цікавасьці. Найбольш каштоўнымі і даючымі нешта новае зьяўляюцца зьмешчаныя ў зборніку: 1) Пасьмертны твор А. П. Сапунова „Кароткі нарыс гісторыі Віцебску", які чытаецца за поэтычны твор; 2) М. Шчакаціхіна „Матар'ялы да гісторыі беларускага малярства XVIII ст."—навуковае апісаньне збору Віцебскага Дзяржаўнага Музэю,. 3) Г. Красьнянскага „Музэйныя помнікі рамесьніцкіх організацый старога Віцебску"; 4) Проф. Брэжго „Архівы і Архіўная праца ў Віцебшчыне"; 5) Багародзкі „А. П. Сапуноў"—характарыстыка. Другія артыкулы зборніка вельмі малы па разьмеры. У зборніку змешчана шмат інструкцыйнага матар'ялу (больш 10 програм і інструкцый, з іх неабходна падкрэсьліць програмы проф. Лунгерсгаўзена для вывучэньня вазёр, рэк і г. д.). Апрача ўсяго

гэтага, зборнік дае бібліографію Віцебшчыны і хроніку мясцовага культурнага жыцьця.

Наогул, зборнік „Віцебшчына“ навочна падкрэсьлівае, якія вялікія пэрспэктывы і магчымасьці адчыняюцца перад акруговымі т-вамі краязнаўства, калі яны згуртуюць мясцовыя культурныя сілы, накшталт таго як гэта зроблена ў Віцебску.

У самы апошні час, больш як праз два гады пасьля пачатку працы, вышла новае выданьне Віцебскага Акр. Т-ва. Гэта „Віцебскі краёвы слоўнік“—М. Касьпяровіча. Слоўнік мае каля 400 старонак і навочна паказвае, наколькі пладатворна колектыўная краязнаўчая праца. У ім каля 40.000 слоў, а самім аўтарам запісана каля 11.000 слоў, усё іншае ў сырым выглядзе сабрана звычайнымі пачынаючымі кразнаўцамі. Слоўнік—колёсальная праца, якая магла быць выканана толькі дзякуючы надзвычайна шпаркаму тэмпу жыцьця і плянава організаванай сетцы краязнаўчых ячэяк Віцебшчыны. Віцебскі слоўнік — выданьне, якім акруговае т-ва можа ганарыцца. На жаль цана яго (3 р. 50) не пад сілу пачынаючым краязнаўцам, якія захацелі-б на вопыце слоўніка навучыцца працаваць у гэтым кірунку.

Магілеўскае Акруговае Т-ва Краязнаўства ў палове гэтага году выдала свой зборнік „Магілеўшчына“. Гэта досыць паважная (па надворным выгляду) кніжка—180 ст. У зборніку ёсьць усе разьдзелы: прырода, гісторыя, экономіка, але толькі аддзелы гісторыі і часткова экономікі складзены ўдала і ня выклікаюць зьдзіўленьня. Другія аддзелы носяць адбітак рэдактарскай няўмеласьці. Некаторыя памылкі друку і няўдалыя звароты выклікаюць дасаду. Самы няўдалы аддзел этнографіі, за выключэньнем заметкі В. Гарбацэвіча „Аб слаўнікавых асаблівасьцях Магілеўшчыны“, якая зьвяртае на сябе ўвагу. У аддзеле „краязнаўства“ (?) ёсьць цікавы артыкул І. К. Мацьвыёнка „Магілеўшчына, як об'ект краязнаўчага вывучэньня“.

Ня гледзячы на значныя недахопы, зборнік „Магілеўшчына“ дае свой каштоўны ўклад у краязнаўчую літаратуру. Ня толькі краязнаўцы Магілеўшчыны, але кожны, хто цікавіцца жыцьцём Беларусі, перачытае артыкулы І. М. „Нарысы з мінулага Магілеўшчыны“, Я. Сушынскага „Аб гандлі людзьмі на Магілеўшчыне“, І. Мацьвыёнка „Сялянскі рух на Магілеўшчыне ў 1905 г.“ і др. Канешне краязнаўцы Магілеўшчыны скарыстаюць і бібліографію Магілеўшчыны, якая зьмешчана ў зборніку. Праўда, неабходна мець на ўвазе, што гэта бібліографія далёка ня поўна.

Неабходна сказаць і аб выданьнях ЦБК. Пачынаючы з 1925 году ЦБК выдала два зборнікі „Прац І і ІІ Ўсебеларускіх Краязнаўчых Зьездаў“, якія адбыліся ў 1926 і 1927 г. і рэгулярна выдае краязнаўчы штомесячнік „Наш Край“, поўны комплект якога за гэтыя гады складае тоўсты том (80 аркушаў—1.300 ст.). У часопісе зьмешчана шмат новага і цікавага аб розных кутках Беларусі, але галоўнае значэньне часопісу ў тым, што ён зьмяшчае вялікі лік програм, анкет, інструкцый, схэм і г. д., адным словам усяго таго, на чым вучацца працаваць нашы краязнаўцы.

Такім чынам беларускае краязнаўства, якое толькі з канца 1924 г. пачала рэалізаваць сваю працу ў краязнаўчых выданьнях, цяпер, к дзесяцігодзьдзю Кастрычнікавай рэволюцыі, можа спадзявацца, што ў далейшым яму забясьпечаны буйны росквіт. Парукай гэтага зьяўляецца падтрыманьне Савецкай уладай і Комуністычнай партыяй выдавецкай чыннасьці нашых краязнаўчых організацый.

# Інструкцыйна-краязнаўчая літаратура, выдадзеная Ц. Б. Краязнаўства.

Да гэтага часу ў часоп. „Наш Край“ і „Працах I і II Ўсебел. Краязн. Зьезду“ надрукавана інструкцый, програм, анкет, і іншага інструкцыйнага матар'ялу 72 №№; з іх па вывучэньні прыроды і географіі краю —32; па грамадзка-экономічным вывучэньні 15, па культурна-гістарычным 12; па школьных краязнаўству і організацыйных пытаньням 13. Разабрацца ў такой колькасьці інструкцыйных матар'ялаў часта бывае цяжка для пачынаючага краязнаўца, тым больш, што па адным пытаньні можа быць некалькі програм, нясходных між сабою. А таму разгляд усяго надрукаванага да гэтага часу інструкцыйнага матар'ялу прадстаўляецца нам своечасовым і карысным.

Для зручнасьці карыстаньня ўвесь інструкцыйны матар'ял „Нашага Краю“ дзеліцца згодна прынятым аддзелам краязнаўчай працы.

### I. Прыродна-географічнае вывучэньне краю.

(Ботаніка, зоолёгія, анатомія, геолёгія, мэтэоролёгія, фэнолёгія, географія, экскурсіі).

*Проф. Васількоў. Як зьбіраць расьліны* „Наш Край“, № 1 за 1925 г. стар. 34—37.

Інструкцыя каштоўна тым, што паказвае сьціслую сувязь вывучэньня расьліннасьці краю з геоботанічнымі досьледамі. Яна намячае два асноўныя віды краязнаўчай працы ў галіне ботанікі: 1) Фэнолёгічныя нагляданьні над расьлінамі (набраканьне, поканьне пучкоў на дрэвах, усходы траў, красаваньне і г. д.); 2) Зьбіраньне колекцый засушаных расьлін (прынцыпы правільнага зьбіраньня расьлін). Інструкцыя не дэталізавана і для больш дасканальнага ўразуменьня спосабаў працы з расьлінамі спасылаецца на кнігу проф. С. Растоўцава „Как составлять гербарий“, Москва. Госиздат. 1924 г. цена 30 к.

*М. Зьбіткоўскі. Аб морве і гадоўлі шаўкоўнага вусеня ў Слуцкай акрузе.* „Наш Край“, № 1 (4), 1926 г. стар. 29.

Морва—тутавае дрэва. На Беларусі зусім добра яно расьце, а значыць магчыма разьвіваць шаўкоўніцтва. Аўтар, каб дапамагчы высьвятленьню пытаньня аб морве на Беларусі, зьмяшчае анкетку аб пасадках гэтага дрэва ў нашай краіне.

*О. Полянская. Аб удзеле краязнаўчых організацый у справе геоботанічнага дасьледваньня Беларусі.* „Наш Край“, № 1 (4), 1926 г. стар. 30—32.

Артыкул мае характар інструкцыі па складаньні флёрыстычных картак для дрэўных парод таго ці іншага раёну. Неабходна заўважыць, што для плянавай працы згодна гэтай інструкцыі неабходна папярэдняе хаця павярхоўнае знаёмства з расьліннасьцю свайго раёну і прынцыпамі вывучэньня расьлінных згуртаваньняў.

*М. Зьбіткоўскі. Аб зборы лекавых траў.* „Наш Край“, № 4—5 (7—8), 1926 г., стар. 20—25.

На Беларусі налічваецца больш сотні лекавых расьлін. Некаторыя з іх ужываюцца ня толькі ў народнай, але і ў навуковай мэдыцыне. Артыкул пералічае хоць ня ўсе віды лекавых расьлін на Беларусі, але затое дае інструкцыю, як зьбіраць, сушыць і захоўваць лекавыя травы. Прыведзена яшчэ апісаньне трох найбольш пашыраных лекавых расьлін —падбела, дмухаўца і лантуша майскага.

*М. Зьбіткоўскі. Настаўленьне да зьбіраньня расьлін і назіраньняў над імі.* „Наш Край“ № 5 (20) і 6—7 (21-22) 1927 г., стар. 35-63 і 91-108.

На беларускай мове гэта самы поўны падручнік па мэтодыцы і тэхніцы зьбіраньня расьлін. Такія пытаньні, як паляпшэньне культур у сувязі в вывучэньнем расьліннасьці, экскурсіі, морфолёгічныя колекцыі, апрацоўка сабраных расьлін, сушка іх, монтыроўка гэрбарыя, азначэньне расьлін і г. д.—усе гэтыя пытаньні дасканальна распрацованы. Паказана ўся бягучая літаратура па пытаньнях аб зборы расьлін.

*Проф, С. П. Мельнік. Да пытаньня аб апісаньні паркаў Беларусі.* „Наш Край“, № 4 (19) 1927 г. стар. 53-57.

Дасьледваньне і апісаньне бышых панскіх гнёздаў на Беларусі яшчэ не распачыналася. У артыкуле высьветлена пытаньне і прыкладзена програма, па якой гэтыя досьледы трэба рабіць.

*Аб укладаньні географічнага слоўніка.* „Наш Край“, № 12 (15), 1926 г. стар. 63-66.

Географічны слоўнік дае матар'ял для вывадаў па гісторыі, этнографіі і мове і зьяўляецца настольнай даведачнай кнігай для кожнага, хто вывучае з таго ці іншага боку Беларусь. Праца па складаньні слоўніка надта адказная, вялікая і разьлічана на доўгі тэрмін. Гэтая інструкцыя зьяўляецца першым крокам у гэтай галіне і не прэтэндуе вы-

старчаюча высьветліць усе бакі гэтай новай справы.

*Я. Б. Кавалёнак. Да культуры хмелю на Беларусі.* „Наш Край", № 5 (20), стар. 18-20.

Спроба зарэгістраваць пітомнікі хмелю на Беларусі.

*Праф. Б. К. Тэрлецкі. Кароткая інструкцыя да зьбіраньня вестак аб некаторых глінах, пяскох і каменьнях Беларусі.* „Наш Край" № 2-3, 1925 г. стар. 31-42.

Інструкцыя карысна для тых краязнаўцаў, якія ўжо маюць элемэнтарныя веды з геолёгіі. Для тых, хто толькі прыступае да вывучэньня карысных выкапняў Беларусі, інструкцыя рэкомэндуе цэлы шэраг падручнікаў, якія лёгка набыць ці знайсьці ў бібліотэцы. Да інструкцыі прыкладзен апытальны ліст для атрыманьня адказаў аб карысных выкапнях Беларусі.

*Прыродныя фарбы Беларусі.* „Наш Край", № 8-9, (11-12) 1926 г. стар. 33.

Прыродазнаўчая сэкцыя ІБК апрацавала невялікую анкету па рэгістрацыі прыроднага матар'ялу, які ўжываецца на Беларусі для афарбоўкі тканін і інш. рэчаў. У анкеце вызначаны толькі самыя простыя і нескладаныя запытаньні і адказаць на іх вельмі лёгка кожнаму краязнаўцу.

*М. Грамыка. Геолёгічныя матар'ялы краязнаўчыя гурткі.* „Наш Край", № 6-7 (9-10), 1926 г. стар. 38-44.

Як зьбіраць геолёгічныя матар'ялы. Спосабы геолёгічнай экскурсіі. Інструкцыя складзена для найбольш моцных краязнаўчых гурткоў.

*Інструкцыя да зьбіраньня беларускіх народных тэрмінаў па анатоміі жывёл* (апрацована Зоолёгічнай падсэкцыяй Прыродазнаўчае сэкцыі Інбелкульту)—„Наш Край" № 1 (4), 1926 г. стар. 47—53.

Добра паказан шлях і спосаб зьбіраньня народных слоў, што адносяцца да анатоміі жывёл. Інструкцыя ілюстравана 7 малюнкамі, якія высьвятляюць сутнасьць гэтай галіны краязнаўства.

*Праф. П. Салаўёў. Аб вывучэньні малярыі.* „Наш Край", № 2-3 (5-6), 1926 г. стар. 39-40.

Заметка аб важнасьці вывучэньня малярыйных камароў на Беларусі зьмяшчае і інструкцыйныя заўвагі, як зьбіраць камароў і куды іх накіроўваць.

*Праф. П. Салаўёў. Вывучэньне рыбных багацьцяў Беларусі.* „Наш Край", № 1 (16), 1927 г. стар.62-64.

Да гэтай заметкі далучана анкета па вывучэньні рыбных багацьцяў Беларусі і інструкцыя для зьбіраньня рыб. Першая для свайго запаўненьня не вымыгае ніякай асаблівай падрыхтоўкі, апошняя мае на ўвазе тых краязнаўцаў, якія жадаюць заняцца гэтым пытаньнем больш дакладна і глыбей.

*Праф. Яцанкоўскі. Аб зьбіраньні шасьціногіх у пачатку вясны* „Наш Край", № 2-3 (5-6), 1936 г., стар. 41-43.

Коратка і вельмі популярна падаюцца асноўныя правілы зьбіраньня мясцовай фаўны, і кожны, хто мае хоць невялікую зацікаўленасьць да прыроды, павінен пазнаёміцца з інструкцыяй.

*Аб распаўсюджаньні стронгі (форэлі) на Беларусі.* „Наш Край", № 6-7 (9-10), 1926 г. стар. 69.

Распаўсюджаньне ручаёвай форэлі на Беларусі ня вывучана. Прыродазнаўчая сэкцыя ІБК падае кароценькую анкету, каб больш-менш высьветліць гэтае пытаньне (месца, дзе сустракаецца форэль, у якім ліку, спосаб лоўлі, час лоўлі, меры аховы).

*Праф. П Салаўёў. Аб пералётах птушак.* „Наш Край", № 2 (17), 1927 г. стар. 24-29.

У артыкуле прыводзіцца програма назіраньняў над пералётам птушак і намечаны шэраг пытаньняў (анкетнага характару) аб гнёздаваньні іх. Рэкомэндуецца даступная кожнаму краязнаўцу літаратура ў гэтай галіне, праўда, троху ўстарэлая.

*Да пытаньня аб шляхох пралётаў птушак.* „Наш Край", № 3 (18), стар. 58.

Кароценькая і вельмі простая схэма вестак, якія даюцца краязнаўцамі па пытаньні аб шляхох пралёту птушак.

*Інструкцыя да зьбіраньня матар'ялаў па вывучэньні чмялёў.* „Наш Край", № 4 (19), стар. 63-64.

Чмялі—галоўныя апылкавацелі канюшыны. С.-Г. сэкцыя ІБК зьмяшчае анкету па вывучэньні чмялёў і дае маленькую інструкцыю да яе.

*Месца прыродазнаўства ў краязнаўчай працы.* Зб. „Працы І Усебелар. Краязн. Зьезду" стар. 45-48.

Даклад А. Фядзюшына. Паказаны заданьні асноўныя спосабы краёвага дасьледваньня прыроды.

*Анкета для абсьледваньня пытаньня аб стане аховы прыроды ў БССР.* „Наш Край", № 12 (15), 1926 г. стар. 67.

Анкета мае мэтай высьветліць стан аховы прыроды ў розных раёнах Беларусі, лік асоб, якія зацікаўлены гэтай справай і даныя аб помінках прыроды. Кожны аматар прыроды вельмі мала затраціць часу на адказы па гэтай анкеце.

*Праф. А. У. Фядзюшын. Ахова прыроды і школа.* „Наш Край", № 8-9 (11-12), стар. 5-18.

Высьветлена значэньне школы ў справе аховы прыроды і тыя конкрэтныя мерапрыемствы, якія павінна ўжыць школа, каб зьдзейсьніць ідэі аховы прыроды.

*Анкета для выяўленьня стану экскурсійнае справы.* „Наш Край", № 4 (19), 1927 г. стар. 60.

Мэта кароценькай анкеты—статыстычна падлічыць на Беларусі экспэдыцыі, экскурсіі, падарожы і вандраваньні і скарыстаць дасьледчую працу іх.

*Парадак разбору матар'ялу экскурсій*

(першыя крокі энтомолёга). „Наш Край“, № 4-5(7-8), стар. 77-78.

Нататкі, што рабіць з матар'яламі, якія сабраны на энтомолёгічных экскурсіях.

*М. Алесін. Падарожы па Беларусі.* „Наш Край“, № 2 (17), 1927 г. стар. 30-36.

Мэтоды і маршруты (12) падарожаў па Беларусі. Артыкул вельмі каштоўны тым, што па кожным маршруце паказана літаратура, якая неабходна для папярэдняй падрыхтоўкі падарожы. Па кожным маршруце літаратура вызначана асобна.

*Мінімальная програма фэнолёгічных назіраньняў* (паводле програмы, апрацаванай асаблівай камісіяй пры расійскім т-ве аматараў сьветазнаўства)—„Наш Край“ № 1 за 1925 г. стар. 54.

Програма-анкета намячае асноўныя фэнолёгічныя зьявы, але не падае ніякіх тлумачэньняў і заўваг адносна мэтодаў назіраньня гэтых зьяў.

*Інструкцыя для асноўных наглядяньняў над сьнегавым насьцілам, над мяцеліцамі і над узьніманьнем і замярзаньнем рэк.* „Наш Край“, № 10-11, (13-14) 1926 г. стар. 51-60.

Навуковае і практычнае значэньне гэтых нагляданьняў вялікае: яны пры правільнай пастаноўцы даюць магчымасьць плянаваць народную гаспадарку. Інструкцыя ў популярнай і сьціслай форме дае ўсё, каб гэтыя нагляданьні вяліся правільна. Да інструкцыі далучаны 4 ўзоры дакладных запісаў мэтэолёгічных нагляданьняў.

*Проф С. Мельнік. Фэнолёгічныя нагляданьні над дрэўнай расьліннасьцю* (з програмай нагляданьняў і кароткай інструкцыяй). „Наш Край“, № 3 (18), 1927 г. стар. 40-57).

Аўтар даводзіць, што вельмі цяжка, а часам нават немагчыма весьці фэнолёгічныя назіраньні паводле програм, якія ёсьць, бо кожны наглядальнік добра ведае толькі адну групу нагляданьняў, а програмы вельмі абцяжараны вялікім лікам об'ектыўнасьцяй. Гэта азначае, што адзін краязнаўца можа дасканала весьці нагляданьні над садовымі дрэвамі, другі над птушкамі, трэці над палявымі расьлінамі і г. д. Згодна гэтаму аўтар дае програму фэнолёгічных нагляданьняў над дрэвамі і кустамі і невялікую інструкцыю, як іх рабіць. Аўтар адмоўна адносіцца да вядзеньня фэнолёгічных дзеньнікаў, бо іх немагчыма навукова апрацаваць. Спосаб, якім толькі магчыма весьці фэнолёгічныя нагляданьні, — запаўненьне зараней складзенай табліцы. Да інструкцыі і програмы прыкладзена ведамасьць фэнолёгічных нагляданьняў над паасобнымі дрэвамі. Дадзеная програма зьяўляецца досыць поўнай. Пры немагчымасьці яе выканаць аўтар дае і скарачэньні програмы. Для пачынаючых краязнаўцаў гэта вельмі важна.

*Програма фэнолёгічных назіраньняў для Гомельшчыны.* „Наш Край“, № 4 (19), 1927 г. стар. 47-53.

Програма каштоўна ў тэй яе частцы, якая датычыцца так званай „агульнай фэнолёгіі“. У другой частцы яна перацяжарана. Да програмы дадазены тлумачэньні аб мэтодзе працы і ўзор зводнай табліцы фэнолёгічных назіраньняў, ня вельмі ўдала складзенай. Вельмі добра, што пералічана ўся літаратура па пытаньні.

*Проф. М. Бурштэйн. Фэнолёгічныя нагляданьні ў садоўніцтве.* „Наш Край“, № 4 (19), 1927 г. стар. 43-46.

Фэнолёгічныя нагляданьні па садоўніцтве ў межах БССР вядуцца ў нязначным маштабе. З прычыны гэтага даецца кароценькая програма гэтых нагляданьняў і неабходныя папярэднія заўвагі.

*Інструкцыя і програма фэнолёгічных назіраньняў.* Зб. „Працы II Ўсебел. Краязн. Зьезду“, стар. 45-50.

Даклад проф. Салаўёва. Програмай ахоплены: назіраньні над расьлінамі, над птушкамі, шасьціножкамі і рознымі жывёлінамі.

*Вывучэньне клімату БССР.* Зборнік „Працы II Ўсебел. Краязн. Зьезду“, стар. 36-44.

Даклад Макарэўскага. Агульныя падставы мэтэоролёгічных досьледаў на Беларусі.

## II. Грамадзка-экономічнае вывучэньне краю.

(Прымысловасьць, коопэрацыя, быт, мова, народнае мастацтва).

*Інструкцыя для запаўненьня анкеты аб вясковых промыслах і хатніх рамёствах Беларусі.* „Наш Край“, № 4-5 (7-8), стар. 73-76.

Складзена С.-Гасп. сэкцыяй ІБК (пададдзел хатніх рамёстваў). Анкета выдадзена паасобна і запаўненьне яе без паказанай інструкцыі ня можа быць зроблена.

*Програмы па вывучэньні хатніх рамёстваў і саматужнай прамысловасьці Беларусі.* Зб. „Працы II Ўсебелар Краязн. Зьезду“, стар. 57-63.

Даклад Рака. Дзьве програмы; адна для вывучэньня асобных промыслаў, другая—для вывучэньня ўсіх промыслаў і рамёстваў.

*Я. Ракаў. Пастаноўка падлічэньня бюджэту часу беларускага селяніна.* „Наш Край“, № 2-3 (5-6), 1927 г. стар. 70-76.

Высьветлены асаблівасьці падлічэньня бюджэту часу селяніна, мэта падлічэньня, як будзе зроблена падлічэньне і дададзена інструкцыя, як падлічаць.

*І Гармізэ і Я. Ракаў. К абсьледваньню нізавога коопэрацыйнага апарату.* „Наш Край“, № 4-5 (7-8), 1926 г. стар. 64-72.

Програма абсьледваньня складзена Асоцыяцыяй Навуковай Організацыяй Працы пры ІБК. Мэта—паляпшэньне асноў дзейнасьці коопэрацыі. Програма мае анкетны характар. Да ея ёсьць дадаткі—схэмы статыстычнага характару.

*Г. Парэчын. Аб зьбіраньні матар'ялаў па народным звычаёвым праве.* „Наш Край“.

Кароценькая заметка і разам з ёю анкета, якая мае мэту зарэгістраваць усе звычаі, адбіваючыя жыцьцё вёскі (права на зямлю,

маемасьць, падзел гаспадаркі і г. д.). Анкета складзена Праўнаю Сэкцыяй ІБК. Ілюстрацыяй да анкеты зьяўляецца арт. Я. Бонч.-Асмалоўскага „Аб вывучэньні звычаёвага права на Беларусі“, „Наш Край“, № 5 (20), 1927 г. стар. 5-12.

*Інструкцыя да зьбіраньня народнага слоўніка-тэрмінолёгічнага матар'ялу ў беларускай мове* (апрацавана Камісіяй ІБК па ўкладаньні слоўніка жывой беларускай мовы) „Наш Край“, № 1, 1925 г. стар. 49-53.

Інструкцыя ў сучасны момант дапаўняецца: 1) інструкцыяй да зьбіраньня беларускіх народных тэрмінаў па анатоміі жывёл, „Наш Край“, № 1 (4,) 1926 г. стар. 47-53. 2) Ад камісіі для ўкладаньня слоўніка жывой беларускай мовы, „Наш Край“, № 10-11 (13-14), 1926 г. стар. 61-62. 3) Аб зьбіраньні народнага слоўнікавага матар'ялу ў беларускай мове ў 1927 г. „Наш Край“, № 3 (18), 1927 г. стар. 55-57.

4) Натальлін. Аб зьбіраньні слоўніка жывой мовы, „Наш Край, № 2-3 (5-6), 1926 г. стар. 44-48.

Бяз гэтых неабходных заўваг і паправак інструкцыя траціць некаторую сваю вартасьць.

*Мовазнаўчая праца краязнаўчых арганізацый.* Зб. „Працы І Ўсебел. Краязн. Зьезду“, стар. 48-56.

Даклад С. Некрашэвіча. Каштоўныя заўвагі аб зьбіраньні дыялектолёгічнага і слоўнікавага матар'ялу краязнаўчымі арганізацыямі.

*М. Касьпяровіч. Як утварыўся Віцебскі краёвы слоўнік.* „Наш Край“, 1927 г. № 1.

Для краязнаўцаў, якія вядуць мовазнаўчую працу, неабходна пазнаёміцца з артыкулам, які наглядна перадае вопыт мовазнаўчай працы на Віцебшчыне.

*Програма зьбіраньня вуснае народнае творчасьці* (складзена Літаратурнай Камісіяй Інбелкульту). „Наш Край“, № 2-3, 1925 г. стар. 43-47.

Програма падрабязна высьвятляе, што трэба запісваць, як трэба запісваць, ад каго запісваць і якія ведамасьці трэба дадаваць да запісаў. Працуючы па програме, трэба мець на ўвазе, што рабіць запісы стэнограмай не дасягае мэты і што ведамасьці, якія неабходна дадаваць, можна значна скараціць і абмежавацца самымі неабходнымі.

*Зьбіраньне і апрацоўка фольклёру.* Зб. „Працы І Ўсебел. Краязн. Зьезьду“, стар. 56-59.

Даклад М. Гарэцкага. Вельмі каштоўныя думкі аб арганізацыі дасьледчай працы над белар. фольклёрам.

*Програма-інструкцыя для зьбіральнікаў беларускай музычна-этнографічнай творчасьці.* (Апрацована сакратаром Песеннай Камісіі ІБК А. Грыневічам). „Наш Край“, № 1, 1925 г., стар. 45-48.

Програма разьлічана на асоб, якія знаёмы з асновамі музыкі наогул. Для працы па програме неабходна папярэдняе азнаямленьне з гісторыяй і этнографіяй белярускага народу, з асноўнымі зборнікамі вуснай і музычнай творчасьці і асаблівасьцямі мовы таго раёну, дзе зьбіральнік будзе весьці працу. У програме азначана ўся літаратура, якая неабходна для гэтага. Дадаткам да програмы ёсьць „Агляд музычнага фольклёру“ А. Грыневіча, „Наш Край“, № 4 (19), 1927 г., што трэба ўзяць пад увагу.

*Тлумачэньні да анкеты па зьбіраньні народных мэлёдый.* Зб. „Працы І Ўсебел. Краязнаўч. Зьезду“, стар. 59-61.

Грыневічам паказана музычная літаратура белар. фольклёру.

*М. Шчакаціхін. Спосабы зьбіраньня матар'ялаў з беларускага мастацтва.* „Наш Край“, № 2-3 (5-6), 1926 г. стар. 62-69.

Програма разьлічана на самыя шырокія колы краязнаўцаў, асабліва ў тэй частцы, якая датычыцца сучаснага народнага мастацтва—ткацтва і разьбярства. Яна дае магчымасьць стала і плянава арганізаваць зьбіраньне ўзораў народнага орнамэнту. Для вывучэньня мастацтва старажытнага, як патрабуючага больш шырокага кругагляду і падрыхтоўкі, програма таксама вызначае агульныя падставы працы.

*Ад Тэатральнае падсэкцыі Інстытуту Беларускае Культуры.* „Наш Край“. № 2-3 (5-6), 1926 г. стар. 79-80.

Пералічаны ўсе матар'ялы, якія неабходна зьбіраць для заснаваньня тэатральнага музэю на Беларусі і па якіх магчыма было-б скласьці гісторыю беларускага тэатру.

*Анкета аб сучасным стане народнага мастацтва.* „Наш Край“, № 4 (19) 1927 г. стар. 61-62.

Анкета дапаўняе програму, замешчаную ў „Нашым Краі“, № 2-3 (5-6), 1926 г. стар. 62-69.

**III. Культурна-гістарычнае вывучэньне.**
(гісторыя, архэолёгія, рэволюцыйны рух, монографічнае апісаньне паселішч).

*М. Мялешка. Апытальны ліст да зьбіраньня народных вераваньняў і прадстаўленьняў, зьвязаных з каменем, і вестак аб каменных помніках гісторыка-архэолёгічнае значнасьці.* „Наш Край“, № 1 (4), 1926 г. стар. 43-46.

Анкета складаецца з 39 пытаньняў, якія ахапляюць усё, што датычыцца існаваньня каменных помнікаў на Беларусі (легэнды, казкі, песьні, надпісы, паданьні і г. д.).

*Краязнаўчая праца ў галіне гісторыі і архэолёгіі.* Зб. „Працы І Ўсебел. Краязн. Зьезду“, стар. 61-62.

Тэзы дакладу проф. Доўнар-Запольскага аб вывучэньні курганоў, гарадзішч, зарысовак іх плянаў, зьбіраньні старых грамат і г.д.

*Ахова помнікаў старасьветчыны і прыроды.* Зб. „Працы І Ўсебел. Краязн. Зьезду“, стар. 62-63.

Тэзы дакладу т. Мароза аб вывучэньні помнікаў прыроды, гісторыі, культуры і быту свайго краю, якія неабходна ахоўваць.

*Укладаньне архэолёгічнай карты Беларусі.* Зб. „Працы ІІ Ўсебелар. Краязнаўчага Зьезду“, стар. 50-57.

Даклад Зьм. Даўгялы. Паказана, якія пом-

нікі мінулага жыцьця чалавека на тэрыторыі БССР неабходна занатаваць, запісаць і нанесьці на архэолёгічнтю карту. Прыведзены знакі для складаньня гэтае карты.

*Да ўсяго грамадзянства БССР.* „Наш Край“, № 6-7 (9-10), 1926 г. стар. 68.

Адозва Сэкцыі па вывучэньні рэволюцыйнага руху на Беларусі з анкетай аб рэволюцыйных дзеячох Беларусі. Анкета вельмі няпоўная і яе неабходна перапрацаваць.

*Аб зборы бібліографіі да дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі.* „Наш Край“ № 4 (19), 1927 г. стар. 62-63.

Адозва Беларускай Дзяржаўнай бібліотэкі, якая апрацоўвае поўную бібліографію пэрыодычных выданьняў, якія вышлі з 1917 г. на тэрыторыі Беларусі.

*Програма апісаньня паселішчаў гарадзкога тыпу*, гарадоў, мястэчак, пасадаў, гандлёвых сёл і інш. „Наш Край“, № 1, 1925 г. стар. 56-58.

Програма апрацавана Географічнай падсэкцыяй Прыродазнаўчай сэкцыі ІБК і мае мэтай даць плян для зьбіраньня вестак аб гарадох, мястэчках і іншых паселішчах краю Програма недахопы мае: протокольны характар яе, адсутнасьць неабходных заўваг, не намечана гісторыя рэволюцыйнага руху.

*Вывучэньне народнага быту.* Зб. „Працы I Ўсебел. Краязн. Зьезду“, стар. 63-69.

Даклад т. Мялешкі аб вывучэньні матар'яльнай і духоўнай культуры краю—асноўныя палажэньні.

*Вывучэньне мястэчка.* Зборн. „Працы II Ўсебелар. Краязнаўчага Зьезду“, стар. 73-80.

Даклад Аляксандрава. Намечаны асноўныя лініі ці пункты вывучэньня сучаснага мястэчка: гістарычная дынаміка мястэчка і сучасны новы быт і новая экономіка яго.

*В. Самацэвіч. Вывучэньне вёскі—неадкладная задача краязнаўчых організацый.* „Наш Край“, 1927 № 6-7 (21-22) стар. 3-4.

Паказаны два кірункі вывучэньня: 1) монографічнае вывучэньне і 2) вывучэньне пасобных момантаў.

*А. Немцаў. Замоскі сельсавет Асіпав. раёну Бабр. акругі.* „Наш Край“ 1927 г. № 6-7 (21-22) стар. 19-47.

Для кожнага краязнаўцы неабходна знаёмства з гэтай першай монографіяй аднаго сельсавету Асіп. раёну. Монографія цікава як па зьместу, так і па сваёй форме. Матар'ялы для яе зьбіралі сябры раённага т-ва краязнаўства.

*Схэма санітарна-бытавога дасьледваньня і апісаньня вёскі.* „Наш Край“, 1927 г. № 6-7 (21-22), стар. 81-90.

Схэма ахапляе гісторыю, топографію, вадазабясьпеку, дэмографію, экономіку, санітарны быт, фізычны стан, культурны ўзровень і грамадзка-політычны быт вёскі. Апрача гэтага прыведзена досыць поўна літаратура, якая датычыцць мэтодыкі вывучэньня вёскі.

## VI. Мэтодыка краязнаўства і школьнае краязнаўства.

*Што рабіць раённым краязнаўчым таварыствам.* „Наш Край“, № 1, 1925 г. стар. 41—44.

Плян апісаньня раёну. Першачарговыя і важныя заданьні апісаньня раёну не падкрэсьлены. Няма таксама інструкцыйных указаньняў.

*М. Касьпяровіч. Організацыя краязнаўчага руху.* „Наш Край“, № 12 (15), 1926 г. стар. 6—9, № 1 (16), 1927 г. стар. 17—21, № 2 (17) 1927 г. стар. 6-11, № 3 (18), 1927 г. стар. 7—9.

Аўтар вельмі практычна і яскрава намячае шэраг момантаў у масавай краязнаўчай працы: гурткі краязнаўства, раённыя і акруговыя т-вы краязнаўства, сувязь іх з мясцовымі ўстановамі і організацыямі ЦБК, краязнаўчыя організацыі ў асьветных установах, рэалізацыя краязнаўчай творчасьці (зьмяшчэньне матар'ялаў у друку, організацыя ўласных выданьняў, рукапісныя часопісы, шапірографы, шклопісы і г. д.), краязнаўчыя вандраваньні (падрыхтоўка і мэты) і г. д.

*Статуты краязнаўчых організацый БССР.* „Наш Край“, № 12 (15), 1926 г. стар. 58—62 (анкета для ўступленьня ў краязнаўчую організацыю, статут гуртка краязнаўства), № 1 (16), 1927 г. стар. 65—73 (статут раённага і акруговага т-ваў) і № 2 (17), 1927 г. стар. 51—58 (статуты школьнага гуртка, гуртка пры тэхнікуме і курсах і т-ва пры ВНУ).

*Програма першапачатковага азнаямленьня з краязнаўствам.* „Наш Край“, № 10—11 (13—14), 1926 г. стар. 49—50.

Програма намячае літаратуру, неабходную для азнаямленьня са значэньнем і зьместам краязнаўчай працы.

*„Як праводзіцца вывучэньне Асіпавіцкага раёну“.* Зборнік „Працы I Ўсебел. Краязн. Зьезду“, Менск 1927 г. стар. 25—30.

Кароткі зьмест дакладу А. Немцава, які быў зачытаны на зьезьдзе. Артыкул дае магчымасьць пазнаёміцца з тэхнічным бокам дасьледваньня раёну і прыёмамі вывучэньня природы, прамысловасьці, этнографіі і гісторыі раёну сіламі масавых краязнаўчых організацый.

*Організацыя і тып раённага краязнаўчага музэю.* Зборнік „Працы II Ўсебел. Краязнаўчага Зьезду“, стар. 30-35.

Даклад Г. Аляксандрава. Вызначана лінія ў стварэньні мясцовых музэяў і дадзена ўзорная схэма раённага краязнаўчага музэю.

*М. І. К. Жанчына і краязнаўства.* „Наш Край“, № 2 (17) 1927 г. стар. 37-38.

Аб задачах і спосабах удзелу жанчын у краязнаўчай працы і яб жанчыне, як об'екце краязнаўчых доследаў.

*М. І. Касьпяровіч. Першыя крокі школьна-краязнаўчай працы.* „Наш Край“, № 12 (15), 1926 г. стар. 43-48.

Апублікаваньне вынікаў школьна-края-

знаўчаі працы вучьняў дзьвёх школ Навікоўскай (Віцебшчына) і Ленінскае (Мазыршчына).

*Краязнаўства і настаўніцтва.* „Наш Край", № 8-9 (11-12), 1926 г. стар. 3-4.

Аб неабходнасьці організацыі школьных краязнаўчых музэяў.

*Краязнаўства ў школе.* Зборн. „Працы II Ўсебелар. Краязн. Зьезду", стар. 63-71.

Даклад Шапялевіча. Паказваецца, якая краязнаўчая праца пасільна вучням таго ці іншага ўзросту.

*Краязнаўчая праца ў Вузах БССР.* Зборн. „Працы II Ўсеб. Краязн. Зьезду", стар. 72-73.

Даклад А. Сянкевіча.

*Студэнт, пазнай свой край* „Наш Край", № 10-11 (13-14).

Шэраг заданьняў краязнаўчай працы студэнцкай моладзі—у агульнай формуліроўцы.

*Г. Аляксандраў. Чарговыя задачы школьнага краязнаўства.* „Наш Край", № 10-11 (13-14). 1926 г. стар. 11-14.

Намечаны першапачатковыя заданьні школьнага краязнаўства.

---

Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры.

Рэдактар—З. Бядуля.

# ЗЬМЕСТ.

